# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА **№ 40—41 (250—251) 14 кастрычніка 1996 г.** КОШТ 5000 РУБЛЁЎ

## ШЛЯХ У 5 ГАДОЎ

1991...

НАШ ВЫБАР — ІНТЭЛЕКТ

А ЯК ЖА ЗАКОН?

КУЛЬТУРА І РЭПРЭСІІ

ГОРАД, ЯКОГА НЯМА

ПОСТМАДЭРНІЗМ

"КУПАЛІНКА, КУПАЛІНКА..."

НАЦЫЯ І ТЭРЫТОРЫЯ

СУКВЕЦЦЕ ТАЛЕНТАЎ — У БЕЛАРУСІ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЙ

НА МЯЖЫ ЭТНІЧНАГА І КАНФЕСІЙНАГА

ЦІ СТВАРЫЛІ ЎМОВЫ ДЛЯ МОВЫ?

ХТО ЗНОЙДЗЕ СКАРБЫ РАДЗІВІЛАЎ?

ТЭЛЕГУЛЬНЯ БЕЗ ПРАВІЛАЎ

УРАТАВАЦЬ КУЛЬТУРУ — АБАВЯЗАК ДЗЯРЖАВЫ

ЯН КАЗІМІР ВАЗА

КОСМАС ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

ЦІ ДАРУЧАЛІ ФАЛЬКУ АРЫШТАВАЦЬ МАЛЕВІЧА Ў ВІЦЕБСКУ?

"ДАЙЦЕ ГАЗЕТУ, ДАЙЦЕ ЧАСОПІС, ДАЙЦЕ КНІЖКУ!"

ТАЙНАПІС СКАРЫНЫ

ХТО ДАПАМОЖА МАЙСТРУ?

ТРАГЕДЫЯ РОДУ СКІРМУНТАЎ

ВЫШЭЙ ЗА ЎСЯЛЯКУЮ ПАЛІТЫКУ

ЗАКРОЙШЧЫКІ І АРХІТЭКТАРЫ

ПЛАЧ ПА ХРАМАХ ХРЫСТОВЫХ

МУЗЕЙ І ГРАМАДСТВА: ХТО КАМУ ВІНЕН?

ЗАМЕЖЖА НАМ НЕ ДАПАМОЖА

СУЧАСНЫ МАСТАК: ПРАРОК АЛЬБО БЛАЗЕН?

ПРЫЦЕНКІ БЕЛАРУСКАГА КІНО: РОСПАЧ ЦІ НАДЗЕЯ?

КІНО І ДАМІНО — ДЛЯ КАЛГАСНІКА?

ПАЗНАЙ СВОЙ РАДАВОД

З ДАЗІМЕТРАМ ПЕРАД ІКОНАЙ

ЧЫМ СЛОВА НАША ПРАРАСТАЕ?

ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ "БОМЖ"-ТЭАТРА

ЯК НАПІСАЦЬ МУЗЫКУ ДЛЯ ДЭТЭКТЫВА?

СУСТРЭЧА З МАРКАМ ШАГАЛАМ

ЛЕНІН У КУЛЬТУРЫ: ХРЫСТОС ЦІ АНТЫХРЫСТ?

ЯК МУЗЕЙ МОЖА ЗНІШЧЫЦЬ БАР'ЕРЫ?

ШТО ЗАСТАЛОСЯ АД ДОМА МАНЮШКІ?

...1996



ВІТАЕМ!

# НА АДРАС: МІНСК, ЧЫЧЭРЫНА, 1

*За пяць гадоў "Культура" здолела зарэкамендаваць сябе прафесійным, інфармацыйна-аналітычным, я б сказаў нават, энцыклапедычным выданнем, аднолькава цікавым і настаўніку, і бібліятэкару, і работніку сельскага клуба і супрацоўнікам міністэрства. Вы актыўна працуеце ў адной з самых адказных галін духоўнага развіцця нашага народа.*

*На старонках газеты ставіліся і ставяцца праблемныя пытанні культурнай спадчыны народаў Беларусі, адлюстроўваюцца сучасныя працэсы развіцця нашага грамадства, надаецца вялікая ўвага сацыяльнаму і культурнаму жыццю рэгіёнаў.*

*Газета стала своеасаблівым летапісам разнастайнага жыцця ў нашай маладой суверэннай краіне. Вы аказваеце адчувальную дапамогу міністэрству ў развязанні найважнейшых пытанняў, якія паўсталі перад намі ў гэты няпросты, складаны для Беларусі час. Неаднаразовыя сумесныя акцыі міністэрства і супрацоўнікаў рэдакцыі заўсёды пацвярджалі дзейснасць і важкасць друкаванага слова.*

*Мы падтрымлівалі і надалей будзем падтрымліваць памкненні газеты ў яе высакароднай місіі служэння святлу і дабрыні.*



*У дзень вашага маладога юбілею зычу калектыву штотыднёвіка поспехаў у захаванні і памнажэнні здабыткаў нацыянальнай культуры і ўмацаванні нашай дзяржаўнасці, а таксама больш шырокага выхаду на масавага чытача.*

**Аляксандр САСНОЎСКІ,**
**міністр культуры**
**Рэспублікі Беларусь.**

### *КАЛЕКТЫВУ РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ "КУЛЬТУРА"*

Дарагія сябры!

Прыміце маё прывітанне і сардэчнае віншаванне з нагоды першага пяцігоддзя газеты.

Шчыра зычу супрацоўнікам рэдакцыі, няштатным аўтарам і сябрам штотыднёвіка добрага святочнага настрою і новых творчых дасягненняў.

Спадзяюся, што і надалей галоўнай гераіняй газетных публікацый будзе яе вялікасць Беларуская Культура з усёй яе шматграннасцю і нацыянальнай адметнасцю, непаўторнай прыгажосцю і годнасцю, што выданне стане надзейным сябрам і духоўным апірышчам творчай інтэлігенцыі, работнікаў устаноў культуры, моладзі Беларусі, што на старонках "Культуры" знойдзе шырокае асвятленне тэма беларуска-расейскіх культурных сувязяў.



Шчодра засявайце сваімі лепшымі творчымі гатункамі культурную ніву Бацькаўшчыны, не шкадуйце сіл дзеля росквіту роднай зямлі і духоўнага ўзвышэння беларускага народа!

Крытычна ацэньвайце свае журналісцкія набыткі, каб не спыніцца на дасягнутым, а ісці наперад, пашыраючы тэматыку матэрыялаў і кола чытачоў газеты!

Хай спраўдзяцца ўсе рэдакцыйныя планы, а новыя творчыя ідэі апераджаюць наш імклівы, віхурны час, увасабляюцца ў грунтоўных, высокапрафесійных матэрыялах!

Натхнення і ўдач на шляху да чытача, да новых юбілейных дат!

**Іван КАРЭНДА,**
**начальнік Галоўнага сацыяльнага ўпраўлення Выканаўчага Камітэта Супольніцтва Беларусі і Расіі.**
г.Масква

Пачну з таго, што кожная цывілізаваная краіна мае такую газету, як газета "Культура". І сёння, калі ўздымаюць пытанне пра яе існаванне, пра магчымасць яе закрыцця, я хачу пажадаць, каб яна была заўсёды, як і 5 гадоў дагэтуль. Тое, што яе закрыюць, не дасць ніякай эканамічнай выгады, а вось страты духоўныя наша краіна панясе вялікія.

Усцешвае тое, што ў наш творчы саюз за апошнія пяць гадоў прыйшло шмат маладых таленавітых людзей. Гэтыя гады не прайшлі дарэмна, яны далі свой плён. У творчасці маладых з'явілася гарадская тэма. Можна сказаць, што гарадская тэма ў беларускай літаратуры "зрабіла крок з вёскі ў горад".

Вельмі хацеў бы, каб і гэтыя маладыя таленты, і слаўны калектыў газеты "Культура" засталіся вернымі сваім караням і тады нашу беларускую культуру ніхто не выкараніць!

**Уладзімір ПАЎЛАЎ,**
**сакратар Беларускага саюза пісьменнікаў.**

## ТРОШКІ ГІСТОРЫІ, РАДАСЦІ І... НЕПАКОЮ

У часы гарбачоўскай перабудовы ўсё часцей і часцей на старонках газет і часопісаў, на тэлеэкранах стала з'яўляцца слова "культура". Арганізоўваецца Савецкі фонд культуры, а ўслед за гэтым — яго Беларускае аддзяленне.

Вядомыя дзеячы савецкай культуры атрымалі квоту ў апошні Вярхоўны Савет СССР і былі вылучаныя туды ад розных грамадскіх арганізацый. Сярод іх былі і слынныя беларусы — Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Уладзімір Стальмашонак, Ігар Лучанок. Стальмашонак, памятаецца, нават узначаліў адпаведную камісію ў Вярхоўным Савеце СССР, якая пачала стварацъ новае, прадыктаванае часам заканадаўства ў гэтай занядбанай галіне.

А Беларусь стала адзінай савецкай рэспублікай, якая першая, у 1990-м годзе, прыняла Закон аб культуры. Галоўным яго дасягненнем сталі прадэклараваныя на яе патрэбы 3 % з гадавога бюджэту. І хаця гэтыя працэнты ніколі не былі дасягнутыя, аднак у 1990 — 1992 гг. было выдадзена столькі друкаванай прадукцыі, прысвечанай беларускай культуры, гісторыі, мастацтву, што яе колькасць можна параўнаць хіба толькі з агульнай лічбай выданняў такой тэматыкі за ўсе папярэднія 75 гадоў савецкай улады.

З'явіўся шэраг новых перыядычных выданняў, і сярод іх наша сённяшняя "імянінніца" — газета "Культура". Ужо першыя яе нумары адпрэчылі крытычныя развагі тых, хто лічыў немэтазгодным нараджэнне гэтай газеты, маўляў, нашто адбіраць хлеб у "ЛіМа", "Спадчыны", "Мастацтва Беларусі". Але газета адразу займела сваё ўласнае адметнае аблічча, кола сваіх падпісчыкаў і заўсёдных чытачоў.

І гэта не дзіўна. Адны толькі гістарычныя "разгорткі" надалі ёй аўтарытэт і папулярнасць не толькі на Беларусі, але і за межамі — іх чыталі ў Цвяры і Калузе, Маскве і Ленінградзе, Ізмаіле, Мельбурне і Зальцбургу... Прысвечаныя забытым гістарычным падзеям, выбітным дзеячам, самым розным аспектам гісторыі айчыннай культуры, яны сталіся своеасаблівым падручнікам для навукоўцаў і студэнтаў, настаўнікаў і вучняў, спецыялістаў культуры і проста цікаўных людзей.

А яшчэ ж былі старонкі "Эліты", "Суплёту ідэй", якія ў хуткім часе пераўтварыліся ў літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО", які і цяпер займае ці не першае месца сярод гістарычна-філасофскіх выданняў краіны.

А як не прыгадаць інфармацыйна насычаны, іскрысты, маляўнічы "Мастыхін"!

Гэта дзякуючы "Культуры" чытачы маглі вандраваць па далёкай Ісландыі і Амерыцы, Германіі і Польшчы, Расіі і Літве, Францыі і Індыі, Італіі і Украіне.

А колькі было змешчана тут цікавых, унікальных фотаздымкаў — хто-небудзь падлічыў? Але бачылі ўсе!

І ўсякія спробы пазбавіць нас, сталых і адданых чытачоў "Культуры", свайго любімага выдання ёсць не што іншае, як шкодная, невядома кім сплянаваная акцыя наступу на самае дарагое, што ёсць у чалавека. Не дай вядзі Гасподзь такому здарыцца...

Вельмі хацелася б, каб газета "Культура" і ў XXI стагоддзі высока і годна несла паходню ведаў, асветы, духоўнае эмоцыі і сілы, як робіць гэта цяпер.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры, сябра рэдакцыйнай калегіі.**

Звяздоўцы віншуюць калег з "Культуры" з першым юбілеем, спадзяюцца, што ён будзе далёка не апошнім, што беларускае слова ў маладой і адначасова сталай газеце набярэцца моцы, што на яе старонках часцей будуць такія знаходкі, як "ЗНО"...

Як без культуры нельга ўявіць сабе звычайнае чалавечае жыццё, так і без "Культуры" ўжо не бачыцца газетны абшар краіны.

**Уладзімір НАРКЕВІЧ,**
**галоўны рэдактар газеты "Звязда".**

## КАБ ДАБРЫНЯ ПЕРАМАГЛА

"Культура" — гэта газета, якая з'яўляецца роднай як для тых, хто нешта спрабуе напісаць сам і ахвотна чытае тое, аб чым думаюць іншыя. Ад яе дапісаў вее дабрынёю. Няма тут матэрыялаў, якія б нядобра ці абразліва распавядалі пра людзей. Я сам з вёскі і ведаю, што ў нас нават на дрэннага чалавека не казалі, што ён дурны. Неяк абыходзіліся без злосці да яго, а проста адзначалі: хворы на галаву чалавек.

Думаю, што "Культуру" чытаюць усюды, бо яна разлічана не на якую эліту, а на паспалітага чалавека, якому хочацца пачуць добрае пра сваю старонку, аб сваіх суайчынніках. Мне здаецца, што арганізатары газеты ўмеюць працаваць з пачаткоўцамі. Недалужны допіс заўсёды зробяць такім, што аўтар, прачытаўшы яго ўжо надрукаваным у газеце, думае: няўжо гэта я напісаў? Тут эфект таго, як твар чалавека, можа нават зусім не фотагенічны, добры мастак падасць так, што ён прыцягвае гледача.

Думаю, што аўтарытэт штотыднёвіка будзе расці сярод тых, хто хоча, каб дабрыня перамагла ў нашым грамадстве. Гэта, можа, галоўнае, што трэба ў наш час, што наогул трэба для чалавека, калі ён чалавек.

Заставайцеся такімі ж мудрымі стваральнікамі лістоў для братоў-суайчыннікаў, для ўсіх тых, хто нарадзіўся на дабраслаўленай Беларусі. Зычу стваральнікам штотыднёвіка ў добрым здароўі дажыць да 1000 нумара — плёну вашых добрых сэрцаў і розуму.

**Якуб ЯКУБОЎСКІ,**
**пенсіянер,**
**беларускі татарын.**

## ЭКСПРОМТ

*Скрутны век*
*І час пануры,*
*Са святыняў чыняць здзек.*
*І не можа без "Культуры"*
*Жыць культурны чалавек.*

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

# ПАСОЛЬСКІ КЛУБ





Мяне заўсёды цікавіла і цікавіць культурнае жыццё. Менавіта газета "Культура" і дае гэткую магчымасць — праз яе я бачу ўсю разнастайнасць культурных падзей на Беларусі. Я ўдзячная тым людзям, якія працуюць у гэтым выданні, віншую іх з першым пяцігоддзем і спадзяюся на далейшае спрыяльнае супрацоўніцтва.

**Вера БАГАЛЬЯНЦ,**
**дырэктар нямецкага культурнага Цэнтра імя Гётэ.**

Нашыя народы звязваюць непарыўныя сувязі. Агульны гістарычны лёс склаўся так, што на працягу многіх стагоддзяў мы жылі разам у адных дзяржавах, гэта і сёння вызначае добразычлівыя суседскія адносіны, моцныя і плённыя кантакты паміж культурнымі дзеячамі і інтэлігенцыяй нашых краін. З набыццём незалежнасці вельмі важна не страціць набытыя кантакты, вопыт у супрацоўніцтве, паглыбляць іх і пашыраць. З усцешнасцю адзначу, што пасля пэўнага спаду інтэнсіўнасць кантактаў вяртаецца на належны ўзровень.

Сёння ў вельмі складаны час выключную ролю адыгрываюць сродкі масавай інфармацыі, асабліва тыя, што займаюцца культурніцкай праблематыкай. Яны дазваляюць чалавеку заставацца чалавекам, захоўваць і развіваць духоўнасць нацыі, падтрымліваць належны дыялог паміж дзяржавамі.

Віншую чытачоў і супрацоўнікаў штотыднёвіка "Культура" з пяцігоддзем, зычу далейшых поспехаў у нашай агульнай справе.

**Тарас АСАЎЛЕНКА,**
**Другі Сакратар Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь.**



*На імправізаваных "марках" — культурныя адметнасці краін: Альбрэхт Дзюрэр. "Аўтапартрэт з пейзажам" (Германія). Сабор Нотр-Дам ў Парыжы (Францыя). Помнік Тарасу Шаўчэнку ў Адэсе (Украіна). Каралеўскі замак на Вавелі. Кракаў (Польшча).*



У дзень нараджэння Вашай газеты я хачу павіншаваць творчы калектыў і пажадаць далейшай плённай працы на ніве культуры. Пяць гадоў — гэта няшмат, але Вы здолелі зрабіць газету цікавай. Разнастайныя падзеі культурнага жыцця сталіцы і краіны, кніжныя навінкі, кіна- і тэатральныя прэм'еры, інтэрв'ю з дзеячамі культуры — усё можна знайсці на старонках Вашай газеты. Хацелася б, каб газета выходзіла як мага часцей і давала магчымасць больш глыбокага знаёмства з культурай Вашай краіны.

Жадаю поспехаў і далейшага супрацоўніцтва!

**Франсуа ЛАРАН,**
**дарадца па культуры, навуцы і супрацоўніцтве Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.**

Для мяне асабіста газета "Культура" — гэта, перадусім, інфармацыйныя матэрыялы, і ні з якіх іншых газет я ніколі не дведаюся столькі пра культурнае жыццё на Беларусі. Я разумею, што для нашых братоў-беларусаў, сярод якіх мне давядзецца жыць некалькі гадоў, падзяляючы іхнія турботы і трывогі, культура зараз рэч — не менш важная, чым для палякаў сто гадоў таму, калі нас гвалтоўна пазбавілі сваёй дзяржаўнасці. Нельга забывацца, што менавіта ў той перыяд польскія сяляне вызваліліся ад прыгоннай залежнасці. Адчуваю, што сёння на Беларусі адбываюцца працэсы дзяржаўнага станаўлення, падобныя да нашых у мінулым стагоддзі. У такі пераломны для лёсаў нацыі перыяд культурніцкая інфармацыя падаецца мне нават больш істотнай за палітычную. Беларусі вострa неабходная газета, якая ўзнімае праблемы роднай культуры.



# З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ПОШТЫ...

Хай "Культура" застаецца святым сцягам Беларусі! Зычу вам далейшага творчага плёну, новых набыткаў і поспехаў! Хай жыве беларуская Культура! Дзякую вам за супрацоўніцтва з намі, за асвятленне на старонках газеты культурніцкіх акцый, што наладжваюцца з дапамогай нашага Пасольства, за падтрымку добрых стасункаў паміж нашымі краінамі ў галіне культурнага супрацоўніцтва.

**Павел ПШЭЦІШЭЎСКІ,**
**Першы Сакратар Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь.**



*Сябры нашай газеты — дыпламат Асвальда Леуцы (Італія) і сусветнавядомы акцёр Даніэль Альбрыхскі.*



## НАШ ПАВЕРХ

### ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!



Сёння спаўняецца пяць гадоў з таго часу, як Вы пабачылі першы нумар газеты "Культура". Дзяржаўнае выданне такога кшталту мае кожная незалежная краіна, і вельмі добра, што з Вашай дапамогай калектыў рэдакцыі сталеў год ад года, набываў пэўны вопыт і уласныя традыцыі.

Сёння газета "Культура" — не вузкапрофільнае выданне, а фактычна адзіны ў краіне летапісец культурных падзей, якія адбываюцца ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі. На нашых старонках з нумара ў нумар аналізуюцца і інфармацыйна асвятляюцца гістарычны і сучасны аспекты развіцця беларускай культуры, а таксама і культур нацыянальных меншасцяў. Рэгулярна друкуюцца матэрыялы пра культурнае жыццё замежных дзяржаў. Пад рубрыкай "Пасольскі клуб" паслы і саветнікі па пытаннях культуры расказваюць Вам пра свае музеі і мастакоў, навіны кіно і акцёраў, кнігавыданні і жыццё "зорак" музычнага мастацтва.

Газета таксама падрабязна асвятляе міжнародныя, рэспубліканскія і рэгіянальныя фестывалі, конкурсы, выставы, канферэнцыі. Пры гэтым даволі часта выступае ў ліку іх арганізатараў (Першы фестываль нацыянальных культур у г.Гродне, "Гасціны ў Галубка", "Беларускія фанфары", "Іграй, гармонік" і іншыя).

Падрабязна вядзецца на старонках "Культуры" размова пра праблемы ўмацавання інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі, сацыяльна-культурнае жыццё абласцей і раёнаў рэспублікі, самадзейную творчасць, музейную і бібліятэчную справы.

Па нашым меркаванні, газета "Культура" працуе сёння на стварэнне стабільнага грамадства ў нашай краіне і паспяхова выконвае задачы, ускладзеныя на яе заснавальнікам — Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

На вялікі жаль, цяперашняе стаўленне найвышэйшага дзяржаўнага кіраўніцтва да беларускамоўнага друку вымагае жадаць лепшага. Адзіная надзея ў нас — падтрымка чытачоў. Калі кола падпісчыкаў на газету пашырыцца, то і дзяржава не міне нас сваёй увагай. Падпісаўшыся на газету, Вы, шаноўныя чытачы, зробіце найлепшы падарунак "Культуры" да яе пяцігоддзя.

**З павагай
галоўны рэдактар
газеты "Культура"
Алег КАМІНСКІ.**

### "ШТО НЕ НАПІСАНА, ТАГО НЕ БЫЛО..."

Хто нават з адукаваных людзей чуў пра такую паўднёва-афрыканскую правінцыю — Квазулу-Наталь? У чэрвені бягучага года там адбыліся выбары мясцовай улады. У "Кодэксе гонару", які падпісалі прадстаўнікі ўсіх "спаборнічаючых" партый, былі наступныя словы: "абавязваемся паважаць журналістаў і выказваць да іх цярплівасць".

Чаму гэта там, у Афрыцы, у Квазулу-Наталь, такая любоў да нас, журналістаў? Калі б не чытаў яшчэ ў маладыя гады старажытных мысляроў, якія дзве тысячы гадоў таму ўжо ведалі: "Што не напісана, таго не было", дык і не здагадаўся б. Вось чаму — "любоў". І калі, хай і падчас "малога" юбілею газеты "Культура" (а, магчыма, і ў сувязі з ім), задумацца аб мікра-накладзе нашага выдання і ягонай макранеабходнасці для кожнай (нават, магутнай дзяржавы), аб ягоным амаль жабрацкім становішчы (а ў апошні час і



стане драматычнай няпэўнасці) і тых архіважных для нацыі і дзяржавы праблемах, якія спрабуе і нават іншы раз вырашае рэдакцыя (такія "pro" і "contra" можна пералічваць бясконца), — дык тады цяжка зразумець стаўленне ўладных структур і салідных кіруючых таварышаў да лёсу юбіляркі.

Я выйшаў на вуліцу і паставіў адно і тое ж пытанне трыццаці грамадзянам Беларусі, а дакладней, жыхарам яе сталіцы: "Ці чытаеце Вы газету "Культура"?" Ніводны... Ну, безумоўна, парнаграфія альбо нават проста скандальная хроніка — справа зусім іншая... Гэтая духоўная сівуха працуе на вяртанне беларусаў назад, у пячоры, да бязглуздзіцы і гвалту, таму што "парнуха" і натуралізм "выцягваюць" з самых ніжніх паверхаў чалавечай сутнасці сюды, да святла, апраметную, а газета "Культура", як у Высоцкага — "рвётся из жил, из всех сухожилий", каб сцвердзіць (адрадзіць!) прыярытэт духоўнасці і дзяржаўнасці, не даць чалавеку апусціцца ніжэй за хрысціянства. Наклады "супрацьпастаўляемых" выданняў няма сэнсу параўноўваць: біялогія заўжды больш зразумелая і больш танная за дух і любоў, бо для апошніх трэба быць (альбо вельмі хацець стаць) чалавекам.

Няўжо, пытаюся я ў самога сябе, такое стаўленне да адзінай "культуртрэгерскай" газеты ў краіне (наклад, фінансаванне, арэнда, аб'ём, перыядычнасць...) — гэта свядомае стаўленне? Няўжо дасюль не зразумела, што грэбаванне сваёй гісторыяй, якая шчыльна пераплятаецца з культурай і традыцыямі, вялікімі асобамі і вялікімі творамі, няўмольна прывядзе ў тую самую пячору, куды настойліва заклікаюць калярова-кідкія выданні фізіялагічнага накірунку?! А на што здольны духоўны жабрак? Ён нават і зямлю не ўзарэ, не кажучы ўжо пра штосьці іншае. "Хто стрэліць у мінулае з пісталета, у таго будучыня стрэліць з гарматы". Няма культуры — няма нацыі. Няма інфармацыі, няма яе носьбіта — прэсы, літаратуры, мастацтва, карацей, — няма культуры.

Я так мяркую: усё, што зараз адбываецца (узяць, да прыкладу, хаця б нашу газету), можа адбывацца таму, што, паводле навуковых дадзеных, усімі функцыямі арганізма кіруюць толькі 9 (!) працэнтаў мазгавых клетак. Мы яшчэ не зусім людзі, а мозг у нас — вунь які! Калі ж будзем выкарыстоўваць астатнія 91 працэнт? Тады, мабыць, дзеля свайго ж выратавання, паверым не самым горшым прадстаўнікам чалавечага роду, якія лічылі: "высокая духоўнасць — наймагутнейшая абарона". А мы ледзь-ледзь варушымся ад голаду і холаду, а культуру і "Культуру" — тую самую адзіную ахоўніцу — і зусім без штаноў пакінулі.

"Працэс", на самой справе, ідзе, — толькі невідушчы не ў стане гэтага пабачыць. Як атмасфера нашай планеты губляе жыццёва неабходны ёй азон, такім жа чынам нашае грамадства імкліва губляе сумленне — асноўнае рэчыва культуры. І вось тут Генадзь Шытаў, аўтар "вар'яцкай" тэорыі тарсіённых палёў (адкрыццё, як кажуць дасведчаныя людзі, не меншае за эйнштэйнаўскае), добра выказаўся: "Калі страчана сумленне, аблегчана дасягненне цалкам зямных мэтаў". Гэтай думкі хопіць для развагі не аднаму сучаснаму Гогалю або Шчадрыну.

Я думаю (я зноў думаю!): калі сабраць у адну залу людзей, ад якіх што-небудзь залежыць (чаму б не пафантазіраваць з нагоды юбілею?), хаця б лёс газеты "Культура", дык я б растлумачыў ім этымалогію слова "культура": культ — служэнне, ур — святло. Тады атрымоўваецца — служэнне святлу. Магчыма, узгадалі б пра дзяцей і жанчын, каханне і трагедыі, сяброў і вершы... А таксама пра тое, што пропускам у светлую будучыню можа быць толькі светлая душа...

З юбілеем, газета! Жыві! Без цябе так ніхто і не даведаўся б, што ў Салігорску працуе Аляксандр Кірычык, майстар-ганчар, які робіць унікальную "рабую" кераміку, страчаны рэцэпт якой ён здолеў аднавіць. Нідзе ў свеце няма больш такіх гліняных вырабаў. Як няма ў свеце і другой Беларусі, такой чароўнай, шчодрай, добрай і — непаўторнай зямлі! Але хто б даведаўся пра гэта, калі б не было Скарыны і Гусоўскага, Бялыніцкага-Бірулі і Шчамялёва, Купалы і Коласа, Шагала і Пэна, Быкава, Караткевіча, Барадуліна...

Калі раптам не стане газеты з сонечнай назвай "Культура"...

**Навум ЦЫПІС,
пісьменнік.**

### ПАРАДОКСЫ МАЛАДОСЦІ



Калі мне раптам нагадалі, што "Культуры" спаўняецца пяць гадоў, я зведаў дзіўныя пачуцці. Божа, няўжо столькі часу прабегла ўжо з моманту яе з'яўлення, з таго рамантычнага і ўзнёслага для Беларусі перыяду нараджэння дзяржаўнасці, падчас каторага я ў гэтай газеце працаваў! А з другога боку — няўжо "Культуры" так мала?! Няўжо толькі так нядаўна ўзнікла яна ў моры беларускай перыёдыкі, адразу гучна і рашуча аб сабе заявіўшы і здолеўшы за такі кароткі час заняць сваё, адметнае, месца?!

Мабыць, на газеце самым простым чынам адбіўся галоўны парадокс сучаснай моладзі — за свой кароткі яшчэ век маладыя людзі цяпер паспяваюць зрабіць многае. Шмат паспяваюць дасягнуць і маладыя газеты.

А потым, пасля гэтай першай, чыста эмацыйнай, рэакцыі нахлынулі ўспаміны.

Сама назва "Культуры", яе прызначэнне, яе пазіцыя патрабавалі, каб аўтарамі, гасцямі штотыднёвіка станавіліся людзі незвычайныя, творчыя — культуролагі і філолагі, мастакі і пісьменнікі, гісторыкі і філосафы, мастацтвазнаўцы і краязнаўцы. Сустрэчы з імі, гутаркі, знаёмствы пакінулі пэўны след у душы тады і не могуць забыцца і сёння, дапамагаючы нават іншы раз у маёй цяперашняй рабоце. А не кажу ўжо пра сам калектыў газеты — пра гэтых таленавітых, апантаных, адукаваных людзей, працаваць разам з якімі заўсёды было і прыемна, і цікава!

Зрэшты, пераконваць чытача "Культуры" ў таленавітасці і адметнасці аўтараў выдання наўрад ці ёсць патрэба — чытач і сам штотыдзень у гэтым пераконваецца.

А можа, у такім разе, успомніць пра атмасферу разняволенасці і шчырасці, сумленнасці і наватарства, якая панавала тады ў рэдакцыйным калектыве? Пра яркія, вострыя, запамінальныя артыкулы, якія з'яўляліся на старонках газеты? (Крый Божа, я не хачу сказаць, што ўсё гэта знікла сёння — проста мінулае заўсёды здаецца больш ружовым!) Аднак ці варта? Ці сціпла? Ці не будзе "Культуры" няёмка перад чытачом за такую "самарэкламу"?

Сказаць некалькі слоў пра месца, якое займае "Культура" на інфармацыйных абсягах Беларусі? Гэта было б, на мой погляд, настолькі ж недарэчна, як і спроба пераканаць касманаўта ў тым, што Зямля круглая. Ён жа бачыў гэта і без таго — на ўласныя вочы, і гэтаксама пра "месца і ролю сваёй газеты ў гісторыі" выдатна, а мо і лепш за іншых, ведае яе чытач!

Дык што ж тады дадаць?

Найлепш — далучыцца да віншаванняў і пажаданняў, якія ў гэтыя дні атрымлівае штотыднёвік, да соцень шчырых цёплых слоў, што выказваюцца ў яго адрас. Захоўвай, "Культура", і надалей сваю парадаксальнасць — свежасць і шчырасць маладосці, сталасць і сур'ёзнасць дасягнутых пазіцый! Удачы табе і поспехаў! Працуй для сваіх сяброў-чытачоў і дзеля тых, хто яшчэ абавязкова да цябе прыйдзе.

**Максім ГІЛЕВІЧ,
былы палітычны
аглядальнік "Культуры",
сёння — рэдактар
аддзела навін газеты
"Рэспубліка".**

### МОЙ ЖУРНАЛІСЦКІ НАТАТНІК



Падумаць толькі — маёй газеце споўнілася ўжо 250... Зрэшты скажу так: газеце 5 гадоў. І за гэты адрэзак часу прагартана 250 нумароў, за якімі хаваецца ўся наша спадчынная гісторыя на глыбіню вякоў. А значыць я не памыліўся, калі напачатку ўзгадаў: "Маёй газеце споўнілася 250..."

Сто з іх рабілася на маіх вачах. Вачах, якія не змыкаліся начамі напярэдадні чарговай рэдакцыйнай лятучкі, вёрсткі наступнага нумара і зрэшты народзінаў новага свайго артыкула.

Сёння беларуская "Культура" адлічвае свае нумары без мяне. Едучы на працу, выходжу на прыпынак раней. Затое кола людзей, з якімі даводзіцца сутыкацца, застаецца былым. У маім новым працоўным кабінеце гэтаксама напалена і кубкі не паспяваюць астываць ад новазаваранай кавы.

І тое, што дала, працягвае даваць мне МАЯ "Культура" — аб гэтым мае радкі.

І хаця сёння сваім журналісцкім матэрыялам надаю больш увагі, увагі — інтанацыі, голасу, эмацыйнаму пасылу, — шкадую, што не вяду свой журналісцкі нататнік. І гэтага так нестае мне...

Такім журналісцкім нататнікам для мяне была "Культура". Мая праца ў "Культуры".

Жывучы перажываннямі на працягу тыдня, выкладваеш іх, перажыванні, у адзін артыкул. Хто б ягоным героем ні быў, якая б у цэнтры ўвагі ні была падзея. Сем дзён тыдня фармавалі мой светапогляд і нібы выводзілі за мяне радкі. Я цудоўна памятаю свой першы "культураўскі" артыкул... Напэўна залішне сказана: так, згадка — замалёўка... Памятаю як сёння. А дакладней, сто нумароў таму гэта было. З юбілейнага выпуску "Культуры" пачыналася мая штотыднёвая праца ў штотыднёвіку.

У сваім дэбюце я апісваў, як бегаў па шапіках "Белдруку" каб зрабіць бліц-апытанне з пакупнікамі "Культуры". Мне ўсё не шэнціла. Аказваецца, у чарговым нумары "Культуры" выйшаў вялікі артыкул нейкага навукоўца, і ён літаральна дыхаў мне ў патыліцу — бегаў услед і скупляў усе экземпляры "Культуры". Рэдакцыйнае заданне было на мяжы зрыву. Вярнуўшыся дахаты, я ўзяў і напісаў... Зрэшты толькі тое, што вы ўсе самі прачыталі. Так адбыўся мой дэбют.

І роўна праз сто нумароў я дэбютую ў новай якасці, як пазаштатны аўтар. І герой гэтых нататак — я сам. І гэтаксама падчас выхаду новага святочнага нумара буду насіцца па шапіках "Белдруку" ў пошуках маёй "Культуры", на палосах якой згадкі людзей, з якімі поплеч прайшло амаль тры гады.

... І ў гэты дзень будзе так, як сто нумароў таму...

**Міхась РАВУЦКІ,
старшы рэдактар АТН
Нацыянальнай
дзяржаўнай
тэлерадыёкампаніі
Рэспублікі Беларусь.**

### СКРОЗЬ МАГІЧНЫ КРЫШТАЛЬ



Пяць гадоў — многа гэта ці мала? Ды і ў якой сістэме адліку знаходзіцца гэта "пяцігодка"? Лічыцца, што за першыя пяць гадоў жыцця чалавечая істота атрымлівае амаль усе арыенціры, якімі потым карыстаецца праз усё сваё існаванне. Але ці да месца такая аналогія, калі размова ідзе пра газету?

Я прыйшла ў калектыў "Культуры", калі толькі з'явіўся першы нумар. Падчас "хрышчэння" ў Доме літаратара ў кожнай прамове чулася: "Першы нумар..." І водгуллем уяўлялася: "Той, хто ідзе першым нумарам, мусіць быць адметны, адмысловы". І доўга потым яшчэ кожны наступны нумар меў быццам бы не парадкавы нумар, а імя, якое вымаўлялася так, што яўна патрабавала вялікай літары "на пісьме": "Другі, Трэці, ... Дзесяты..." Так было, пакуль дзіця не пасталела. Як журналіст-пачатковец (а я пачынала газетную працу менавіта ў "Культуры"), я адчувала гэта сталенне быццам уздымаючыся па прыступках: "Другая, трэцяя, дзесятая..." І з кожным матэрыялам, здавалася, пяро рабілася больш упэўненым. У поўнай адпаведнасці з тым рытмам, у якім набірала сілу газета.

## НАШ ПАВЕРХ

Мы з "Культурай" знаходзіліся ў дзіўным сімбіёзе, абменьваліся думкамі, вучыліся адна ў адной. Як двайняты, якія робяць першыя крокі.

Днямі я перагартала нумары пяці-, чатырохгадовай даўнасці. Папера ўжо паспела крышачку пажоўкнуць і наблізілася колерам да сярэднявечных пергаментаў. А можа, на газетныя старонкі проста патрапілі адбіткі залатой восені, пасланыя старым клёнам, што зазірае ў мае вокны?.. Я прачытала артыкулы, пераклады, гутаркі — і тыя, што пісала сама, і тыя, што рабілі мае сябры, — і адчула, што зноў знаходжуся ў тым недалёкім пяцігоддзі. Але не непасрэдна, а так, быццам пазіраю на лабірынт дасканала спланаванага і выбудаванага горада з вышыні птушынага палёту.

Я падарожнічала ў часе, адчуваючы, наколькі змяніўся і запаволіўся ён, наколькі менш уражлівай зрабілася сама. Разам з рамантычным дэвізам "Напісанае застанецца!" у свядомасці праносіліся найбольш яркія моманты пражытага. Я глядзела на нядаўні свет праз крышталь "Культуры" і разумела, што менавіта перыядычнае выданне высокага кшталту ў стане факусаваць святло на дэталях самых важных для душы, для розуму, для інтэлекту. І выбіраць з шырокага спектра будзённага жыцця тыя прамнікі, якія маюць сілу выкрышталізоўваць з народа нацыю.

**Галіна БУЛЫКА, рэдактар аддзела навукі і экалогіі часопіса "Беларуская думка".**

### АПЕЛЮЕ ДА ЧАЛАВЕКА



Хачу падзяліцца адным успамінам, звязаным з падзеямі трохгадовай даўніны, калі мне давялося працаваць адказным сакратаром у "Культуры". На першы погляд, той эпізод не мае адносінаў да размовы аб культуры як з'яве...

Калі адзін з кастрычніцкіх нумароў быў амаль цалкам звярстаны, прыйшлі трагічныя звесткі з Масквы: на вуліцах горада пануюць гвалт і "беспредел" — каля тэлецэнтра "Астанкіна" ідзе сапраўдны бой, ёсць забітыя і параненыя сярод мірных грамадзян. Ніхто не вымушаў газету "Культура" нешта пісаць пра падзеі ў краіне; тым болей, што было ясна — мы не паспяваем за іншымі сродкамі масавай інфармацыі, асабліва электроннымі (наперадзе яшчэ была "ўрачыстая трансляцыя" расстрэлу Белага Дома танкамі). Але ўсё ж вырашылі нешта напісаць, далі фотаздымак, атрыманы праз каналы БелТА. Далі, мусіць, таму, што не маглі гэтага не зрабіць.

Гаворка тут не пра палітыку (хоць сённяшняя рэчаіснасць у краіне міжволі наводзіць на пэўныя палітычныя алюзіі). Палітыка і палітыкі ў XX стагоддзі заўсёды мелі справу з "масамі мас"; нават самыя страшныя злачынствы рабіліся ад імя мас і ў імя іх. Культура, нягледзячы на крызіс, які яна перажывае, застаецца павернутай, у рэшце рэшт, да чалавечай асобы, яна апелюе да чалавека.

Не варта, я думаю, нават спрабаваць вызначыць, што ёсць культура — настолькі ўсеабдымнае і складанае гэта паняцце. Але некаторыя прынцыповыя рэчы прадстаўляюцца відавочнымі. Па-першае, сапраўдная культура можа быць толькі гуманістычнай па сутнасці. У іншым выпадку мы маем справу з антыкультурай. Па-другое, слова культура мае сэнс толькі ў спалучэнні са словам нацыянальная. Абстрактнай культуры не існуе ў прыродзе. Як мне здаецца, на гэтых прынцыпах пабудавана і канцэпцыя газеты "Культура". Гэта не значыць, што нехта дэкляраваў гэтыя прынцыпы зверху, а супрацоўнікам газеты засталося толькі ажыццяўляць іх. Хутчэй, "Культура" шукала сябе, сваё месца ў гісторыка-культурнай рэчаіснасці, свой шлях да чытача, эмпірычна, часам навобмацак. Свядома ці не свядома, рэдакцыя выбрала для сябе найцяжэйшы шлях — у пошуках культурнай самаідэнтыфікацыі яна пайшла ўглыб (філасофскі сшытак "ЗНО") і ўшыркі. Не толькі вяртанне славутых імёнаў у кантэкст сучаснасці, не толькі клубы і бібліятэкі, не толькі народная творчасць і рамёствы, але й палітыка, эстрада, спорт, адпачынак, нават астралогія — усё цікавіла газету. Змест дыктаваў і форму: улюбёным жанрам на старонках "Культуры" стаў фотакалаж. Канечне, нельга было абняць неабдымнае, і за разнастайнасцю і стракатасцю матэрыялу часам гублялася цэласнасць, перспектыва. Але — засталося адчуванне, што стан пастаяннага пошуку захапляў, уцягваў у яго і чытачоў...

Час мінае хутка. Змяніліся некаторыя прыярытэты, змянілася, так бы мовіць, "пастаноўка задач", абнавіўся калектыў рэдакцыі. Што засталося, на жаль, нязменным — дык гэта недахоп фінансавання. Тут становішча, бадай, яшчэ і пагоршылася. Грошай на культуру ў дзяржавы заўсёды не хапала. Але зараз адбылося нешта куды горшае: грошай няма ў чытача, які мусіць іншы раз выбіраць паміж газетай і кавалкам хлеба. Якім цынізмам на гэтым фоне гучаць абвінавачванні са старонак адной афіцыёзна-маладзёжнай газеты на адрас беларускамоўных выданняў у тым, што ў іх засталося зусім мала падпісчыкаў. Зніжэнне накладаў гэтых выданняў выклікае ў ворагаў беларускай культуры нейкую канібальскую радасць. Яны заклікаюць наогул пазбавіць дзяржаўных датацый гэтыя выданні альбо выдзяляць ім грошы ў залежнасці ад ступені паслухмянасці. У якасці альтэрнатывы прапануецца праект — аб'яднаць іх у адно. Мне здаецца, што гэта прыкладна тое самае, як спрабаваць аб'яднаць усе культурныя ўстановы горада пад адным дахам альбо — няхай даруюць мне калегі — колішняе ўзбуйненне калгасаў. Зразумела, калі гаворка ідзе аб элементарным выжыванні (газеты, музея, тэатра, культуры наогул) — не да сантыментаў. Пытанне толькі ў адным: якой цаной?

**Віталь ТАРАС**

### ДАПАМАГАЕ І МНЕ



Лічу, што беларусам сёння не з рукі азірацца назад. Ужо хаця б таму, што мы — маладая нацыя. Маючы на ўвазе, трымаючы ў сэрцы пэўны гістарычны вопыт, мы павінны рухацца. Ляцець, бы тая "Пагоня" ляціць... У нас няма на марнатраўства часу. Таму і пяць гадоў "Культуры" — хіба гэта тэрмін, падстава для успамінаў?! Хутчэй: пяцігодка "Культуры" — аснова, энергетычны штуршок у руху наперад. Гэта — галоўнае, першаснае. Работы наперадзе шмат. Вось за яе і дапамагае ўзяцца жыватворны крынічны "Культурны" глыток.

Дапамагае і мне асабіста. Усё жыццё мару пісаць пра тэатр, выяўленчае мастацтва, музыку. Гэта як нешта невыказна прыцягальнае. Пісаць і жыць ідэямі, вобразамі. У "Культуры" — за гэта перш-наперш я і ўдзячны газеце, калегам-настаўнікам —зрэдзьчасу ўдавалася пісаць, адкрываць для сябе, спрабаваць зразумець і тэатр, і жывапіс, і музыку. Хіба ж не шчасце — прафесійна займацца тым, што звычайныя людзі за адпачынак лічаць?!

Зараз натоўп (няўжо ўсе мы пераўтворымся ў пазбаўлены твару і твараў статак?) нішчыць, трушчыць культуру. Могуць (крый Божа ад такой перспектывы!) знішчыць, пакрыжаваць і "Культуру". Ужо вядомыя такія спробы. Як пазбегнуць навалы, як адолець бясконцую хвалю? Займець паболей рашучасці, смеласці, паболей старання ў вызначэнні пазіцыі. Лёгкая справа — пошук і выдача парад. Шмат цяжэйшы клопат — рабіць газету, павялічваць ці хаця б утрымліваць яе прастору. Паўтаруся: пры ўмове знявагі духоўнасці, пры ўмове абсалютнай знявагі нацыянальнай культуры. І часам, як гэта ні страшна, нават не з боку дзяржавы і яе інстытутаў, а з боку — "самих делателей этой культуры". Крыўдна. Ды плакаць, ліць слёзы — дорага каштуе ўсё гэта, не настаў яшчэ такі час. Застаецца адно: быць аптымістамі. Вось гэтага і жадаю "Культуры" і ўсім яе супрацоўнікам і аўтарам, усім чытачам!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, загадчык аддзела газеты "Звязда", былы адказны сакратар "Культуры" (ліпень 1995 — студзень 1996 гг.).**

## НАШ ПЕРШЫ ГАЛОЎНЫ...

"Ідэя гэтай кнігі наспявала даўно, апошнім жа часам жаданне яе рэалізаваць стала неадольным. Прыязджаючы да нас, турысты і дзелавыя людзі задаюць такія пытанні, якія гавораць пра тое, як слаба яшчэ ведаюць нашу Беларусь у свеце: "Што ў вас — мова альбо дыялект?", "Ці мелі вы сваю ўласную гісторыю?" і да таго падобныя. Аб тым жа пытаюць і беларусаў у свеце."



Аўтар гэтых радкоў — вядомая пісьменніца Вольга Іпатава была першым галоўным рэдактарам нашай газеты. І адметна тое, што, яшчэ працуючы ў "Культуры", яна пачынала збіраць матэрыял для гэтага, гранічна неабходнага для ўсёй беларускай культуры выдання. Кніга "Паміж Масквой і Варшавай" нядаўна выйшла ў свет у цудоўным сувенірным афармленні ў дзяржаўным выдавецтве "Полымя" на дзвюх мовах — беларускай і нямецкай. Бясспрэчна, талент і грамадзянскасць, аб'яднаныя ў адной Асобе — гэта заўсёды Перамога Культуры!




### АЎРА СТВАРАЛЬНАГА



Гэта цудоўнае слова — "Культура"!

Колькі з ім звязана падзей, пачуццяў, надзей, прыгожага, добрага!

Калі я ішла працаваць сюды, пакідаючы чыста журналісцкі асяродак, па наіўнасці меркавала, што ведаю нашу мову. Можа, валодаю ёю, разважала я, не так выдатна, як беларуская эліта, але не гэтак дрэнна, як сярэднестатыстычны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які скончыў сярэднестатыстычную школу, дзе беларускай мове, як вядома, вучаць дрэнна, і выпускнікі яе звычайна не ў стане звязаць два словы ў сказе. Гэта наша нацыянальная хвароба. За прыкладамі не трэба далёка ісці. Пра гэта яскрава сведчаць штодня беларускія радыё і тэлебачанне, калі журналісты бяруць інтэрв'ю ў высокіх чыноў альбо ў людзей на вуліцы. Як правіла, на пытанні, зададзеныя па-беларуску, толькі адзінкі адказваюць на мове карэннага насельніцтва краіны, ад назвы якога паходзіць слова — Беларусь. Смешна аднойчы было чуць па радыё разважанні вучня мясцовай школы, які адказваў па-расейску на прамоўленыя па-беларуску пытанні журналісткі, з фанабэрлівасцю гаворачы, што без цяжкасці аваладаў англійскай, нямецкай ды іншымі замежнымі мовамі...

Апынуўшыся сярод здольных маладых пісьменнікаў і паэтаў, якія карысталіся беларускай мовай штодзённа, якія жылі ў мове, я зразумела, што мае веды не ідуць у ніякае параўнанне з іхнімі. Размаўляючы кожны дзень па-беларуску з маімі калегамі, я акуналася ў стыхію роднага слова. Я пачынала адчуваць яго глыбінны сэнс, яго прыроду. Дзень за днём мае прымітыўныя веды пашыраліся. Адбываўся сапраўдны цуд! Я ўсё менш рабіла моўных і сэнсавых памылак, словы самі сабою, без асаблівых цяжкасцяў складаліся ў зладжаныя сказы.

Напачатку наша "Культура" месцілася ў непрыстасаваным памяшканні — былой чатырохпакаёвай кватэры, дзе і летам, і ўзімку было халодна, не хапала сталоў і крэслаў, паперы, на ўвесь калектыў меўся толькі адзіны тэлефон (трэба заначыць, што і зараз у новым памяшканні адзін тэлефон). Але гэткія спартанскія ўмовы зусім не адбіваліся на тым агульным натхнёным настроі, які панаваў у рэдакцыі.

Ужо пры сваім з'яўленні "Культура" мела асаблівую аўру, моцную стваральную энергетыку, якая прыцягвала людзей таленавітых і адукаваных, неардынарных і інтэлектуальных, інтэлігентных і высакародных. Тут не існавала прыземленай канкурэнцыі, а панаваў высокі творчы дух. Паміж намі, супрацоўнікамі, усталявалася нейкае незвычайнае сяброўства, заснаванае на тонкіх пачуццях і ўзаемапашане.

"Культура" нікога не абвяргала і ніколі не адмаўляла ў самавызначэнні нават тады, калі камусьці падавалася, што той ці іншы аўтар незразумелы, чыйсьці твор нязвыклы альбо занадта нетрадыцыйны. Менавіта дзякуючы "Культуры" Беларусь даведалася пра новыя імёны і таленты.

Сваім традыцыям штотыднёвік не здраджвае і зараз. Кожны свежы нумар і сёння працягвае рабіць адметныя адкрыцці.

Пяць гадоў мінула з часу стварэння беларускай "Культуры". Але той свет дабрыні, тая незвычайная духоўная моц, якія былі закладзеныя ў газеце яе першым рэдактарам Вольгай Іпатавай, застаюцца.

Колькі існуе Беларусь, столькі ж існуе яе цудоўная і непаўторная культура. Разам з імі наканавана быць і жыць нашай "Культуры".

Сто гадоў жыцця табе, дарагая "Культура"!

**Наталля КІРПІЧЭНКАВА, рэферэнт прэс-службы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

### ЁСЦЬ "ЛЕГІЁН"!



**Калі спартовец выступае не за сваю краіну, яго па аналогіі з вайскоўцам, што ваюе не пад сваім сцягам (класічны прыклад — Французскі замежны легіён), называюць "легіянерам".** Ёсць "легіён" у культурнай галіне. Калі я думаю, колькі добрых прафесійнікаў прайшло праз рэдакцыю "Культуры", каб потым стала ўладкавацца ў іншых выданнях, на радыё, тэлебачанні, мне хочацца назваць "Культуру" "школай легіянераў". Некалькі месяцаў працаваў у гэтай газеце і я. І каб не леташні "рэферэндум", калі цэнзурны ціск стаў надта ж адчувальны — дальбог, працаваў бы і дагэтуль.

Гэтыя некалькі месяцаў я лічу лепшымі ў сваёй журналісцкай практыцы. Гэта дзякуючы людзям, што былі вакол мяне. І хоць адзінае месца, дзе маім публікацыям утульна — гэта "лімаўская паласа", "Культуру" заўсёды прыгадваю з цеплынёю.

Калі б газета перастала існаваць, зліўшыся з нейкім іншым выданнем, я лічыў бы гэта асабістай стратай. Я не бяруся канкрэтна вызначыць месца, ролю, функцыю "Культуры" ў культурным працэсе. Хтосьці гаварыў пра паэзію, што яна неабходная, толькі невядома, каму і на што. Тое ж я сказаў бы і пра "Культуру". "Культура" патрэбна як асяродак, як агмень. "Культура" — чыннік Культуры.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ, "ЛіМ".**

ІМПРЭСІЯ

## ЗУСІМ НЯДАЎНА



Здаецца, зусім нядаўна мы вырашалі ў Міністэрстве культуры такое складанае і надзённае пытанне, як заснаванне спецыяльнага перыядычнага выдання штотыднёвіка "Культура", як радаваліся выхаду ў свет яго першага нумара. І вось праляцела пяць гадоў. А гэта, як вядома, самы складаны перыяд, калі фарміраваўся творчы воблік газеты, актыў аўтараў і чытачоў, пэўны імідж новага выдання.

Зараз можна сцвярджаць — газета знайшла сваё месца сярод соцень іншых, добра спалучаючы чыста інфармацыйныя матэрыялы з глыбока філасофскімі, аналітычнымі. Мне асабіста вельмі прыемна, што "Культура" шырока асвятляе пытанні і праблемы, якімі займаецца наша міністэрства, упраўленне, што "Культура" з'яўляецца адным з заснавальнікаў нашых фестываляў і іншых мерапрыемстваў і тым самым уносіць пэўны ўклад у прапаганду лепшага вопыту ўстаноў культуры, спрыяе развіццю народнага мастацтва.

Канешне ж, ёсць і пажаданні.

Па-першае, мець сваю прынцыповую пазіцыю і не паступацца ёй у адстойванні карэнных інтарэсаў культуры і мастацтва, быць вышэй за палітыку ці чыесьці інтарэсы.

Па-другое, пашыраць актыў аўтараў, фарміраваць няштатныя карэспандэнцкія пункты ў розных кутках краіны, падтрымліваючы з імі пастаянныя сувязі.

Па-трэцяе, шырэй і глыбей аналізаваць і асвятляць праблемы культуры, акумуляваць грамадскія ініцыятывы для пошуку шляхоў іх вырашэння.

Ну, а ўсяму калектыву рэдакцыі хацелася б пажадаць моцы і здароўя, творчых поспехаў і ўпэўненасці, удзячных чытачоў.

**Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ, начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**

***Пінск — не Мінск, хаця розніцы, здавалася б, усяго на адну літару. І яна сумуе: у родным горадзе няма філармоніі. Няма оперы і балета, драматычных тэатраў, дзе самі назвы — "Альтэрнатыўны", "Вольная сцэна", "Дзе-Я?" — як фірмавы знак, як абяцанне сустрэчы з навінай і эксперыментам, не кажучы ўжо пра класіку ў акадэмічных Нацыянальным і Рускім.***

***І ўсё ж будзем справядлівыя. У Пінску таксама ёсць тэатр, "Дыяген" называецца, даволі някепскі, які не так даўно займеў нарэшце статус прафесійнага. Прыхільнікаў засмучае адно: надта ж хутка — у часавым вымярэнні — зведваюць яны ягоны рэпертуар...***

***Не пазбаўлена Ірына Мікалаеўна ШПЕКТАР і музыкі. Слухае штодня, у вучылішчы мастацтваў. Іграюць студэнты, яе вучні. Яшчэ не чараўнікі, не майстры-прафесіяналы. Але яна, педагог з дзесяцігадовым стажам, робіць усё магчымае і нават немагчымае, каб яны такімі сталі.***

# "Я ДАРУЮ ЎСІМ..."

— Нашы студэнты, — распавядае Ірына Мікалаеўна, — гэта ў асноўным выпускнікі раённых музычных школ з дастаткова, скажам так, сярэднім узроўнем музычных здольнасцяў. Ёсць, безумоўна, і яркія асобы, але зноў жа — не зусім добра навучаныя. Ад таго і пэўныя праблемы ў навучальным працэсе, калі прыходзіцца першыя ледзь не два гады выпраўляць памылкі — незайздросную спадчыну першапачатковай музычнай адукацыі.

Але падцягваем, выроўніваем.

**— І паказнікі гэтага...**

— Тое, што нашы выпускнікі паступаюць вучыцца далей — у Акадэмію музыкі, на адпаведны факультэт у педагагічны універсітэт. Гэта вельмі радуе.

**— Ваша любоў да тэарэтычных дысцыплін — гэта ўсвядомленая неабходнасць ці нешта іншае?**

— Я заканчвала музыказнаўчы факультэт Беларускай кансерваторыі, так што даўно сталі "маімі" спецыфічныя тэарэтычныя дысцыпліны — сальфеджыо і гармонія. З тэарэтыкамі музыкі вельмі складана — іх усюды нестае. У вучылішчы мастацтваў практычна я вяду ўвесь тэарэтычны курс — усю гісторыю і тэорыю музыкі. Была магчымасць пайсці на больш лёгкую працу, падумвала пра аспірантуру, але, як бачыце, я тут, бо люблю гэтае вучылішча, люблю студэнтаў.

**— У чым цяжкасці?**

— Калі казаць пра мой прадмет — цяжка выкладаць гісторыю нацыянальнай культуры, у прыватнасці гісторыю музычнай культуры Беларусі. І ўсё таму, што мы зусім пазбаўлены хоць якіх дапаможнікаў. Усё, што выдаецца, яно ў такой мізэрнай колькасці, магчыма, асядае ў акадэміі, у прыватных калекцыях, а тое, што трапляе на прылаўкі — імгненна раскупляецца. Пакуль да нас даходзіць інфармацыя, што нешта новенькае ёсць у Мінску ці Брэсце, і пакуль мы даязджаем ці робім заказ праз знаёмых, ужо нічога не застаецца — мы спазніліся. Вось чаму радуюся, калі ўдаецца ўзяць удзел у нейкай гістарычнай музычнай канферэнцыі, сустрэцца з калегамі, абмяняцца думкамі і літаратурай.

**— Бібліятэка тут не памочніца?**

— На жаль, у немалым Пінску няма бібліятэкі, якая б мяне задавальняла — я і сёння чытач Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску. У бібліятэцы вучылішча — амаль нічога па гэтай тэматыцы няма. Усё, чым я валодаю як тэарэтык — гэта мая асабістая бібліятэка, мая асабістая фанатэка і... мае знаёмыя, якія заўсёды мне дапамагаюць. А бібліятэка ў нас найбедная. Але мы, здаецца, знайшлі выйсце — студэнты памнажаюць вучэбны матэрыял на ксераксе, перапісваюць. Паколькі ў нас не вучацца дзеці багатых людзей, то набыць нейкі нотны матэрыял, кнігу, падручнік для сябе асабіста ім не заўсёды проста. Я не магу ніводнага студэнта выправіць, каб ён "надрукаваў" сабе на тым жа ксераксе падручнік — гэта вельмі дорага. Канспекты, перапісванне — архаічна, але практыка сябе апраўдвае. У старыя добрыя часы, калі ў ВНУ, здавалася, было дастаткова самай рознай літаратуры і падручнікаў, усё адно студэнцтва вучылася па канспектах — што тут кепскага?



**— З раніцы да позняга вечара — у вучылішчы. Вы маладая, прыгожая, з высокімі духоўнымі памкненнямі дзяўчына — як жа з асабістым жыццём?**

— Мае бацькі сварацца, што я занадта важдаюся з навучэнцамі, маўляў, нашто трачу сілы і час на дадатковыя, індывідуальныя заняткі, усё адно мне за гэта ніхто не заплаціць. Так, не заплаціць. Усё дзеецца на адным энтузіязме. Так працавалі са мною, так раблю і я.

**— Чула, што Вы вельмі строгі педагог...**

— Прафесія ёсць прафесія. Не скажу, што я жорсткі чалавек, але — патрабавальны, і дзеці гэта ведаюць. У працэсе работы мы ахопліваем усе жыццёвыя праблемы і сітуацыі, што паўстаюць перад маладымі людзьмі, мы спрачаемся, разважаем, дзелімся думкамі. Мы — дружым! Мне здаецца, навучэнцы някепска да мяне ставяцца.

**— Кветкі дораць?**

— Дораць. Кожны курс — гэта падарунак. Адзін — замкнуты, з імі цяжка, іншы — занадта шумлівы...

**— Замкнуты цэлы курс?!**

— Так, не нехта адзін, а ўсе — "с печатью грусти на челе". "Народнікі" — вельмі сур'ёзныя, адказныя, працавітыя — гэта звычайна дзеці з вёсак. А вось чацвёрты курс, піяністы, адны дзяўчаты, яны вельмі адкрытыя, завадныя, з імі заўсёды лёгка і весела!

**— Хвіліна для сябе: якая яна?**

— Калі ёсць вольныя тры-чатыры дні, тыдзень, месяц лета, я стараюся выязджаць з горада — у Мінск, Пецярбург, Маскву, Вільнюс. Для таго, каб "насыціцца" тэатрамі. Адчуваю кожнай клетачкай, калі мне нестае высокапрафесійнага, сапраўднага мастацтва.

Дома, у вольны час, чытаю. Чытаю ўсё, у гэтым сэнсе я гурман, у захапленні ад старажытных філасофаў, але не цураюся і дэтэктываў, бо іх чытаюць мае вучні, і я мушу арыентавацца ў падобнага роду літаратуры. Стараюся займацца фізкультурай, каб быць у форме.

**— Вось адкуль такая мініяцюрнасць і грацыя! І што, шакаладка, кавалачак торта ці яшчэ што-небудзь з ласункаў для Вас "забаронены плод"?**

— Не, чаму ж? Зарадка — дзеля разрадкі. Зраблю адмысловы комплекс практыкаванняў, і стомы як не было. Работа ў мяне маларухомая, значыць, раней ці пазней могуць быць праблемы з пазваночнікам, а гэтага не хацелася б. Стараюся вырывацца на прыроду — у лес, на рэчку, з задавальненнем працую на лецішчы, з ахвотай шыю — і ў гэтым занятку бачу не столькі неабходнасць, колькі адпачынак.

**— Газеты чытаеце?**

— Скажу шчыра: не. Бо не веру. Газета — гэта заўсёды палітыка, а я сама, мае сябры далёкія ад гэтай дзейнасці. У той жа час я не магу назваць сябе апалітычным чалавекам.

**— Цікава, хто любімы кампазітар?**

— Заўсёды губляюся ад такога пытання. Адбітак прафесіі тут непазбежны. Трэба любіць усё, бо, выкладаючы новую тэму, трэба кожнага кампазітара падаваць як свайго любімага і — "трепетать". Вельмі люблю Шапэна. Люблю яго іграць, люблю слухаць. У музычным вучылішчы некалі была без памяці ад Бетховена, у кансерваторыі адкрывала для сябе іншых кампазітараў, але Шапэн ніколі не адыходзіў на другі план, ён мне ніколі не надакучае, пры любым настроі са мною гэты кампазітар. Я яго разумею.

**— Вы — рамантык, любіце Цвятаеву, ранняга Блока. У Вас, напэўна, няшмат сяброў?**

— Ёсць сяброўка — адна, мусіць, так і павінна быць. Ёсць таварышы, прыяцелі. Па вялікім рахунку я чалавек камунікабельны, магу кантактаваць з любым. Для мяне не існуе падзелу на людзей вышэйшага рангу ці нізкага, мяне не раздражняе, высокі яго ўзровень ці не надта, не цікавіць паходжанне... Чалавек — вось і ўсё, гэта галоўнае, гэтым ён каштоўны, гэтым мне цікавы.

**— Я асабіста подлага чалавека не назаву чалавекам...**

— Прыстойнасць і сумленне я стаўлю на самую высокую ступеньку. Але на пэўным адрэзку жыцця я сказала сабе: я дарую ўсім людзям. Усё дарую.

**— Вы вялікая хрысціянка...**

— Калі вучылася ў кансерваторыі, некалькі разоў прачытала Біблію і прыйшла да разумення многіх рэчаў. Лёс звёў мяне з людзьмі, якія дастаткова добра ведаюць гісторыю рэлігіі, з людзьмі вялікай душы і глыбокай веры. Я не ствараю сабе куміраў, але іхняя навука для мяне робіцца сэнсам жыцця. Жыву па запаведзях, прынамсі, імкнуся іх не парушаць...

**— Дзякуй вялікі за размову, Ірына Мікалаеўна. І хай Вас Бог беражэ!**

**P.S.** Праз дзень-другі Ірына Шпектар прыедзе ў Мінск. Да тае пары я адшукаю на сваёй кніжнай паліцы тое-сёе з патрэбных ёй кніг па нацыянальнай культуры. Дарэчы, мілыя жанчыны з універсітэта культуры "адшукадавалі" манаграфію па музыцы гарадоў Беларусі XVIII ст. Вользе Дадзіёмавай — у дар бібліятэцы Пінскага вучылішча мастацтваў.

Я чакаю Ірыну і вывучаю тэатральныя афішы, і цешуся — у нас будзе выбар...

**Алена ТРУСАВА**

*Пінск — Мінск, верасень, 1996 г.*

*На здымку: Ірына Шпектар.*

## КУЛЬТУРА І БІЗНЕС



"Зона адсялення". З серыі "Чарнобыль".

# "СОНЕЧНЫ ГАДЗІННІК" КАНЦАВОГА

***Нядаўна ў нашу рэдакцыю зазірнуў Міхаіл Канцавы. Гутарылі пра тое, пра сёе. Міша сказаў, што хутка адбудзецца пасяджэнне Камітэта па Дзяржаўных прэміях 1997 года, на якім сярод іншых твораў у галіне выяўленчага мастацтва будзе разглядацца і помнік Герою Савецкага Саюза, легендарнаму Аляксандру Гараўцу ў горадзе Віцебску. Ягоныя аўтары — скульптары Анатоль Арцімовіч, Міхаіл Інькоў, і ён, Міхаіл Канцавы, разам з архітэктарам Валерыем Рыбаковым былі вылучаны на атрыманне гэтай прэміі Беларускім Саюзам мастакоў.***

**— Ну, і як настрой?**

— Цяжка сказаць. Не так і лёгка спаборнічаць з такімі сур'ёзнымі мастакамі, як Міхаіл Савіцкі, Аляксандр Кішчанка, Анатоль Бараноўскі, Уладзімір Крываблоцкі... Але хочацца верыць у поспех...

**— А якія зараз у цябе праблемы?**

— Праблем хапае, як і ва ўсіх людзей у наш час. Што да творчасці, дык хацеў бы запрасіць да сябе ў майстэрню, каб паказаць, што я зрабіў у апошні час і што мяркую зрабіць у галіне пластыкі. Задум безліч, а вось часу — нестае. Хаця працую амаль штодня...

**— Мабыць, шмат сіл адбірае твая вытворчая фірма мастацкага ліцця "Адраджэнне рамёстваў"?**

— Так, яна адбірае шмат часу. Але адначасова дае мне і вялікі духоўны зарад. Бо ў гэтую фірму, якой хутка споўніцца дзесяць гадоў, я аддаў сябе цалкам. Не буду казаць пра тыя цяжкасці і выпрабаванні, якія мне давялося пераадолець за гэтыя гады, каб увасобіць у рэальнасць сваю даўнюю мару. І хачу спадзявацца, што мая фірма ўжо прынесла істотную карысць беларускаму мастацтву.

**— А што яна зрабіла за гэтыя дзесяць гадоў?**

— Нямала. Мы адлілі і помнік Янку Купалу ў Акопах, і помнік Язэпу Драздовічу ў Траецкім прадмесці, і паўфігурны помнік графу Румянцаву ў Гомелі, і ўсю "пушкініяну" Анікейчыка, і постаць Максіма Багдановіча работы Слабодчыкава, і шматлікія партрэтныя бюсты Азгура, і надмагільныя помнікі Яўгеніі Янішчыц і Андрэю Бембелю на Маскоўскіх могілках...

**— І надмагілле Уладзіміру Караткевічу, і мемарыяльную дошку пісьменніку Уладзіміру Корбану ў Барані...**

— Так, я адліў гэтыя творы і адмовіўся ад аплаты. Гэтыя людзі былі цудоўнымі асобамі і маімі землякамі...

**— Землякамі? Ты таксама з Аршаншчыны?**

— З-пад Воршы. З мястэчка Барань. Там я нарадзіўся , там прайшло маё маленства, скончыў школу...



**— Потым паступіў у Мінскую мастацкую вучэльню?**

— Так, на скульптурнае аддзяленне. Дарэчы, мая дыпломная работа — пяціпостацевая кампазіцыя "Вялікая вайна" і сёння знаходзіцца ў экспазіцыі краязнаўчага музея на маёй радзіме, у Барані...

**— Чаму ты пасля вучэльні не пайшоў у тэатральна-мастацкі інстытут, як многія з тваіх равеснікаў?**

— Так атрымалася. Пасля вучэльні Анатоль Аляксандравіч Анікейчык, тагачасны загадчык кафедры скульптуры, запрасіў мяне ў гэты інстытут у якасці майстра па навучанні.

**— Вось адкуль у цябе страсць да ліцця?**

— Але яшчэ да гэтага я арганізаваў у скляпенні сваёй майстэрні па вуліцы Артылерыстаў маленькую ліцейную вытворчасць, дзе я мог адліваць невялікія творы як свае, так і маіх сяброў. Ну, а не так даўно на вуліцы Гая я пабудаваў ужо нармальную творчую майстэрню, так бы мовіць, "з усімі атрыбутамі", якія трэба мець скульптару. А ў 1987 годзе адкрыў сваю фірму мастацкага ліцця, разлічаную на буйныя замовы.

**— І там жа ты адліў і помнік Аляксандру Гараўцу?**

— На плечы маёй брыгады ляглі не толькі ўласна ліццё, але і зборка, чаканка, таніроўка і нават усталяванне гэтага помніка ў скверы Віцебска.

**— Уяўляю сабе ўсе складанасці вашай працы: пры тым, што постаць лётчыка — тры з паловай метры і архітэктурныя формы — да сямі метраў...**

— Ды яшчэ тэрмін... Бо помнік, пачынаючы ад рабочай мадэлі да ўсталявання на месцы, наша творчая група зрабіла літаральна за два з паловай месяцы.

**— Неверагодна! Пры тым, што праца гэтая, поўная гераічнага памкнення і рамантычнай экспрэсіі, выканана на высокім прафесійным узроўні. Я не так даўно быў у Віцебску, на "Славянскім базары", і прыходзіў да помніка. Сквер, як і тады, у дзень адкрыцця, 8 траўня 1995 года, па-ранейшаму ідэальна чысты, акуратны, дагледжаны. Па-ранейшаму вельмі шмат людзей. І, мяркую, ваш помнік ужо стаў неад'емнай часткай горада, своеасаблівым цэнтрам чалавечай памяці пра славутага земляка Аляксандра Гараўца і пра тых, хто аддаў свае жыцці на алтар Перамогі ў Вялікай Айчыннай...**

— Дзякуй.

**— Якія творы яшчэ адлівала твая фірма?**

— Вялікі комплекс работ мы выканалі для Нясвіжа. За чатыры гады мы адлілі шэсць партрэтных бюстаў, у тым ліку князя Радзівіла, Якуба Коласа, Тамаша Макоўскага. Паводле сваіх эскізаў адліў з чыгуну дэкаратыўныя агароджы нясвіжскіх мастоў, больш за сто ліхтароў, лаўкі, рэканструяваў уваходную браму з арламі. На жаль, адзін з апошніх твораў — сонечны гадзіннік для парка — так дасюль і не ўсталяваны. У замоўцы — нясвіжскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі — няма грошай. А шкада — гэта унікальная рэч, распрацаваная праекціроўшчыкамі з Акадэміі навук Беларусі, — адзіная ў свеце.



Помнік Аляксандру Гараўцу ў Віцебску.

**— А свае творчыя працы ты таксама адліваеш сам?**

— А як жа інакш? Займаючыся вытворчай дзейнасцю, я, натуральна, не забываюся і на ўласную творчасць. У маім актыве як члена Саюза мастакоў каля трыццаці мастацкіх выстаў, у тым ліку і ў Маскве. На апошняй рэспубліканскай, прысвечанай 10-годдзю Чарнобыльскай трагедыі, я выставіў, як ты памятаеш, серыю "Чарнобыль" з адзінаццаці твораў; у тым ліку "Распаленае сонца Чарнобыля", "Чорная кветка", "Рэальнасць переможцы", "Загубленыя дзяржавай" і іншыя.

**— А ў якіх жанрах ты працаваў раней?**

— У самых розных. Ляпіў партрэты, фігуратыўныя кампазіцыі, аголеныя мадэлі, ствараў невялікія мемарыялы і надмагільныя помнікі. Займаўся манументальным рэльефам — разам з архітэктарам Анатолем Лабачовым выканалі рэльефную сценку на тэму "Беларусь" у Доме ўрада. Таксама зрабіў мемарыяльную дошку загінуўшым у гады вайны пісьменнікам у Доме літаратара. У вёсцы Гапонавічы Крупскага раёна ўсталяваў помнік-бюст Герою Савецкага Саюза лейтэнанту Мікалаю Казлоўскаму, які загінуў пры фарсіраванні Дняпра. Працаваў над вобразамі Скарыны, Максіма Багдановіча і Якуба Коласа. Але, у асноўным, мяне прываблівають тэмы больш метафарычныя, асацыятыўныя. Магчыма, з філасофскім падтэкстам.

**— Менавіта ў такім ключы ты вырашаў кампазіцыі "Вяртанне", "Надзея", "Паўстанне", "У садзе", чарнобыльскі цыкл?**

— Я імкнуўся да гэтага. Хаця ёсць і строга рэалістычныя творы, да прыкладу, "На сцэне тэатра", "Партрэт дачкі Ірыны", "Першая страла"...

**— А ці ёсць у цябе нерэалізаваныя задумы?**

— Ёсць. Як і ў кожнага мастака. Напрыклад, у свой час вылепіў эскіз і рабочую мадэль помніка загінуўшым на вайне сібіракам для Краснаярскага краю, але помнік, як ты сам разумееш, не з-за мяне, — не адбыўся. Ды і многія іншыя задумы не давялося здзейсніць...

**— Які твой любімы афарызм альбо выслоўе?**

— Некалі Бурдэль так сказаў: "Матэрыял — гэта сутнасць. Неабходна мысліць у камяні, гіпсе, бронзе, у тым матэрыяле, якому ваша думка павінна надаць форму...". Менавіта пачуццё матэрыялу і ўменне адліваць творы ў метале я перадаю студэнтам-скульптарам Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе вось ужо тры гады на грамадскіх пачатках праводжу практыку, навучаю трэцякурснікаў ліцейнай справе...

* * *

*Сёння можна спрачацца пра вартасці асобных твораў Міхаіла Канцавога, параўноўваючы іх паміж сабою або з творамі іншых мастакоў, але факт застаецца фактам: Канцавы ўжо даўно і арганічна ўвайшоў у кола беларускіх скульптараў, здольных не толькі разумець найвастрэйшыя праблемы сучаснай скульптуры і мастацкага пераўтварэння гарадскога асяродка, але і практычна ўключацца ў іх вырашэнне.*

*Спакойны і памяркоўны, унутрана ўраўнаважаны і надзейны, Міхаіл ведае, што яму патрэбна. І не толькі ў мастацтве. І не толькі ў сферы вытворчасці. Проста — у жыцці. Асабліва калі трэба дапамагчы таму, каму горш за цябе...*

**З сябрам-мастаком гутарыў**
**Барыс КРЭПАК**

# ПАЭТ І ГАЗЕТА НЕ БЫВАЮЦЬ СТАРЫМІ

*"Духоўнай асновай паэзіі Чаркізяна з'яўляецца драматычны лёс ягонага народа з трагедыямі, крывёю і нечуваным у гісторыі генацыдам".*

*"Ён спалучыў у сабе поўдзень і поўнач, нетрадыцыйны ракурс паэтычнага позірку, які спрыяе ўзбагачэнню нашай беларускай традыцыйнай паэзіі".*

*"Ягоныя вершы, нібыта птушкі, якія ратуюцца ад прыніжанасці і прыземленасці ў высокім небе... Мне цікавы аўтар, ягонае самараскрыццё ў вершы, ягонае слова пра свой народ і пра народ, з якім ён жыве".*

*"Неба паэзіі вядомага курдскага паэта Ганада Чаркізяна высокае, зямля ягонай паэзіі — шчодрая. Радзіма ягонай паэзіі — у сэрцы паэта".*

*"Беларусь — другая айчына паэта. Тут ваяваў ягоны бацька, тут ужо чвэрць стагоддзя жыве сам Ганад, пабраўшыся шлюбам з беларускай. Курд па нацыянальнасці, ён правёў сваё юнацтва ў Ерэване, адслужыўшы ў войску ў Расіі, жыве, складае вершы і гадуе дачку ў Мінску. Ён увасобіў у сабе тое, пра што людзі марылі спрадвеку: сяброўства народаў. Ён піша на курдскай, армянскай, рускай і беларускай мовах, захоўваючы ўсходнюю прытчавасць і ўсмешку, і, ужо можна сказаць, "беларускую дасціпнасць".*

***Гэта радкі беларускіх паэтаў і крытыкаў пра Ганада Чаркізяна, аўтара васьмі паэтычных зборнікаў. Вось радкі, якія ляжаць яшчэ на пісьмовым стале паэта:***

*"Мечтали отважно, всему вопреки,*
*Боже, прости нам наши грехи!"*

**— Ганад, я памятаю тыя часы, калі твае першыя вершы друкаваліся ў маладзёжных беларускіх часопісах. Гэта быў час, калі ты, паводле словаў Барадуліна, быў "статны, рослы, чарначубы", моцны, а таму і добразычлівы, і яшчэ малады. Гэта быў час такіх тваіх радкоў:**

*"Я готов и других полюбить,*
*На тебя хоть немного похожих..."*

**Мінула чвэрць стагоддзя, і ты напісаў:**

*"Но голос возвышу до крика,*
*А как человека спасти?!*
*Впусти его, Красная книга,*
*Его от него защити!.."*

**Ты паэт, прадмову да першай кнігі якога напісаў Пятрусь Броўка, а потым чытачу цябе прадстаўлялі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Алег Лойка, твае творы перакладалі Фёдар Яфімаў, Валеры Ліпневіч, Валянцін Тарас, Артур Вольскі і даўні прыхільнік тваёй творчасці Рыгор Барадулін. Ты — паэт. Пра гэта мне падумалася, калі даведаўся, што ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" адкрыты маркетынгавы аддзел і яго ўзначаліў... Ганад Чаркізян! Прабач, я не мог уявіць цябе бізнесменам. Што скажаш у сваё "апраўданне"? Як у адной асобе ўжываюцца "высокае неба" і "прылавак"?** *(Ён падобраму смяецца, нічога не пакідаючы за душой — увесь, як на далоні.)*

— Добра ўжываюцца, калі гэта прылавак, на якім стаяць кнігі Купалы, Караткевіча, Адамовіча, Кісліка, Някляева, Разанава. А вось, зірні, "кніжкі-малышкі", Багдановіч і Крапіва, якія ўразілі наведнікаў нядаўняга міжнароднага кніжнага кірмашу. Зрабіўшыся, як ты кажаш, бізнесменам, я не кінуў пісаць вершы, любіць сяброў і заўважаць прыгожых жанчын. Мабыць, мог бы кіраваць іншым аддзелам, больш літаратурным, так бы мовіць, але не люблю займацца справай, у якой не зусім кампетэнтны. Усё ж такі, хаця і пішу па-беларуску, але не магу навучаць гэтаму іншых, бо тут ёсць Барадулін. А вось маркетынг — гэта мая справа. У нашым выдавецтве гэта лепей за мяне ніхто не зробіць. І я ведаю, што рэальна здольны дапамагчы "Мастацкай літаратуры".

**— Як ідуць справы выдавецтва сёння?**

— Я б вызначыў наш стан: ужо не смяротны. Сённяшні дзень можна вызначыць, як пачатак уздыму. З прыходам новага дырэктара Георгія Марчука цвёрда ўзяты накірунак на выданне беларускай літаратуры пачынаючы ад сур'ёзнай класікі да першадрукаваных выданняў. Асаблівая ўвага звяртаецца на якасць кніг. Мы вельмі сур'ёзна, навукова шукаем спажыўцоў, вывучаем рынак. Камітэт па друку нас падтрымлівае.

**— Ці ёсць "першыя ластаўкі", якія ўказваюць на вернасць абранаму накірунку, бо планаваць мы ўсе ўмеем.**

— Ёсць. Тая ж самая Маскоўская міжнародная выстава сталася для нас сур'ёзным іспытам. У гэтым кніжным форуме бралі ўдзел 29 краін, 600 выдавецтваў і фірмаў. І мы паказалі сябе там зусім някепска. Наша прадукцыя зацікавіла кнігагандляроў. У прыватнасці, "Евангелле ад маці" Барадуліна, гістарычныя творы Караткевіча, "Прошча" Някляева. Мы падпісалі дамовы, дасягнулі пагадненняў з некалькімі фірмамі, завязалі сувязі. У мяне трывалае адчуванне: выдавецтва будзе жыць. У "партфелі" ёсць некалькі сур'ёзных распрацовак, некалькі маштабных праектаў, ужо блізкіх да здзяйснення праграм, але — як той казаў, гэта камерцыйная таямніца, а яшчэ — памаўчу, каб не сурочыць. Камерцыя, як і вершы, не любіць паказвацца на вочы, пакуль справа не скончана. Трэба, каб не толькі хата стаяла, але і плот быў пафарбаваны.

**— Ты ўжо столькі гадоў жывеш у Мінску, столькі ўсяго пабудаваў і напісаў. На маю думку, вы няблага жывяце разам: ты і Беларусь. Ці памятаеш самае першае і самае моцнае ўражанне на гэтай зямлі?**

— Безумоўна. Смак бульбы. У нас, на Каўказе, бульба — ласунак. А тут, калі я прыехаў упершыню, мая будучая жонка паставіла перада мною вялікую місу тоўчанай бульбы... Такой смачнай бульбы я ніколі не каштаваў!



**— Ці трапіла гэтая бульба ў радок?**

— Так. Як і мая жонка, і ўся Беларусь...

**— Ганад, нам з табою выпала рэдкая нагода: павіншаваць адзін аднаго. Табе — 50 гадоў, газеце "Культура" — 5. Мы жадаем табе здароўя і поспехаў.**

— Я вам — таго ж самага. Паэт і газета ніколі не бываюць старымі. У гэтым мы падобныя. Жывіце доўга. Якая культура без газеты "Культура"? А скончыць мне хацелася б радкамі з майго апошняга зборніка:

*"И я не стар,*
*И ты всегда прекрасна".*

**З паэтам-бізнесменам гутарыў**
**Навум ЦЫПІС**

МАСТЫХІН




## "ВЕРУ: "КУЛЬТУРА" БУДЗЕ ЖЫЦЬ!"

Газета "Культура" вось ужо пяць гадоў, з тае пары, калі тут з'явілася рубрыка "Галерэя" і нататкі-эсэ пра нашых вялікіх продкаў, займае ў маім жыцці сваё адметнае месца. Бо яна вельмі цікава і прафесійна выконвае сваю галоўную функцыю — быць духоўным компасам у моры няпростых праблем, што існуюць сёння ў нашай нацыянальнай культуры. Мяркую, што праблемы выяўленчага мастацтва і народнай творчасці, музыкі, тэатра і кіно, захавання інтэлекту нацыі і мастацкай спадчыны, творчых узаемастасункаў Беларусі і замежжа, якія ўзнімаюцца на старонках газеты, — цікавыя не толькі беларускаму чытачу, але і нашым суайчыннікам, якія жывуць у далёкім і блізкім замежжы.

Газета ўзнімае і такія сур'ёзныя пласты мастацкіх, гістарычных і сацыяльных з'яў, якія ў іншых перыядычных выданнях не сустрэнеш. Але для мяне як для мастака, натуральна, асаблівую цікавасць уяўляюць старонкі, прысвечаныя мастацкаму жыццю рэспублікі. І з гэтага пункта гледжання ілюстраваны "Мастыхін", які штомесяц асвятляе шырокі спектр праблем выяўленчага мастацтва, — з'ява ў нашай журналістыцы неардынарная і ў нечым унікальная. Асабіста на мяне зрабілі вялікае ўражанне матэрыялы пра творчасць авангардыстаў віцебскай мастацкай школы — ураджэнцаў Беларусі, якія ўнеслі важкі ўклад у сусветнае мастацтва, а таксама артыкулы пра апошнія месяцы жыцця Сяргея Ясеніна, Уладзіміра Маякоўскага і Ван Гога. Цікавай таксама падаецца рубрыка "Асоба ў кантэксце гісторыі". Падобных матэрыялаў хацелася б бачыць больш, бо яны цікавыя кожнаму, незалежна ад менталітэту.

Акрамя іншага, газета, зазвычай, прафесійна і цікава афармлена і з эстэтычнага пункта погляду, пачынаючы ад першай паласы і заканчваючы выкарыстаннем багатага ілюстраванага фотаматэрыялу.

І ўсё ж хацелася б пажадаць газеце большай публіцыстычнасці, больш матэрыялаў, знітаваных з пытаннямі высокага прафесіяналізму і найноўшых адкрыццяў у мастацтве, з разнастайнасцю творчых канцэпцый, накірункаў, стыляў, почыркаў, якія склаліся ў мастацтве ў апошнія гады.

У культуры Беларусі, нягледзячы на яе цяжкае становішча, тым не менш адбываюцца найцікавейшыя працэсы, што выходзяць далёка за межы ўласна Беларусі. Не выпадкова імёны такіх нашых майстроў, як У.Тоўсцік, М.Селяшчук, У.Савіч, В.Альшэўскі, А.Бараноўскі, З.Літвінава, Л.Хобатаў, А.Кішчанка, Г.Вашчанка і іншыя, сёння шырока вядомыя ў Еўропе. Пра іх павінны больш ведаць і на Бацькаўшчыне.

Калектыў газеты здольны, цікавы, высокапрафесійны. А гэта ўмова таго, што тыднёвік будзе жыць і квітнець яшчэ шмат гадоў, прыносячы вялікую карысць нашай духоўнай культуры.

**Леанід ШЧАМЯЛЁЎ,**
**народны мастак Беларусі,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі**

## ВЯРТАННЕ АРКАДЗЯ АСТАПОВІЧА


*"Летні дзень". 1918. Туш.*

У Нацыянальным мастацкім музеі прайшла выстава твораў Аркадзя Астаповіча, прысвечаная 100-годдзю з дня яго нараджэння. Прафесійную адукацыю ён атрымаў у рысавальнай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў у Петраградзе. У 1916 годзе мастака прызвалі ў армію, і дэмабілізаваны ён быў толькі ў 1923 годзе. Пасля рэвалюцыі перайшоў у Чырвоную Армію. Ёсць звесткі, што ў тыя гады ён наведваў класы мастацкай школы ў Харкаве. Работы канца 1910-х гадоў — непасрэдныя, чароўныя, "паслухмяныя" натуры замалёўкі — ад пераўтварэння прыроды да навучання ў яе. Але вось у "Пейзажы" 1919 года праяўляецца будучы Астаповіч, які "іграе" святлом і ценем, прастораю і аб'ёмам, вельмі цікавы кампазітар.

Выключна бездакорны, дэкаратыўны дар мастака цалкам выяўляецца ў работах 20-х гадоў. Тады фарміруецца вобразная і стылістычная сістэма творчасці Астаповіча. Улюбёнай тэхнікай мастака становіцца чорная акварэль, якую ён спалучае са штрыхоўкай чорнай тушшу, пакладзенай на акварэльны падмалёвак экспрэсіўна ("Воблачны дзень", "Дрэвы ў полі", "Лес", "Краявід з дрэвамі"). Шырокімі лаканічнымі заліўкамі і маляўнічымі плямамі яны нагадваюць працы Астравумавай-Лебедзевай.

У 1923 годзе ён пераехаў на радзіму бацькі ў вёску Мар'іна Горка. Вясковы пейзаж па-ранейшаму яго вабіць. Большасць краявідаў 20-х гадоў вылучаюцца тонкім адчуваннем беларускай прыроды. Рэдкай непасрэднасцю і лірызмам напоўнены аркушы "Ранняя вясна", "Сакавік", "Зіма" — па-сапраўднаму мастацкія творы, якія пранізаны чыстай паэзіяй, непаўторным настроем роднай зямлі. З 1929 года Астаповіч жыў у Мінску, дзе рэзка змянілася лінія развіцця яго творчасці. У лістах на "завадскую" тэму моцна адчуваецца характэрная для таго часу рэпартажнасць, дакументальнасць, інакш кажучы, "рысы" савецкай эпохі. Гэта быў час, калі пачалася бязлітасная барацьба з "ідэалізацыяй мінулага" і "фармалізмам". Здаецца, мастак не ўспрымаў змен трагічна: "яму растлумачылі, і ён зразумеў", што працаваць, як раней, не варта, трэба адлюстроўваць, услаўляць, кляйміць. Ён гэта рабіў, як і многія іншыя мастакі, аднак і тады ў лепшых сваіх творах, асабліва ў лінарытах і акварэлях, Астаповіч змог застацца сам сабою.


*"Вёска". 1925. Акв., аловак, туш.*

Аркадзь Астаповіч пайшоў на Вялікую Айчынную вайну добраахвотнікам і загінуў у 1941 годзе падчас наступлення немцаў пад Арлом...

**Б.К.**

## МІСТЭРЫІ ГЕОРГІЯ ЛОЙКІ

Выстава жывапісу Георгія Лойкі, прымеркаваная да ягонага 50-годдзя, выклікала несумненную цікавасць у гледачоў. Той, хто быў знаёмы з ягонай творчасцю раней, памятае палотны строга рэалістычнага кшталту: фігуратыўныя карціны пра мір і вайну, лірычныя пленэрныя пейзажы-настроі, псіхалагічна выверaныя партрэты і адмысловыя нацюрморты. І раптам, гадоў пяць таму, творца расстаецца са сваім мастакоўскім мінулым і нібы пераходзіць у іншую, так бы мовіць, ірэальную духоўную прастору. Гэтае "расстанне" адбывалася складана, балюча, пакутліва.



"Я не прызнаю рэвалюцыйных пераваротаў, — кажа мастак, — і мой паварот да нефігуратыўнага мастацтва як унутрана выпакутаваны эмацыйны працэс — гэта проста магчымасць размаўляць з гледачом, абуджаць ягонае ўяўленне не літаратурнымі падказкамі, а самой сутнасцю жывапісу".

Сапраўды, гэта непрадметнасць у жывапісе Лойкі, прадстаўленая ў экспазіцыі Палаца мастацтва, — неад'емная частка нашага складанага і неспакойнага часу, дзе не так і лёгка знайсці "астравок" характва, адпачынку і ўнутранай волі.

Непрадметны жывапіс для Лойкі — спосаб пластычнага аўтаномнага мыслення. Ён вызваляе ад неабходнасці капіраваць натуру, хаця і прадугледжвае яе дакладнае вывучэнне. У абстрактнасці для мастака ўтрымоўваецца "формульнасць" мастацтва новага часу, якая ўбірае ў сябе нязвыклыя катэгорыі, спосабы пераадолення няпэўнасці, выпадковасці, прыблізнасці.

Абстрактная пластыка Лойкі, уласна, не столькі жывапіс, колькі містэрыя, якая вядзе гледача ў іншы свет. Свет асацыяцый, адчуванняў, сімвалаў. Свет вольных каляровых сімфоній, плямаў, форм, ліній, паверхняў інтэнсіўнага колеру, перакрыжаваных у розных накірунках крывымі, хвалістымі, прамавугольнымі іерогліфамі. І калі ўважлівы і чуллівы глядач на выставе знайшоў для сваёй душы псіхалагічную формулу, блізкую ме навіта ягоным адчуваннем, — сваю задачу мастак лічыць выкананай.


*"Перад безданню". З цыкла "Зона памяці. Чарнобыль".*

**Барыс КРЭПАК**

## ПАРАЛЕЛІЗМ — ПА ВУЛІЦЫ КАЗЛОВА, 3

Пэўны рэзананс выстава твораў мастака Георгія Лойкі ўжо паспела набыць. Па-першае, на яе адкрыццё ў Палац мастацтваў беларускай сталіцы прыйшло даволі шмат людзей. Па-другое, на сам факт выставы рупліва адгукнуліся мас-медыя інфармацыі, міні-агляды з'явіліся, мусіць, ці не ў добрым тузіне выданняў.

Не прайшло незаўважаным і закрыццё выставы. Паралелізмам назваў некалі славуты Васіль Кандзінскі спалучэнне ў пэўных дзеях, у саміх фактах і з'явах розных галін мастацтва. Вось і на выставе карцін Георгія Лойкі гледачы сталіся яшчэ і слухачамі групы "Князь Мышкін". Яе музыканты палічылі, што творчасці іх як ніштo іншае сугучны абстрактны жывапіс мастака.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**


*"Заняпалы анёл". З серыі "Метамарфозы".*

# ЗНО

ЛІТАРАТУРНА-ФІЛАСОФСКІ СШЫТАК

ЗНО 41

Аляксандр ЧАРНІЦКІ (Наваполацк)

## "СВЕТИТ НЕЗНАКОМАЯ ДЫРА"

Уявім на хвілінку прыгоннага селяніна, які нейкім няўцямным чынам патраніў рантам у наш неспакойны час. Калі небарака не здырдзіцца ад кампазіцыі над назваю "Доктарская" (крухмал + соль + папера) і вытрымае кампазіцыю пад назваю "Вадаправодная" (карбанат + серавадарод + хлор, хлор, хлор), ён відочна з'едзе з глузду, аглушаны дасягненнямі тэхнагеннай дзеяснасці й складанасцю сацыяльна-палітычнага жыццяскладу.

Манархавая воля скасавала прыгоннае права ў вядомым — прынамсі, школьнікам — годзе, не пытаючыся сялянства, сярод якога трэба было б правесці рэферэндум. Расея прайшла дарогаю рэформаў, якая перарвалася праз дванцаць гадоў, калі загінуў цар-рэфарматар. Наступны этап рэформаў быў яшчэ менш працяглы, а рэфарматар Сталыпін таксама загінуў ад рукі тэрарыста.

Неўзабаве неабсяжная імперыя, населеная людзьмі з цнатлівай феадальнай свядомасцю, набрала такога-сякога розуму ў сусветнай вайне і паціхеньку выправілася да пражэкта ўсеагульнага шчасця і дастатку. Пазней падобным, відавочна хапжаскім чынам, характарызавалася Мангалія: вось, маўляў, краіна, якая сягнула, мінуючы капіталізм, у сацыялістычнае заўтра.

У наступныя дзесяцігоддзі ментальнасць савецкіх людзей дасканалілася ў сферы тэхнікі і дакладных навук, хаця і з пэўным адставаннем ад цывілізаванага чалавецтва, у той жа час наша гуманітарная свядомасць аформілася ў выглядзе дзіўнага клубка феадальных і камуністычных уяўленняў. Карацей, сто трыццаць тры гады, пражытыя без прыгонніцтва, мала спрыялі інтэлектуальнаму прагрэсу. Хутчэй наадварот. Аднак, менавіта ў нашых галовах нарадзілася ідэя — узгадаваць цягам некалькіх гадоў навачаснае дэмакратычнае светаадчуванне — да таго ж ва ўмовах безупыннага нагарнэння і ўскладнення існавання ягоных носьбітаў.

Згадайма прыгоннага селяніна: ці далёка ад яго зышлі тыя, каго 12 снежня 1993 года паклікалі да выбарчых скрыняў? Паклікалі, па сутнасці, у постіндустрыяльнае грамадства: псіхіка прыгонных, якая на чарзе выпрабоўвалася на паскарэнне, перабудову, з'езды нардэпаў, путч, Віскулі, мытні, інфляцыю і неадступнае прадчуванне грамадзянскай вайны, не вытрымала. Ад шматпартыйных выбараў па мажарытарнай плюс прапарцыянальнай сістэмам электарат канчаткова з'ехаў з глузду.

Паспрыяў таму й вольны друк, які паслядоўна рэалізоўваў ідэю вольнага катарсісу (па-расейску: займаючыся пошукамі гучных сварак, бо нічога іншага гультаяватаму чытачу і не трэба), які брахаў на ўсё і ўсіх, без усялякага разбору, які поркаўся ў бялізне палітыкаў, перацінаў тармазныя шлангі і, зрэшты рэшт, звар'яцеў разам з уласнай аўдыторыяй. У Амерыцы можна матляць над галавою бруднымі трусамі прэзідэнта без усялякіх наступстваў, але калі выставіць дзеля агляду споднікі расейскага прэзідэнта, вар'яты голасна выгукнуць: "Гэ, ды ён такі ж г...нюк, як і мы. Наср... нам тады на яго, прэч!!!" Пакуль журналісты спаборнічаюць, беручы на ўзбраенне бязлітасны сарказм, натуралізм ды іншыя інтэлектуальныя выбрыкі, абыватаць канчаткова заблытваецца, адчуваючы сябе ўцягнутым у нейкую каласальную варажнечу, і губляе рэшткі розуму. І няма каму паруніцца пра тое, каб пазбавіць небараку праблем і хваляванняў, як таго патрабуе псіхіятрычная навука. Не было каму растлумачыць прыгоннаму селяніну — што чакае ў выніку захопу ўлады бальшавікамі ў 17-м годзе, няма каму растлумачыць суайчыннікам — што іх чакае ў выпадку поспеху чарговага вялікага мовазнаўцы ў 96-м. Калі ўжо дзекабрысты, як адзначыў класік, былі дыстанцаваныя ад народа, дык сённяшняя інтэлігенцыя й народ наогул размаўляюць на розных мовах. Масы, пачуўшы, што да іх звяртаюцца на незразумелай мове, раздражняюцца. Чымся інтэлігентней кіраўнік, тым большае ён выклікае раздражненне. Адзін з самых амбіцыйных расейскіх кіраўнікоў С.Шахрай удала, дарэчы, заўважыў: "Інтэлігенцыя — гэта азонавы слой грамадства..." Ад сябе дадамо: не ўсякага грамадства. Наша грамада жыве нібыта пад азонавай дзіркай. (А інтэлігенцыя — па старой звычцы не адчуваючы краіны — над прорвай).

Паходжанне дзіркі звязана, відаць, з канцом эпохі гужавога транспарту. Коні працавалі ў якасці цягнікоў і самалётаў; яны былі тэлеграфам, тэлефонам і спадарожнікавай сувяззю; тэлебачанне, радыё й нават тэлефаксы таксама раней былі коньмі, не кажучы ўжо пра сотавую сувязь.

Творчасць дэміургаў мінуўшчыны была здратаваная вечнымі (так тады здавалася) конскімі кантоўнасцямі. У той час як ездзілі — так і пісалі — надрабязна (з усімі ўхабамі, узбочынамі й калдобінамі), паслядоўна (старыя расейскія дарогі вылучаюцца багаццем паваротаў — ці то імітуюць рэчышчы бліжэйшых рэк, ці то прапрацоўваліся соннымі першапраходцамі на п'яных конях), без мудрагельства (галава не здольная прадукаваць рознае дурноцце, калі паветра зроблена з фітанцыдаў, яловыя лапкі сюд-туд лашчаць вокны рыдвану, а нутро ад трасяніны ў поўным бязладдзі). Волаты мінулага стагоддзя літаратуры пісалі так, што пісаніна тая была зразумелая ўсім (хто ўмеў чытаць), і нават авангардысцкія працы параўнальна хутка рабіліся агульнадаступнымі.

Прыканцы XIX стагоддзя чалавецтва ўзбагаціла сябе рэвалюцыйнымі тэхнічнымі адкрыццямі. З хуткасцю галавакружэння раслі напружанасць інфармацыйнай прасторы і тэмп жыцця, раўналежна расла колькасць адукаваных людзей, карацей — мянялася якасць. У тых умовах культура не магла не зазнаць пераменаў.

Можна было на якім-кольвечы партрэце намаляваць прыкмету часу — тэлефон, можна было персанаж рамана зрабіць шафёрам і адпаведна ўзмацніць дынаміку дзеі, спявак мог ганяць рэпертуар праз мікрафон — гэты шлях быў фармальным. Але, з іншага боку, Тэхніка кідала прынцыповы выклік Мастацтву: "Глядзі, — галёкала Тэхніка, — якіх завоблачных вышыняў (фігуральна і літаральна!) я дасягнула за дзесяць-пятнаццаць гадоў! А ты? Так і трасешся ў калёсах на завілай каляіне?!"

"Добра табе, — з зайздрасцю адказвала Мастацтва. — Табе хапае самой сябе, ходзяць чуткі пра будаўніцтва заводаў па вытворчасці машын для вытворчасці машын, для вытворчасці машын на вытвор... А я? Ну каму я патрэбная без гледача, чытача, слухача?" Прыканцы мінулага стагоддзя шлі буйныя дыскусіі аб праве на існаванне канцэпцыі "мастацтва для мастацтва", дагэтуль адзіная духоўная культура выцякала з іх двума рукавамі, падзяліўшыся на элітарную і масавую. Апошняя толькі зрабіла выгляд, што злезла з каня, але першая на поўным сур'ёзе вырашала развітацца з гужавым мінулым, каб адпавядаць новай якасці жыцця. Папатыкаць у творы самалётаў і парабалічных антэнаў дзеля гэтага, відочна, недастаткова; тут патрэбна было, калі хочаце, дадатковае вымярэнне. Невыпадкова, скажам, у жывапісе менавіта ў дваццатым стагоддзі навылазілі ўсе гэтыя ласкавыя цмокі — супрэматызм, абстракцыянізм, сюр... Глядач (чытач, слухач) усё менш заставаўся ў полі рэальнай дзеі і ўсё больш вымушаны быў мысліць абстрактна. Прычым, калі раней, як адзначалася, авангард з гадамі спаўзаў у шырспажыў, а тым часам нараджаўся новы авангард, дык элітарнае мастацтва зусім не імкнулася да наступовага перацякання ў масавае. Ні Набокава, ні Сарокіна шырокая публіка (НАРОД) чытаць не будзе ніколі, колькі б розныя там разумнікі ні захапляліся іхнімі творамі. Абсалютная большыня людзей ніколі не выяўляла жадання напружана варушыць мазгамі, да таго ж у непрацоўны час. Наадварот, гэтая большыня імкнулася даведацца пра чужыя звадкі й прагне тэлесерыялаў, у якіх тыя звадкі дэманструюцца.

У працаўнікоў самадастатковага мастацтва ёсць яшчэ адзін забойны аргумент (не ведаю, ці згадваўся ён сто гадоў таму). У свеце не існуе занятку, які б вымагаў разумення элітарных твораў — за выключэннем веславання на элітарнай галеры. Постмадэрн не патрэбен фермеру, гэтак як і праграмісту; ён не прыдасца нават электроншчыкам, якія ствараюць ЭВМ шостага пакалення. Згаданы Ул.Набокаў адным з першых атрымаў годнасць "пісьменніка для пісьменніка".

Рукавы-рэчышчы навачаснай культуры ўсё больш і больш разыходзяцца, самая пара гаварыць пра нажніцы. Шлях, які адолеў элітарны складнік разглядаемых каардынат, сумерны са шляхам ад трохлінейкі Мосіна да вадароднай бомбы. Маскульт, па сутнасці, таўчэцца на адным месцы: ягонае рэчышча ўжо і не рэчышча, а велізарнае балота (параўнайце хаця б дэтэктывы пачатку стагоддзя з сучаснымі). Улічваючы, што менавіта маскульт фарміруе духоўны багаж большыні чальцоў грамадства, можна меркаваць, што працэс фарміравання практычна завершаны стагоддзе таму: амаль кожны з нашых дзядоў атрымаў калісьці той стандартны набор духоўных прадуктаў, які будзе й далей выдавацца нашым нашчадкам ("диван, чемодан, саквояж, картина, корзина" і г.д.). У занядбаным, уласнай гадоўлі выпадку, гаворка ізноў-такі ідзе аб фіксацыі прыгоннай свядомасці. Па ўсім бачна, што выпадзенне грамадства з культурніцкай прасторы, якое мела месца цягам апошняга стагоддзя, — гэта адно з самых цяжкіх супярэчнасцяў чалавецтва. Тут дарэчы згадаць Вячаслава П'ецуха (артыкул "Примерно, злостно, относительно уклончиво и вполне" ў "ЛГ" за 09.02.94): "Ну нібыта з ланцуга сарваўся чалавек на зыходзе другога тысячагоддзя ад нараджэння Хрыстова: дзве планетарныя вайны, якіх не ведала гісторыя ад самага кананага пачатку, дзесятак бяссэнсавых рэвалюцый, лютыя палітычныя рэжымы... цэлая плеяда крымінальнікаў на чале народаў і дзяржаў, перад якімі марнее страхамарлівае аблічча імператара Калігулы, і бясконцая серыя перыферыйных канфліктаў "за сена шматок". І далей: "І вось што дзіўна: ваяўнічая варажнеча да ўсяго іншапляменнага рантам папоўніцу выявілася ў асвечаным ХХ стагоддзі — з чаго б гэта? Відаць, з таго, што чалавек, які існуе па-за сучаснай яму культурай — а такіх на зямлі вялікае мноства, — стаўся дарэшты кансерватыўнай і самаздушальнай катэгорыяй, якая заўсёды тоіць у сабе дзікунскія выбрыкі на розных колькасных узроўнях, уключаючы і міждзяржаўныя канфлікты "за сена шматок". Аднак сканчвае свой матэрыял В.П'ецух аптымістычна: "...можна не хвалявацца за будучыню Расеі, гэтак жа як і за Гасподні эксперымент". Дзякуючы таму, што ёсць гурт хлопчыкаў і дзяўчынак, якія "з раніцы да вечара сядзяць у бібліятэках, спавядаюць пры гэтым абстрактныя ідэалы і маюць здольнасць сказаць адно другому далікатны камплімент", а таксама "поркаюцца, не зважаючы ні на што, у слоўніках".

Аўтар артыкула ў "Літгазеце" супярэчыць сам сабе. Ніколі яшчэ хлопчыкі і дзяўчынкі са слоўнікамі не давалі рады перашкодзіць крымінальнікам ачоліць народы. Прычына простая: мярзотнікі паводзяць сябе з прыстойнымі людзьмі як з мярзотнікамі, а прыстойныя людзі, адпаведна, паводзяць сябе з мярзотнікамі як з прыстойнымі людзьмі (хто гэта? здаецца, В. Бялінскі). Можна супакоіць сябе і чытачоў — каб не псаваць задарма нервы й не марнаваць сілы ў бліжэйшыя і апошнія два гады адносна нармальнага існавання. Немагчыма перашкодзіць выдатнаму мовазнаўцу. Паветра насычанае парамі карасіны.

Але хопіць пра непазбежнае. Уявім, што ў запасе ў нас не два гады, а пяцьдзесят, ці, лепей, сто гадоў... За гэты час можна калі не задзіночыць у адно элітарную культуру з масавай, дык хоць паспрабаваць гэта зрабіць. Ігнаруючы музыку, тэатр і выяўленчае мастацтва, якія апрыёры мінімальна ўздзейнічаюць на шырокую публіку (рок-музыку таксама не бярэм пад увагу, бо гэта даволі камерны жанр, а яе ўплыў на моладзь гіпертрафіруецца тымі, хто не можа адрозніць рок ад эстраднай поп-музыкі; апошняя сапраўды папулярная, але ўплывае, як вынікае з назвы, зусім не на галовы), звернемся да мастацкай літаратуры. Калі не паглыбляцца ў дэталі, яе праблематыка з'яўляецца ў адначас і праблематыкай айчыннага мастацкага кінематографа.

Як сёння абыватаць знішчае вольны час (калі рантам пакідае ўбаку п'янкі і чужыя звадкі)? Пакуль інтэлігенцыя ўзрушана нікіруецца альбо стварае шэдэўры, уцямныя для вузкага кола знаўцаў, шараговы супляменнік спасцігае штосьці агорнутае ў глянцавую супервокладку ды апантана глядзіць на экран, на якім дэманструецца штосьці з сінхронным перакладам. Лацінаамерыканскія меладрамы ізноў-такі не бярэм пад увагу, інакш давядзецца кваліфікаваць любую з іх як удар ніжэй паса; хаця мы перакананыя, што й лацінаамерыканскае "мыла" мае пэўную карысць: серыялы замяняюць нашым заторганым супляменнікам дарагі й надта карысны элеміум, а таксама штодзённую псіхатэрапеўтычную гутарку з мужчынам, пра якую марыць любая кабета. Такім чынам, адвячоркам цяжкага дня абыватаць захоплены вестэрнам — калі злёгку мадэрнаваць тлумачэнне вядомай дэфініцыі. І не дастукацца да чарапной каробкі ні з дапамогай Антона Паўлавіча, ні з дапамогаю Льва Мікалаевіча, ні — тым больш — з дапамогаю Фёдара Міхайлавіча; пра сённяшніх творцаў і згадваць недарэчна, варта зірнуць на наклады.

(Працяг на стар.6-7)

Лера СОМ

# ПОЎНЯ



* * *

*А мы парылі-падалі-ўставалі,*
*А мы пісалі-рвалі-забывалі...*
*Радкі ж зьнікаць упарта не хацелі,*
*Бяз нас ляцелі...*

*Куды, нашто? Знаходзілі ж кагосьці,*
*Хто ад шкадобы ці па маладосьці*
*Іх прытуляў, дапамагаў, вылечваў*
*І не аспрэчваў.*

*Але ж аднойчы, позна ці зарана,*
*Хап за каўнерык аўтара-васпана:*
*Плаці, панок, налог за захаваньне*
*Ды выхаваньне!*

*Шкада ня грошай нават — толькі часу,*
*Які пайшоў на гэтакую масу*
*Падлечаных, ня вартых зьдзеку,*
*Але калекаў.*

27.07.1996

* * *

*Цябе не заб'юць, бо так хочацца,*
*хочацца спаць,*
*Спакойна заснуць і спакойна прачнуцца,*
*як трэба...*
*І з'есці кавалачак мяса з кавалачкам*
*хлеба,*
*І высербаць каву,*
*І вочы да неба падняць.*
*Цябе не заб'юць, можа толькі заснуць*
*у мех,*
*Магчыма — каменны, магчыма —*
*пад назваю "вёска",*
*І там зь ярлычком на шпагаце,*
*звычайна, няброска,*
*Ты будзеш пыліцца альбо*
*адпрацоўваць свой сьмех.*
*Цябе не заб'юць — ну навошта каму*
*мерцьвякі,*
*Згрызоты сумленьня пад старасьць*
*і іншая трасца?..*
*Ты будзеш тлусьцець, нервавацца,*
*лічыць медзякі,*
*Зрабіцца паэтам ніколі,*
*ніколі ня ўдасца —*
*У нас забіваюць паэтаў*
*а ты — не такі.*

27.07.1996

* * *

*Поўня! Поўняй сэрца поўна,*
*Я іду, і мне ня варта*
*Абарочвацца і помніць —*
*Ззаду краты, ззаду варта.*

*Ноч варожыць, сьнег — як воўна,*
*Толькі лепей грэе кварта...*
*Ах, няўжо мне не ўсё роўна —*
*Мне, каго чакае ўпарта*
*Поўня!..*

*Хто да раю, хто і ў тартар,*
*Я ж імкнуся, безумоўна,*
*Да цябе адной, бяз жартаў,*
*Поўня!*

01.08.1996

## ТРЫ ПЫТАНЬНІ

*1*
*Пашукай —*
*Ці няма*
*У партманеце*
*Майго фотаздымку?*
*2*
*Ты хацеў бы*
*мець сьвет*
*у кішэнным выданьні*
*на*
*усім*
*зразумелай*
*мове?*
*3*
*Ці ёсьць*
*Больш неабходны занятак,*
*чым*
*Назіраньне*
*за палётам*
*Аблокаў?*

06.08.1996

* * *

*Мне сьнілася, што ты жабрак, і просіш*
*У першакурсніц грошы на гарэлку,*
*Яны даюць — паперку, дзьве і тры,*
*(А за чатыры можна выпіць кавы...)*

*Пасьля, за кавай, не магла даўмецца —*
*У нас былі і грошы, і віно,*
*І час, і нат настрой быў адпаведны...*
*(Так, пра гарэлку — мы яе ня п'ем).*

*Мой сон быў прыкрым і даўгім. Адно што*
*Усьцешыла — купальскай гэтай ноччу*
*Пераўтварэньні, пераапрананьні*
*Звычайныя; то ці не абавязак...*
*(Але чаму ты ўсё ж стары і п'яны,*
*Даволі брыдкі вулічны жабрак?)*

21.07.1996

* * *

*Пасярод сну*
*Ты*
*Узьнікаеш,*
*Прамейшы за клічнік,*
*Але таямніцай*
*Будзе нават твой цень,*
*Ці, дакладней, адсутнасць яго.*

*Мір паміж намі.*
*Падзелены землі і людзі,*
*Збройнік ня вострыць мячы.*

*Сьмерць паміж намі.*
*На курганах*
*Паўсталі памежныя знакі.*

*Час паміж намі...*
*Дык што*
*Гоніць цябе ў мае сны?*

24.07.1996

* * *

*Пераблытаўшы каханьне з вайной,*
*Не зьдзіўляйся спусташэньню душы,*
*Бо паўсюль замест падвойных вяршынь*
*Атрымаеш празаічны двубой.*

*Ваяры ж малююць фарбай адной,*
*Бо ўсё жыцьцё жывуць на мяжы;*
*Пераблытаўшы каханьне з вайной,*
*Не зьдзіўляйся спусташэньню душы.*

*За любым замком, за кожнай сьцяной*
*Сьніць сталёвыя ствалы і нажы*
*Заваёўнік — бо навекі чужы,*
*Існуе цяпер маной і віной,*
*Пераблытаўшы каханьне з вайной.*

26.07.1996

* * *

*Лёс дасьць таму, хто мае сілы быць*
*Няскораным, з душой неўтаймаванай,*
*Шуканьнем адмысловым раскаванай:*
*Навошта, як, дзеля чаго нам жыць?*

*Сярод сьляпых, глухіх, упармаваных,*
*Якім адно пажэрціся баліць,*
*Адзінае, што можа ажывіць —*
*Змаганьне за магчымасьць стаць пазваным.*

*А тут чакае новая навала:*
*Пазваных шмат, дайшоўшых вельмі мала,*
*І хто там быў, куды яны дайшлі?*
*І ўсё ж, пакуль гадзіннік не адлікаў,*
*Ідзі па гэтай спляжанай зямлі —*
*Адзін сярод спакусы множных лікаў.*

Віктар СЛІНЬКО

# ВАНДРОЎНІЦА, ДА ЯКОЙ ПРЫХОДЗЯЦЬ...

## З нагоды вершаў Леры Сом

Рытм самадастатковы — пакуль ён зададзены табе, існуеш у сваёй рэальнасці, і хто б ні маліўся на цябе (ці за цябе), няздольны пранікнуць туды, каб затрымаць ці абярагчы. Непадзейнасць абалонкі (прыстанку душы) — неабходная ўмова існавання, інакш, утрываліўшыся ў жыцці, ты станеш няздольнай адзывацца на голас, "менять тональность".

Адсюль — сцвярджэнне права на выбар выйсця, прароцтва свайго знікнення, бясконцы паўтор якога гарантуе, што ты застанешся тут.

"Дарога з Вільні на Полацак" — шлях, і ўмова існавання на ім — веданне, што
*Нам ніколі не трапіць у Полацак,*
*Нам ніколі не ўбачыць Вільню.*

Гэта сцвярджае шлях — вандроўніца не абцяжарана неабходнасцю дасягнення канчатковай мэты, і час вандроўкі абмежаваны толькі часам яе жыцця.

...Твой горад сніцца табе недасяжнай далечынёй, якая не вабіць наблізіцца да сябе — нібы, дасягнутая, яна нешта страціць. Але кола сну — расцятае, і вяртанне ўсё ж адбываецца: горад — месца, дзе кожны завулак родны. Кахаеш яго "нямоглым", бо дзеліш разам з ім цяжар стагоддзяў. Ты кахаеш яго, бо ён запомніў цябе, і ты будзеш жыць у ягоным уздыху:
*А, гэта тая, што спявала...*

Ненасытна ўбірае вільгаць трава — зелянее, нібы ў апошні раз.

...Вандроўніца не шукае ўтульнасці і прытулку — там, дзе яна, заўсёды яе дом. І нават калі яна дзеліць з кім-небудзь пакой, дык толькі для таго,
*Каб упэўніць сябе яшчэ раз:*
*Самае лепшае — быць*
*У кватэры адной.*

Сяброўкі вандроўніцы — здані, душы памерлых сяброў, і сама смерць — добрая знаёмая, з якой можна... дамовіцца за кубачкам кавы; таму, напэўна, тэма смерці, самагубства гучыць мужна, без "бабства", як адзін з варыянтаў працягу шляху. Адсюль — іранічныя ноткі, так знаёмыя ўсім, хто прайшоў праз захапленне рок-культурай:
*Кроў змяшаецца ў ваннай*
*з попелам цыгарэты.*
*О, я дакладна ведаю,*
*што перад тым,*
*як скончыць гэтае існаванне,*
*я буду курыць з асалодай.*

Матыў Волі і Адзіноты. Імгненне творчасці адбываецца якраз у хвіліну "прарыву на волю", праз непазбежнае "забойства каханых":

Дзмітрый КУЗЬМІН

# ПАЛІТЫЧНАЕ Ў СУЧАСНАЙ ЛІТАРАТУРЫ: ПРАДМЕТ, МАТЭРЫЯЛ, РАМКА

**1.** Сучасная літаратура стаіць перад сітуацыяй канчатковай страты палітычнай (калі не ўвогуле грамадзянскай) праблематыкай (у традыцыйным яе разуменні) эстэтычнай актуальнасці. Звязана гэта, мяркуецца, са скрайняй абмежаванасцю як злучанага з гэтай праблематыкай пазіцыйнага рэпертуара, які ці не цалкам абмяжоўваецца выбарам паміж хваласпевам і інвектывай, так і з задзейнічанымі моўнымі рэсурсамі.

**2.** Постмадэрн, які імкнецца зрабіць умоўнымі і празрыстымі межы паміж дыскурсамі, надае, здавалася б, новыя магчымасці для палітыкі стаць прадметам мастацтва, хаця б і апасродкавана (наколькі сапраўдным прадметам рэфлексіі мастака выступае не рэальная палітычная постаць ці падзея, а абстракцыя палітычнага дыскурсу). Я маю на ўвазе такое мастацтва, якое працуе, галоўным чынам, са стварэннем іміджаў і наладжваннем рамак, якія мяняюць статус тэксту, — уласна менавіта з такой працай часцей за ўсё суадносяць сёння ў Расіі паняццак "постмадэрнізм". Аднак, у агульным і цэлым, гэтая новая магчымасць паралізуецца спецыфічна расійскімі абставінамі: надзвычай нізкім культурным узроўнем як асобных палітычных фігурантаў, так і ўсяго палітычнага працэсу. Практычна ўсе дзейныя расійскія палітыкі (не кажучы ўжо пра персанажаў нядаўнага мінулага расійскай палітычнай сцэны) выглядаюць самі па сабе што бязглуздая пародыя на палітыкаў, як ужо гатовыя прыгаўскія персанажы, з чаго далейшыя маніпуляцыі з гэтымі канкрэтнымі вобразамі ці абстрагаванымі іх характэрнымі рысамі робяцца эстэтычна малаэфектыўнымі. У гэтым сэнсе, скажам, вядомы цыкл Цімура Кібірава "Жыццё К.У.Чарненкі", ярка заманіфеставаўшы такі падыход (і нават гэты твор у свой час выклікаў крытыку за пэўную спрошчанасць — сама фігура Канстанціна Усцінавіча нагэтулькі эфектная ў сваёй бязмоўнасці, настолькі выразная ў сваёй невыразнасці, што ніякая інтэнсіфікацыя гэтых яе характарыстычных рысаў не ўспрымаецца як на-мастацку істотная). Бадай, тут засталося месца толькі для найбольш радыкальнага жэсту: непасрэднага ўключэння выступу каго-небудзь з палітычных лідэраў у адпаведны кантэкст у якасці літаратурнага твора (зрэшты, і гэтая ідэя была ўжо вербалізаваная Міхаілам Жванецкім, які прапанаваў Уладзіміру Жырыноўскаму аддзяленне ў сваім канцэрце). І гэта пры тым, што зварот да канкрэтных, хоць неяк персаналізаваных суб'ектаў бягучай палітыкі з'яўляецца на-мастацку найбольш выйгрышным: палітычная свядомасць шараговага расейскага выбаршчыка дасягае абсалюту ў сваёй дурноце безасобавасці, працаваць з ім, так бы мовіць, далей няма куды. Безвыніковасць такіх спробаў добра ілюструецца іх прагматычнай бясплённасцю: давялося, напрыклад, быць сведкам (1991 г.) палымянай рэакцыі пракамуністычнай аўдыторыі на відавочна здзеклівы верш Уладзіміра Круглікава "Вызваліце Янаева".

**3.** У гэтай сітуацыі пачынаюць выкрышталізоўвацца два супрацьлеглыя і ўзаемададатныя падыходы да арганізацыі ўзаемадзеяння літаратурнага тэксту з палітычнымі рэаліямі.

**3. 1.** Першы з іх — гэта ператварэнне палітыкі з прадмета мастацтва ў ягоны матэрыял. Гарбачоў ці Ельцын перажываюць пры гэтым тыя ж метамарфозы, што і Пушкін з Гогалем у анекдотах псеўда-Хармса ці Ленін у шэрагу тэкстаў канца 80-х (напрыклад, у Аляксандра Ягорава), пры гэтым згаданыя метамарфозы стасуюцца найперш да ўзроўню рэферэнцыі. Падрываецца аднаэлементнасць экстэнсіянала імя ўласнага: імені "Ельцын" адпавядае не адзінкавы дэнатат — вядомая гістарычная постаць, а цэлы клас дэнататаў. Выдатнай ілюстрацыяй гэтай з'явы можа быць завяршэнне аднаго з апавяданняў Пятра Капкіна: "... а потом народ его Ельциным избрал, Борисом Николаевичем нарёк". Лінгвістычна гэта досыць тонкая трансфармацыя: імя палітыка не ператвараецца ў агульнае, не набывае пэўнага сігніфіката (параўнаем, напрыклад, у Міхаіла Сапегі, верш "Стары":
*"нешто я ельцин какой..." —*
*говорит*
*угощая кота рыбёшкой..."*
— тут "ельцын" адназначна семантызуецца як "жорсткі гаспадар (уладар), які адмаўляе ў самым неабходным"; агульны статус імя падкрэсліваецца стратай пачатковай вялікай літары). У той жа час нельга сказаць, што рэферэнтам (у лінгвістычным, а не бюракратычным сэнсе слова) капкінскага Ельцына, які прайшоў працоўную біяграфію ад жонкі Кашчэя Бяссмертнага да касманаўта, з'яўляецца Першы Усенародна Абраны Прэзідэнт Расіі як рэальная постаць. Блізкі прыклад — монаверш Івана Ахмецьева:
*Горби е... Барби.*

Можна згадаць таксама апавяданне Ігара Яркевіча "Мішэль", вершы Аляксандра Голубева, Энхтуўшына Уртнасана.

Неадназначная рэферэнцыяльная характарыстыка палітычных імён выключае магчымасць адназначна інтэрпрэтаваць аўтарскую інтэнцыю як палітычную. Вядома, можна вычытваць у монавершы Ахмецьева іранічную ацэнку гарбачоўскага "западничества", а ў капкінскай гісторыі аб удалым шлюбе будучага Барыса Мікалаевіча як пачатку яго паспяховай кар'еры — намёк на прасцітуіруючы характар палітычнай дзейнасці Ельцына рэальнага. Але падобныя сэнсы, калі яны ёсць, прынцыпова абертанальныя, яны аранжыруюць галоўную лінію выключна ўнутрылітаратурнага плана: паранімічныя спалучэнні і стылістычны кантраст у Ахмецьева, дыспрапарцыянальнасць фабулы і ўзаемадзеяння ў тэксце элементаў розных мастацкіх і культурных прастораў — у Капціна...

Зразумела, сустракаюцца і тэксты, якія пакідаюць рэферэнцыю імя ўласнага ў непарушнасці; але і ў гэтых выпадках, як правіла, мы маем справу з палітыкай не як з прадметам тэксту, а як з ягоным матэрыялам. Выразны прыклад — акцыя таго ж Пятра Капкіна на прэзентацыі 17-га выпуску альманаха "Соло": пачынаючы свой выступ у сітуацыі няўвагі публікі і пануючага ў зале шуму, Капкін сказаў: "Сягоння сярод нас у зале знаходзіцца Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. Давайце прывецім яго!" Зала заўзята запляскала ў далоні, хаця большыня прысутных і не зразумела з якой нагоды.

Статус матэрыялу, які набываецца палітычнымі рэаліямі ў творах сучасных аўтараў, сведчыць, акрамя ўсяго іншага, аб поўным і канчатковым адмаўленні літаратараў ад памкненняў да палітычнага місіянерства, што карэспандуе з ростам эскапісцкіх тэндэнцый у асяродку інтэлігенцыі малодшага і сярэдняга пакаленняў. Аднак паколькі нават сярод літаратараў такі стан рэчаў задавальняе далёка не ўсіх, то




Ежы КЛАЧОЎСКІ

# ТРАДЫЦЫІ ЦЭНТРАЛЬНА-ЎСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ — ДОСВЕД, ВАЖНЫ ДЛЯ НАШЫХ ЧАСОЎ



*Сёння ў рубрыцы "Лагасфера" пойдзе гаворка пра Ежы Клачоўскага, знакамітага польскага гісторыка рэлігіі, аўтара шматлікіх працаў з мінуўшчыны Рэчы Паспалітай і славянскай цывілізацыі ў Еўропе. Даследаванні Клачоўскага ўжо даўно атрымалі шырокі розгалас у свеце, чаму не ў апошнюю чаргу паспрыяла іх даступнасць і кампетэнтнасць, а таксама арыгінальныя гістарычныя канцэпцыі аўтара. Кнігі гэтага даследніка вызначаюцца глыбокай ступенню пранікнення ў сутнасць разглядаемых з'яваў, багаццем фактаў, пошукам і генералізацыяй новых, напару нават нечаканых ідэяў. Адметнай рысай даследаванняў Клачоўскага выступае тое, што яны не замыкаюцца ў абсягу гісторыі як такой, а апелююць да гісторыі матэрыяльнай культуры, культурнай антрапалогіі, этнаграфіі, грамадскай гісторыі, статыстыкі і картаграфіі.*

*Некаторыя працы Клачоўскага пабачылі свет і на Захадзе. Ён з'яўляецца аўтарам многіх раздзелаў шматтомнай "Histoire du christianizme des origines a nos jours", якая друкуецца ў Парыжы сусветна вядомым выдавецтвам "Foyard". Ужо будучы дырэктарам Інстытута Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў Любліне, Клачоўскі зыніцыяваў і ўзначаліў выданне шматтомнага "Атласа грамадска-рэлігійнай гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы".*

*Няпростым, аднак, быў лёс гэтага чалавека. Можна сказаць нават інакш: шмат чаго ў жыцці ён дасягнуў насуперак волі лёсу.*

*Ежы Клачоўскі нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Багданы, што знаходзіцца ў Астралэнцкім ваяводстве. У 1940 годзе ён быў выселены разам з сям'ёй у Генеральную Губерню, і неўзабаве асядае ў Варшаве, дзе пачынае навучанне ў сярэдняй школе айцоў марыянаў. Адначасова — увосень 1941 г. — ён уступае ў полк "Бішта" Арміі Краёвай і ў 1943 годзе канчае тайную школу падхарунжых. Ён бярэ чынны ўдзел у Варшаўскім паўстанні і ноччу з 24 на 25 верасня падчас атакі атрымлівае цяжкае раненне. На гэтым, аднак, злыбеды не скончыліся: будучы прафесар трапляе ў палон, адкуль у студзені 1945 года яго вызваляюць. У той жа самы год ён распачынае навучанне на гістарычным факультэце Пазнаньскага ўніверсітэта, а пасля пераводзіцца ў Торунь, дзе ў 1948 годзе Клачоўскі становіцца спачатку магістрам, а праз два гады і доктарам гісторыі.*

*Увосень 1950 года Клачоўскі пачынае выкладаць гісторыю ў Каталіцкім Люблінскім універсітэце, дзе працуе і дагэтуль. У гэтым універсітэце ён праходзіць усе прыступкі навуковай кар'еры: у 1967 г. Клачоўскі становіцца экстраардынарным прафесарам, у 1974 г. — ардынарным, а пазней выконвае функцыю дэкана факультэта гуманітарных навук. Паралельна з гэтым Клачоўскі стварае і кіруе інстытутам гістарычнай геаграфіі касцёла ў Польшчы. Адначасова ён працуе ў камітэце гістарычных навук пры Польскай акадэміі і Міжнароднай камісіі парафіяльнай гісторыі, у якой з 1980 года Клачоўскі з'яўляецца віцэ-старшынём. Разам з шырокай навучальнай, навуковай і арганізацыйнай дзейнасцю ў маштабе Польшчы, ён таксама займаецца — асабліва ў васьмідзесятыя гады — актыўнай міжнароднай дзейнасцю. Клачоўскі выкладае ў "Калеж дэ Франс", у парыжскай Сарбоне, у англійскім Оксфардзе і амерыканскім Прынстане.*

*Адметную старонку жыццёвай актыўнасці Е.Клачоўскага становіць яго грамадская і палітычная дзейнасць. У 1956 г. ён быў адным з заснавальнікаў варшаўскага клуба каталіцкай інтэлігенцыі. У 1981 годзе Клачоўскі кіруе працай Універсітэта Цэнтральна-Усходняга рэгіёна "Салідарнасці". Ён сябра Грамадзянскага камітэта пры Леху Валенсе ў 1987 — 1990 гг., старшыня Грамадзянскага камітэта Любліншчыны ў 1989 — 1990 гг., з чэрвеня 1990 г. на лістапад 1991 г. — сенатар ад Люблінскага ваяводства, сябра Камісіі замежных справаў Сената. З вясны 1991 г. ён таксама выконвае функцыю старшыні Польскага Камітэта ЮНЭСКА і з'яўляецца сябрам Выканаўчай Рады гэтай арганізацыі. У апошні час Клачоўскі шмат увагі прысвячае і працы ў Польскім інстытуце хрысціянскай культуры пры Фондзе Яна Паўла II у Рыме.*

*Змешчаны ніжэй тэкст быў пакладзены ў аснову прамовы, што прагучала ў ліпені 1994 года падчас першага сойміку моладзі Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў Кракаве.*

***Перакладчык***

Спадар Старшыня, Рэктар, Шаноўнае Спадарства. Дарагія сябры!

Тэма аб згуртаванні народаў, якую мы сёння сабе ставім, з'яўляецца тэмай нялёгкай, але вартай рэфлексіі, тэмай незвычайна істотнай, тэмай, якая стаіць перад намі ўсімі, бо існуе або перспектыва нейкай татальнай катастрофы, або перспектыва згуртавання.

Важнай з'яўляецца часіна, аб якой мы гаворым — канец XX стагоддзя. І калі мы думаем аб нас саміх, аб гісторыі, аб усім тым, што вызначыла, што мы беларусы, фіны, венгры, палякі, нам неабходна заўсёды ўсведамляць, калі мы існуем, у які момант.

Трэба ясна сказаць, што мы стаім на асценках XX стагоддзя. Збігнеў Бжэзінскі ў нядаўна выдадзенай кнізе надвёў вынікі XX стагоддзя, трапна назваўшы яго "стагоддзем звар'яцення". Мы стаім на асценках стагоддзя звар'яцення. Рознымі былі формы гэтага звар'яцення, але статыстыка, якую прыводзіць Бжэзінскі, гаворыць сама за сябе. Звар'яцце людзей — 175 млн. людзей былі бязлітасна забітыя ў XX стагоддзі; такім чынам здзейсненага забойства не знае гісторыя чалавецтва. Цяпер можна гэтыя дадзеныя падзяліць — Гітлер 17 млн., Сталін 20 —25 млн., Кітай — 29. Гэтыя разлікі можна шырыць.

Братазабойчыя войны, фанатызм, надмацаваны ідэолагамі рознага роду. І гэтае звар'яцене ў вялікай меры закранула нас — бо два найжудаснейшыя таталітарызмы XX стагоддзя, нацысцкі і камуністычна-бальшавіцкі, дзейнічалі якраз у нашых краінах — ад Нямеччыны да Расіі і ва ўсіх краінах паміж Нямеччынай і Расіяй. Такім чынам, стагоддзе звар'яцення — XX стагоддзе накінула сваё кляймо на нашых карках.

Наша гісторыя — гэта гісторыя звар'яцення. Зірнем усе разам на гісторыю звар'яцення ў гэтай частцы свету. І ці скончылася гэта? Напэўна, не, нягледзячы на ўсе змены, якія адбываюцца, на ўсе нашы намаганні.

Таталітарызмы вельмі глыбока закранулі нас усіх. Якраз у тых краінах, якія перажылі гэты жудасны досвед, на кожным кроку відаць хваробы XX стагоддзя ў разнастайных нацыянальных эгаізмах, у розных формах нацыянал-камунізму; гэта адна з ідэалогій XX стагоддзя — нацыяналізм, спалучаны з крайнім камунізмам ці таталітарызмам у розных сумесях, у розных формах. І дасюль сляды гэтага існуюць часам у афіцыйных дактрынах, часам у нашым мысленні.

Мы вельмі ахвотна шукаем ворагаў — гэта першы шлях мыслення, благі шлях — заўсёды нехта вінаваты, і гэта таксама спадчына стагоддзя звар'яцення. І тут патрэбны "рахунак сумлення" для ўсіх нас, і перадумовай любога дыялогу з'яўляецца якраз такая рэфлексія, калі мы пачынаем усведамляць, да чаго мы давялі свет і да чаго мы давялі нашы краіны. Гэта першы прынцып, дзякуючы якому я хацеў увыразніць і падкрэсліць, пра якія важныя справы ідзе гаворка.

А другі бок медаля ў гэтае жудаснае стагоддзе звар'яцення, як і заўсёды ў гісторыі, — сляды таго, што, аднак, людзі захавалі чалавечнасць, што яны засталіся людзьмі і трэба цаніць гэта, бо застацца чалавекам у найцяжэйшых умовах вельмі цяжкая справа; вельмі цяжка застацца чалавекам, напрыклад, у канцэнтрацыйным лагеры або ў лагеры працы. Вядома, мала хто здаў гэты экзамен, аднак усе людзі з нашых краін яго здавалі. Нягледзячы на гэта былі элементы захаванай чалавечнасці і былі элементы пошуку міжчалавечай салідарнасці.

У тое ж самае XX стагоддзе адбыліся вельмі важныя рэчы, напрыклад, між Цэрквамі, дзе месца варожасці паміж каталіцкай царквой, пратэстанцкай і праваслаўнай заняў надзвычай магутны рух другой палавіны XX стагоддзя — экуменізм. Узнікла абсалютна новая псіхалагічная атмасфера, і гэта вялізны пералом. Для каталікоў, напрыклад, часы Яна XXIII і II Ватыканскага Сабору азначалі пералом, асноватворнае прыняцце новых поглядаў. Можна прывесці шмат прыкладаў новых адносінаў паміж народамі. Не хачу гаварыць аб нашай частцы Еўропы, бо ўжо некалькі гадоў мы тут здзяйсняем сапраўдную працу ў гэтым абсягу, але прывяду вялікі еўрапейскі прыклад адносінаў паміж Нямеччынай і Францыяй. Гэта вялікае збліжэнне, запланаванае элітамі, мудрымі людзьмі з аднаго і другога боку, прынесла надзвычай важныя вынікі. І тут можна множыць прыклады, і таму напрыканцы XX стагоддзя, гаворачы аб стагоддзі звар'яцення, трэба памятаць, што былі людзі, якія захавалі чалавечнасць і шукалі збліжэння паміж нацыямі, расамі і рэлігіямі.

І ў гэтым кантэксце наша сустрэча, сустрэча перадусім маладога пакалення, вельмі важная, наколькі гэтаму маладому пакаленню даводзіцца забяспечыць разрыў з досведам гэтага жудаснага XX стагоддзя. Яно мусіць думаць інакш, што вельмі нялёгка, наколькі кожны тут увасабляе пэўную інфармацыю, школу, сям'ю і кожны нясе багаж гэтага жудаснага XX стагоддзя і дзякуючы гэтаму для кожнага важны гэты разрыў, але ёсць вялікая надзея, што наўперад маладыя людзі зробяць такога кшталту крок. І добра, што месцам такога мыслення быў абраны якраз універсітэт, бо ў старой еўрапейскай традыцыі пачынаючы з XII, XIII стагоддзя, можна сказаць з пачатку Еўропы, універсітэт як культурная з'ява ў прынцыпе з'яўляецца месцам рэфлексіі, месцам мыслення аб свеце з пэўнай дыстанцыі. Захоўваць дыстанцыю надзвычай важна. Жывучы дзень за днём сваім клопатам, тым, што сродкі масавай інфармацыі штодня паведамляюць нам, мы не ўмеем абстрагоўвацца, а абстрагаванне з'яўляецца неабходным для сапраўднейшай рэфлексіі.

Добра, што гэты стары універсітэт, гісторыя якога сягае да першых стагоддзяў фармавання Еўропы, прыняў нас, і гэты горад, і гэтыя муры павінны спрыяць гэтаму мысленню з дыстанцыяй да нас саміх, да дня сённяшняга і дня заўтрашняга. Гэта павінна быць рэфлексія аб адносінах паміж народамі, якую трэба зыніцыяваць нам. Гэта мы на сутнасці пераймаем адказнасць за нашы краіны, за тое, кім мы з'яўляемся сёння, за нашы культуры, бо ўрэшце тое, што я ўкраінец, венгр або славак азначае, што я належу да пэўнай культуры — украінскай, венгерскай або славацкай.

*Даніла КІШ — знакаміты югаслаўскі пісьменнік. Ён нарадзіўся ў 1935 г. у Субоціцы (Сербія), а памёр у Парыжы (1988 г.).*

*Даніла Кіш адзін са стваральнікаў жанру рэальнай прозы ці факцыі ў постмадэрновай літаратуры. Паэтычная амальгама жанру нагадвае дакументальную прозу, але дакумент у факцыі найперш выбудоўвае варыятыўны (версіфікацыйны) дэкор падзей, а лёсы герояў часцяком выяўляюцца ў магчымай альтэрнатыўнай сюжэтна-фабульнай версіі, якая павінна вымкнуць утоенае з дакументальнага сведчання. У адрозненне ад традыцыйнай дакументальнай прозы, факцыя дазваляе падмену сапраўдных дзейнікаў сведчання, як і цытаванне фіктыўнага дакумента (псеўдадакумента), які мусіць уздзейнічаць гэтаксама пераканаўча, як і сапраўдны, рэальны дакумент. Размыванне межаў паміж рэальным і фіктыўным з'яўляецца мастацкай мэтай жанру.*

*Адзін з найпапулярных твораў Данілы Кіша — "Грабніца для Барыса Давыдавіча". Ён складаецца з сямі навелаў, зыніцыяваных дакументальнымі сведчаннямі пра масавае знішчэнне інтэлектуалаў і гэбраяў у прадваеннае дзесяцігоддзе ў камуністычнай імперыі Зла. Тэрор і прыгнёт вольнага духу — інтэлектуальна-інвентыўны цэнтр твора, хаця, як на першы погляд, ён і не звязвае ў адно мастацкае цэлае асобныя навелы.*

*Героі Данілы Кіша — ахвяры крывавай стыхіі паслякастрычніцкай маніякальнасці, гэта лішнія людзі ў "справядлівейшым з грамадстваў", яны аднолькава рэальныя і аднолькава ўяўныя. Барыс Давыдавіч хоць і народжаны рэвалюцыяй, але не патрэбны ёй, бо яе, па сутнасці, няма. Ёсць толькі забойствы і пыхлівае шаленства плебса. Сівіні з'ядаюць сваіх нашчадкаў (гэтак наймуецца адна з навел).*

*Праз некалькі гадоў пасля поспеху "Грабніцы для Барыса Давыдавіча" Даніла Кіш напісаў драматургічную версію гэтага твора — "Механічныя львы".*

*Ніжэй мы знаёмім чытача "ЗНО" з даследаваннем Канстанціна Оруша, зробленае на подзе абодвух згаданых тэкстаў Данілы Кіша, дзе даследчык дэманструе магчымасць вывучэння ўтоеных да гэтай пары якасцяў міфа, ці, дакладней, яго наяўнасць у тэксце-факцыі.*

Канстанцін ОРУШ

# Феномен антыміфа і ўзаеміны міф-антыміф у перспектыве аніматыўнага міфалагічнага падыходу

## На подзе кампаратыўнага аналізу празаічнай і драматургічнай версій "Грабніцы для Барыса Давыдавіча"

Павіч і Булатовіч, а яшчэ раней Іва Андрыч, успрымаюць еўрапейскую культурную прастору як адзінства універсальных і унікальных (у значэнні індывідуальна-аўтарскіх, а таксама рэгіянальных) сродкаў выяўлення мастацкай філасофіі. Іх код звычайна знаходзіцца ў гіпапланавым подзе твора, у той час як унікат прадстаўлены, галоўным чынам, у гіперпланавым вымыканні знакаў з балканаславянскага (а ў Павіча — візантыйска-славянскага) эгзатопасу. Даніла Кіш можа быць першы паўднёваславянскі пісьменнік, які ўвайшоў у сусветную літаратурную эліту перш за ўсё як універсальны інвентыўны і касмапалітычны субстракт сваіх твораў.

У актуалізаваных палеміках вакол тэарэтычнага ўнёску літаратурнай спадчыны Кіша даследзіны асноўным чынам канцэнтраваліся на пераўтварэнні фікцыя-факт-фікцыя і на ролі дыстанцыяванага наратара. Няма сумнення, што амальгама фактаграфічнага, псеўдадакументальнага і фікцыянальнага ў ягоным апавядзе дадаткова ўскладніла мастацкую загадку парадакументальнай мадэлі Борхеса. Не кажучы пра тое, што Кіш змяніў індуктыўныя інспіратыўныя адносіны да дакумента: амерыканскую факцыю ператварыў у сапраўднае дэдуктыўнае даследаванне чытача-саўдзельніка. Але што мы атрымаем, калі прапусцім паэтыку Кіша скрозь прызму не асабліва папулярнай міфалагічнай тэорыі літаратурнага працэсу?

У адрозненне ад "Энцыклапедыі мёртвых", дзе адносна лёгка падвойваюцца элементы фантастычнай, метафізічнай сугестыі і памеры трансгістарычнага, якія падводзяць да пэўнага міфалагізму наратыўнай прасторы, апавяданні з "Грабніцы для Барыса Давыдавіча" звычайна прэзентуюцца як прыклад мультыплікацыі псеўдафактаграфічных гіпатэкстуальных адзінак, якія зведзеныя ў функцыю, і, адначасна выбудоўваючы, структурыруюць гіпертэкст як уяўнае сведчанне нейкага "рэальнага" аповеда. Гістарызм і ідэалагізацыя, а таксама тэмпаральныя фіксанты, звязаныя ў такім фікцыянальным кантэксце, які навязвае рэцыпіенту высокае (ці нават параўнальнае з крайнем чакання) уяўленне пра аўтэнтычнасць.

Калі пагадзіцца з традыцыйным разуменнем міфалагічнага як незасведчанай ісціны (ці падману) пазачасавага і пазапрасторавага значэння, тады нам няма чаго шукаць знакі міфалагічнага мыслення ў "Грабніцы для Барыса Давыдавіча". За гэта кажа і стыль аўтара — вольны ад арнаментальнай апісальнасці, метафарыкі і метанімічных інвенцый, халодна-дакладны, як дакументальнае сведчанне. Скуль тады падставы для аналізу ў перспектыве міфалагічнай тэорыі?

Па-першае, што прапаноўвае сама гэтая тэорыя? Насуперак таму, што навука пра міф у філасофскім аспекце ведае даследзіны Леві-Строса, Касірэра, Мелецінскага, Элеадзе, міфалагічная тэорыя пра літаратурныя працэсы і падзеі яшчэ і цяпер хіба адно толькі спасылаецца на тое, што ў навуцы зацвердзілася як нейкае больш-менш пэўнае тлумачэнне яе (міфалагічнай тэорыі) меркаванняў. Міфалагічная тэорыя ўсё роўна абапіраецца на пошук і выяўленне міфалагічнага ў асобным літаратурным тэксце, і яе прысутнасць выяўляецца ва ўзаемадачыненні двух складнікаў — намінатыўнага і дэнамінатыўнага. Яны ёсць часткай дактрыны і засноўваюцца альбо на прамым найменаванні вядомага вобраза і наследаванага міфалагічнага вобраза (намінатыўны падыход), альбо міфалагічны вобраз, сюжэт ці фабула з'яўляюцца пад новым найменнем, хаця яны маюць эквівалент у міфалагічнай спадчыне (дэнамінатыўны падыход). Ідэя намінатыўнага і дэнамінатыўнага падыходаў, па сутнасці, імкнецца да таго, каб вымкнуць найглыбока засведчаны міфалагічны вобраз гінасемічнай значнасці і ўвайсці з ім у працэс узаемазамяняльных (кампенсаторных) трансляцый, трансвестый і трансфармацый. У гэтым сэнсе аналіз "Грабніцы для Барыса Давыдавіча" з дапамогай згаданых дактрынальных падыходаў быў бы абсурдным і смешным; адзінае, што ў

Культура — гэта мова, гэта ўзвычаенні, гэта погляды, гэта цэлы комплекс вартасцяў. Дзякуючы культуры кожны з нас становіцца чалавекам, гэта культура творыць чалавека. І таму наша мысленне, апрача адносінаў паміж людзьмі, датычыць гэтых фундаментальных справаў, нас саміх, нашай культуры, пытання — кім мы ёсць? З чым мы сябе ідэнтыфікуем. Сёння будзе недастаткова сказаць, што я ідэнтыфікую сябе з Украінай, Польшчай, Расіяй, Нямеччынай — якой Украінай? Якой Польшчай? Якой Расіяй? Якой Нямеччынай? Гэта прынцыповае пытанне.

Мы стаім перад пэўным выбарам, што нам належыць здзейсніць, і вяртаемся да пытання, які я чалавек, прынцыповага пытання. Перадусім гэта першая якасць — які я чалавек. Перш-наперш — паляк, перш-наперш — немец, перш-наперш — украінец, — і чалавек. І ў гэтым першы элемент надзвычай важны для любога кантакту, бо з гэтым даводзіцца спатыкацца людзям ва ўзаемадачыненнях. А могуць спатыкацца не людзі, а фанатычныя бестыі, якія думаюць толькі аб тым, каб адны вынішчалі другіх, напрыклад, дзякуючы этнічным чысткам і таму падобным з'явам, што падтрымліваюць нянавісць рознага тыпу, расавую, рэлігійную, нацыянальную. Па прыклады далёка хадзіць ня трэба, нячасны лёс былой Югаславіі павінен быць перасцярогай для нас якраз у гэты момант.

У рэфлексіі аб культуры варта падкрэсліць вагу гістарычнай рэфлексіі, але гісторыі, зразумелай так, што трэба зыходзіць з саміх сябе, са сваёй гісторыі. Праз гісторыю сваёй сям'і мы трапляем у сапраўднасць нашых краін, супольнасцяў. І таму мы як людзі створаны гісторыяй, пэўнай гісторыяй XX стагоддзя. Але трэба дадаць, што не толькі XX стагоддзя, не толькі гісторыяй гэтага драматычнага перыяду. Нашу культуру ўтварае цэлы шэраг элементаў, якія назапашваліся сотні гадоў. Гуманітарная веда другой палавіны XX стагоддзя ўвяла надзвычай важнае для сучаснай гуманістыкі паймо мыслення аб доўгай працягласці. Элементы культуры — гэта элементы доўгай працягласці, іх трэба заўважаць і трэба ўмець іх разрозніваць, і мне падаецца, што падчас рэфлексіі якраз аб культуры нашых краін, нашай часткі Еўропы, мы павінны разважаць над тымі элементамі культуры, якія абумовілі, што мы сталі людзьмі той нацыянальнай формы, той мовы, у традыцыях якой мы былі ўзгадаваны.

Мне падаецца, што сёняшні свет чакае вялікая праца. Гэтая праца вельмі выразліва ўжо некалькі дзесяткаў гадоў ажыццяўляецца ў Заходняй Еўропе, калі Еўрапейская супольнасць будавалася з увагі на пэўныя традыцыі супрацоўніцтва, якія там існавалі. Мы сёння ў нашай частцы Еўропы, у той Еўропе, якую звычайна называюць Цэнтральна-Усходняй Еўропай — гэта той рэгіён, які мы ўсе рэпрэзентуем у гэтай зале — мусім навучыцца прадумваць гісторыю нашага рэгіёну якраз з пункту гледжання культур, якія тут узніклі і якія абумовілі тое, што вызначае жыццёвасць нашых нацый. Аднак у XIX стагоддзі нашых краін яшчэ не было, а былі чатыры вялікія дзяржавы ў гэтай частцы Еўропы: Расія, Прусія, імперыі з цэнтрамі ў Вене і Турцыі. Былі моманты ў XX стагоддзі, калі існавала толькі ўсходняя Еўропа і заходняя Еўропа з мяжой на Лабе, а сёння тут 19 — 20 дзяржаваў. І гэта прыклад таго, што на працягу гэтага доўгага часу культура, г.зн. людзі, якія не мелі нават свайго гаспадарства, але мелі сваю культуру, прывяла да таго, што ўзнікла гэтулькі дзяржаваў на карце Еўропы.

Мы павінны больш разважаць над нашымі культурамі і адначасова ўсведамляць сабе адну рэч, што нашы культуры заўсёды ўзнікалі ў цеснай сувязі з суседзямі і з усім цывілізацыйным колам, да якога мы належым. Гэтае цывілізацыйнае кола, да якога мы належым тысячу гадоў — гэта Еўропа. Бо Еўропа — гэта цывілізацыя, якая якраз каля 1000 года, у X стагоддзі распырылася на нашы краіны. Раней гэта быў Захад з Карлам Вялікім, гэта была Бізантыя, таксама еўрапейская традыцыя, а з X стагоддзя — гэты перыяд вызначаюць такія, напрыклад, даты, як: 966 г. хрост Польшчы, 988 г. хрост Русі — і мы з'яўляемся на карце Еўропы. Узнікла Еўропа з нашымі краінамі, узнікла тое, што мы называем новым хрысціянствам. Было заходняе хрысціянства, бізантыйскае хрысціянства і новае хрысціянства, што сягала да Скандынавіі і межаў Кіеўскай Русі.

І гэта выточны пункт нашай гісторыі, надзвычай істотны і важны, але толькі выточны пункт, бо толькі пасля, на працягу наступных стагоддзяў у выніку пераўтварэнняў і складаных з'яваў утварыліся нашы культуры, падставы нашай вартасці як людзей, нашых вартасцяў як палякаў, украінцаў, чэхаў і г.д., і адначасна еўрапейцаў. Бо ўсё дзеелася ў цывілізацыйным еўрапейскім коле, якое тады атаясамлівалася з заходнім і ўсходнім хрысціянствам. І тое, што пасля будзе асабліва важна для ўсіх еўрапейскіх краінаў, а таксама і для нас, гэта той досвед, які мы атрымалі ў наступныя стагоддзі, калі з такіх нашых сутыкненняў фармаваліся якраз падставы нашых нацыянальных культур.

Польшча, Чэхія, Венгрыя — якія з X, XI стагоддзя пачалі навязваць інтэнсіўныя кантакты з еўрапейскім Захадам — пераннялі гэтае дынамічнае развіццё Заходняй Еўропы, таму XI, XII, XIII стагоддзе — гэта вялікія стагоддзі Заходняй Еўропы. Польшча, Чэхія, Венгрыя разам увайшлі ў Заходнюю Еўропу і прынялі не толькі хрысціянства з яго культурай, але і пэўныя грамадскія структуры гэтай Еўропы, што было надзвычай важна.

Гэтую Заходнюю Еўропу ў першы ле нелічоных поспехаў —у XI, XII, XIII стагоддзях — стварылі не дзяржавы і грамадствы. Гэта быў рух знізу, гэта былі тысячы супольнасцяў. Гарады і сёлы як супольнасці з уласнымі законамі. Можна сказаць, што малыя дэмакратыі горада і вёскі стварылі Еўропу. Нашы краіны ў XI, XII і перадусім у XIII стагоддзі пераннялі гэтыя ўзоры і фармавалі сваю культуру шляхам спалучэння пэўных уласных элементаў з элементамі, перанятымі з Захаду.

Адначасова вельмі выразліва з XIII, XIV стагоддзя хада гісторыі прывяла да таго, што Польшча стала злучана цеснымі сувязямі з новымі краінамі, такімі, як Вялікае княства Літоўскае, якое ўзнікла ў XIV стагоддзі і абыймала Літву, Жмудзь і вялікія прасцягі былой Кіеўскай Русі, якія пасля ўтварылі Украіну і Беларусь. На гэтых вялікіх абшарах польска-літоўска-рускай дзяржавы, калі не зважаць на палітычны аспект, мелі месца культурныя з'явы, якія аказалі вялікі ўплыў на фармаванне падставаў украінскай, беларускай, летувіскай, польскай культуры, але адначасова ў гэтым фармаванні ўдзельнічалі іншыя групы. Гэта надзвычай цікавая з'ява, што ўдзельнічалі немцы — з XIII стагоддзя вельмі інтэнсіўна і працягла. Найбольшым горадам польска-літоўска-рускай Рэчы Паспалітай быў Гданьск, асноўнай папуляцыяй якога было нямецкае і лютэранскае жыхарства. Згадаем габрэяў, якія гралі такую вялікую ролю ў гэтай частцы Еўропы з XV — XVI стагоддзя; некалькі стагоддзяў гэта быў галоўны ў свеце асяродак габрэяў. Мы можам доўга гаварыць аб фармаванні нашых культур, але важна, каб мы ўсе памяталі, што ўсё гэта адбывалася ў Еўропе, у кантакце паміж намі і ў кантакце з Еўропай. Так, вялікую ролю гралі немцы, але якую вялікую ролю гралі італьянцы, паўсюль відаць на нашай прасторы, відаць і ў Кракаве, і ў Нясвіжы, і ў Кіеве, і ў Вільні. Важкую ролю адыгралі і іншыя еўрапейскія краіны.

Гэта, зрэшты, досвед, які ў сярэднявеччы, у XIV і XV стагоддзях, пэўным чынам падзялялі з намі венгры, што ўтварылі тады шматнацыянальную грамаду — каралеўства Св.Стафана, дзе побач з венграмі жылі таксама харваты, славакі, румыны, сербы і іншыя, складаючы своеасаблівую мазаіку, форму федэрацыі. Вельмі інтэнсіўнае развіццё Венгрыі ў гэтую вялікую эпоху, пры блізкіх сувязях з Польшчай, было вырашальным для сфармавання венгерскай культуры. Пасля Венгрыю напаткала катастрофа: гэта была параза ў бітве пад Могачам (1526), у выніку якой краіна была захопленая і падзеленая Турцыяй. Хаця ад гэтай катастрофы краіна ачомвалася марудна, але падставы венгерскай культуры сфармаваліся якраз у тыя стагоддзі.

Драматычная і гісторыя Чэхіі. Гэтая краіна адыгрывала вялікую ролю ў XIII і XIV стагоддзях у нашай частцы Еўропы. Потым былі гусіцкія войны і пошук новых рашэнняў. Вялікім чэшскім досведам у XV — XVI стст. быў рэлігійны плюралізм. XVI стагоддзе прынясе надзвычай цікавы досвед ва ўсе нашы краіны, сужыццё ўжо не толькі русінаў, украінцаў, беларусаў, летувісаў, палякаў, немцаў, габрэяў, але таксама каталікоў, праваслаўных, пратэстантаў розных галін. Гэтага шмат было ў Венгрыі, і там, дзе заставалася пэўная свабода — у Трансільваніі і ў Чэхіі — аж да катастрофы пры Белай гары (1620); было гэтага шмат і на прасцягах шматнацыянальнай Рэчы Паспалітай.

А ў тагачаснай Еўропе з XVI стагоддзя вельмі выразліва панаваў дзяржаўна-веравызнавальны абсалютызм, што азначала, што падданыя павінны былі ісці за валадаром. У Расіі гэта быў праваслаўны абсалютызм, дзе-нідзе пратэстанцкі — як у Прусіі, або каталіцкі — як у Аўстрыі. Усе сцвярджалі, што мусіць быць адна вера, а тут наўкола цябе жылі і суіснавалі розныя веравызнавальныя групы. Гэта, безумоўна, не было ідэальнае сужыццё, але не трэба забывацца, што гэта быў свайго роду эксперымент, адзіны ў свеце ў такім маштабе, здзейснены ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропай.

Гэта гісторыя, на якую мы занадта мала звяртаем увагі ў школьных падручніках, забываючыся, што гэта супольны здабытак. Дагэтуль мы гаварылі аб гісторыі нашых краін як бы адасоблена, забываючыся аб нашых супольных здабытках. Аднак гэта была вялікая эпоха і таму ў нашых краінах існуе ўспамін аб гэтых стагоддзях.

І можа гэта невыпадкова, што калі вольная Украіна стварыла новы універсітэт у Кіеве, то яго патронам быў абраны Пётра Магіла, які гэтаксама здзяйсняў гэты эксперымент. Гэта быў чалавек многіх культур, які патрапіў стварыць у Кіеве інтэлектуальны асяродак, вельмі важны для Украіны. Калі ў Менску быў створаны асяродак рэфлексіі над Беларуссю, яго патронам быў абраны Францішак Скарына — чалавек гэтай эпохі, звязаны з Кракавам, Вільняй, Менскам, Прагай. Прыклады можна было б множыць бясконца.

Мы не збіраемся займацца ідэалізацыяй, бо гэта не ўзоры і ў гэтым сужыцці было мноства негатыўных з'яваў. Аднак мы не адмаўляем той вялікай традыцыі, у якой фармаваліся нашы культуры. Бо няма польскай культуры без Украіны і Беларусі. Няма Украіны ў культурным сэнсе — прыгадаем Тараса Шаўчэнку — без Бізантыі і Польшчы. Тут фармаваліся элементы нашых культур, тут дзейнічалі людзі, якія часам належалі да многіх традыцый. Гэты досвед пэўнага нашага плюралізму адначасова з'яўляецца еўрапейскім досведам, нашым пропускам у Еўропу. Гэта — еўрапейскія вымеры нашага досведу. Калі сёння мы гаворым аб гэтым прадстаўнікам Заходняй Еўропы, то яны кажуць, што мы апярэдзілі іх у гэтай дзейнасці. Мы спадкаемцы вялікай еўрапейскай культуры, якую тут з вялікімі цяжкасцямі і мазалямі на працягу сотень гадоў спрабуюць рэалізаваць. Напару ў свеце нас уяўляюць як новыя дзяржавы, якія ўзніклі некалькі гадоў таму. А ў нас жа ёсць доўгае культурнае карэнне, аб чым мы павінны гучна гаварыць, як і аб тым, што кожная з нашых культур развівалася ў супольнасці іншых.

Мы стварылі цэлую сетку інстытутаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы, якая займаецца працай у тым ліку над новымі сінтэзамі нашых краін. Мы павінны развіваць культурны турызм, а турыстам даць праваднікоў, якія б прэзентавалі шматкультурную спадчыну нашых гарадоў. Мы прывязаны да нашай малой бацькаўшчыны, але трэба адначасова памятаць, што нашы культуры з'яўляюцца ўзаемазалежнымі.

Многія ў свеце ўяўляюць нас як няздольных да сужыцця, падкрэсліваючы, што мы здольныя толькі біцца паміж сабой і як прыклад прыводзяць цэлую плойму войнаў паміж намі. Але ж у нашай культуры ёсць глыбокая традыцыя сужыцця і мы рашуча хочам выбраць такую культуру, такую Украіну, такую Польшчу, такую Расію, такую Нямеччыну, такую Чэхію, якая была б адкрытай для іншых і не замыкалася б у цесным нацыянальным шавінізме. І гэта выбар, які стаіць перад намі, і інтэлектуальнае заданне, якое нам трэба ажыццявіць. Пашчасці нам, пашчасці вам Божа як найхутчэй выканаць гэтую місію.

**З польскай мовы пераклаў**
**Валерка БУЛГАКАЎ**



*Канстанцін Оруш — літаратурны і тэатральны тэарэтык ды крытык, славіст, касмапаліт. Нарадзіўся ў Сафіі сорак гадоў таму пад падвоенай кармай Казярога і Стральца. Займаецца доследам постмадэрновых з'яваў у сербскай, харвацкай, македонскай культурах, а таксама чыста тэарэтычнымі літаратурнымі праблемамі. Піша на сербскай, балгарскай, македонскай, харвацкай і французскай мовах.*

*Абараніў доктарскую дысертацыю па гісторыі македонскай літаратуры ў Сафійскім універсітэце, дзе выкладаў і сербскую літаратуру. Цяпер чытае курс гісторыі балгарскай літаратуры ў Заграбскім універсітэце (Харватыя).*

*Канстанцін Оруш — аўтар шматлікіх тэарэтычных распрацовак, звязаных з сучаснымі паўднёваславянскімі літаратурамі. Яго тэксты друкаваліся ў Іспаніі, Францыі, Югаславіі, Македоніі, Балгарыі, Харватыі ды іншых краінах. Даследніцкую метадалогію Канстанціна Оруша можна вызначыць як кампраміс сінтэзу паміж постструктуралізмам Жэнэта, філасофскімі альтэрнатывамі Льётара і эстэтыкай Яуса.*

*У траўні 1996 г. Канстанцін Оруш браў удзел у Беларуска-македонскай канферэнцыі.*
*Тэкст "Грабніца для Барыса Давыдавіча" прадстаўлены аўтарам адмыслова для "ЗНО".*

гэтым выпадку мы маглі б дасягнуць, ужо даўно сфармуляваў Канфуцый: шукаць чорную котку ў цёмным пакоі, калі яе там няма.

Тым не менш, у аснове згаданай міфалагічнай тэорыі закладзены прадумовы магчымага трэцяга падыходу. Ягоная сутнасць у выяўленні міфалагенных канструктыўных элементаў у наратыўным атачэнні. У найменшай ступені гэта — размыванне часовых і прасторавых межаў, наданне глабальнага і вечнага значэння дзеянню аповеда; ясны імператыў зададзенага. Звычайна падобнае дасягаецца супрацьстаўленнем вобразаў (герояў ці сітуацыяў), якія выяўляюць архетыпічныя антытэзісныя характэралагічныя кваліфікатывы. Самі гэтыя вобразы перажываюць запянад і неінтэрферыраваны, яны не вызначаюць мадэль лінеарнага развою, — вынік іх сутыкнення сведчыць не столькі пра касмічную вечнасць, колькі пра касмічную секундарнасць. Маючы на ўвазе тэрміналагічную папулярнасць намінатыўнага і дэнамінатыўнага падыходаў, гэты трэці падыход я назаву анамінатыўным дзеля таго, каб ён не назначаў пад нейкім другім назовам нейкі міфалагічны вобраз, вядомы раней. Гэты падыход скіраваны на вытворчасць і вынаходніцтва міфагенных сітуацый і не імкнецца да таго, каб пасрэднічаць у зацвярджанні філасофскіх канвенцый, якія тычацца зместу вядомых і ўжо засведчаных міфалагічных прататыпаў.

Паглядзім, куды нас завядзе ўжыванне анамінатыўнага міфалагічнага аналізу адносна кампаратыўнага матэрыялу аповеда "Грабніца для Барыса Давыдавіча" і яго драматычнай версіі "Міфалагічныя львы". Пасродкам гэтага аналізу я звярну ўвагу толькі на тыя элементы, якія істотныя з гледзішча вышэйзгаданага анамінатыўнага міфалагічнага падыходу. І хаця драматычная версія "Механічныя львы" напісаная храналагічна пазней, чым празаічны твор, яна не можа разглядацца як толькі драматызацыя "Грабніцы для Барыса Давыдавіча". Версіі ўзаемназвязаныя, яны абедзве канцэнтруюцца на вобразе Б.Д.Ноўскага, аднак ні ў якім разе не замяняюць адна адну. Аповед выяўляе сутнасць героя праз дакументальную энцыклапедычна-біяграфічную містыфікацыю, якая апярэджвае тыя падзеі ў жыцці Барыса Давыдавіча, якія адзначаюць наяўнасць звязаных з героем ідэй у канкрэтным, часава-абмежаваным гісторыка-палітычным кантэксце. Факты з яго асабістага жыцця толькі злёгку акрэсленыя, і іх функцыя абмежаваная стварэннем уражання аб аўтэнтычнасці містыфікаванай біяграфіі. Камуністычны палач Ноўскага Фядзюкін, Зінаіда Майснер, доктар Грынвальд, інжынер Бутэнка — усяго толькі сінхронныя пазнакі для маркіравання жыццёвага шляху героя. Для аб'яўленай намі інвенцыі істотна карэляцыя герой-асяродак, а не дынаміка ва ўнутраных апрычоных адносінах: герой — другія героі.

Іншымі словамі, філасофскі змест цэнтральнага вобраза выяўляецца выключна на дыяхранічнай восі. Тут Барыс Давыдавіч акрэсліваецца як знак наступовага супрацьстаяння злу. Міфалагічнае ў Ноўскім прадстаўлена ўжо на пачатку аповеда загадкай вакол даты яго нараджэння, падказанай ідэяй пра вечнае існаванне, і яшчэ больш выразна акрэсліваецца ў фінале, падчас знікнення героя ў кіпенні катла, знікненнем без рэшткаў, смерцю як працягласцю ў абсалютнай часавай дыяхраніі. Паведамленне ў "Таймс" у канцы аповеда не завяршае, а, наадварот, распачынае містыфікаваную біяграфію. Акрамя сцвярджэння ідэі вечнасці, яно яшчэ сцвярджае веру ў перамогу сіл гармоніі праз тое, што фіксуе 1956 год, год, калі ў жахлівым камуністычным маналіце з'явілася першая расколіна.

Асяродак, у якім Барыс Давыдавіч фармуецца як носьбіт ракавечнай міфалагічнай ідэі супрацьстаяння злу, моцна ідэалагізаваны, а кожная ідэалогія, якая мяняе месца першабытных экзістэнцыйных значэнняў, мае характар і лёс касмічнай секундарнасці. Вось чаму ў выпадку з Барысам Давыдавічам выяўляецца існаванне міфа ў неміфалагічным асяродку. У той жа час, рухаючая сіла гэтага асяродка — у антытэзісных сутыкненнях архетыпічных паняткаў, якія мы тут бяспрэчна маем: Ноўскі-Асяродак — Дабро-Зло. Негатыўная экзістэнцыйная сіла асяродка выяўляецца настолькі заўважнай, што ў якасці антытэзы ёй можна супрацьпаставіць толькі міфалагічныя сілы архетыпічнай прыроды. Адсюль вынікае, што хоць гэты асяродак не ёсць міфалагічным, ён здольны ўтвараць і патэнцыйна фармаваць міфалагічныя вобразы-апаненты. Нарцысызмам і схільнасцю кожнай антыгуманнай ідэалогіі міфалагізаваць сваю секундарнасць, сам наратыўны асяродак дзеі ў "Грабніцы для Барыса Давыдавіча" рухае да актывізацыі знакі вечнай экзістэнцыянальнай значнасці, і тыя ствараюць свой уласны, новы этычна пазітыўны знак, падобны да міфа. Адзіная альтэрнатыва гэтаму знаку ў дадзенай сітуацыі вырастае як моцная процівага травестыі пачатковага Зла. Калі менавіта гэтак назначыць міф, дык згаданаму вышэй асяродку недастаткова будзе называцца неміфалагічным, хаця ён, як мы толькі што заўважылі, міфапрадуктыўны з функцыянальнага аспекту.

У параўнанні з драматычнай версіяй празаічная ("Грабніца для Барыса Давыдавіча") фактычна уяўляе сабой гіпатэкст, які, акрамя ўсяго іншага, у дыяхраніі выяўляе факт антытэзіснага сутыкнення. Сама драма, калі яе разглядаць як адзінае цэлае з празаічнай версіяй, дэманструе гіпертэкстуальны развой падзей, якія, з іншага боку, толькі назначаныя на сінхроннай восі містыфікаванай біяграфіі. З таго гледзішча, якое нас цікавіць, гэты гіпертэкст прадукуе адзін вельмі істотны вынік —персаніфікаваны антыміф. Гаворка ідзе пра Фядзюкіна, які ўведзены

(Працяг на стар. 12)

# МАСТЫХІН



*"Алея ў Васеі". Лінарыт.*

Заслужаны работнік культуры Беларусі Уладзімір Садзін адкрыў сваю выставу "Пейзажы Случчыны" ў Палацы культуры роднага горада Слуцка. Уладзімір Сцяпанавіч вядомы ў рэспубліцы як таленавіты графік, але на гэты раз ён паўстаў перад гледачамі ў якасці найцікавейшага жывапісца.

Здаецца, няма кутка на шчодрай зямлі Случчыны, які б не натхніў мастака на стварэнне эцюда або закончанай карціны. Імкнучыся адлюстраваць прыгажосць роднага краю, ён піша, зазвычай, канкрэтныя куточкі Случчыны — магутныя дубы, восеньскае высокае неба, што адбіваецца ў люстры вады, казачныя гаі, пакрытыя снегам, і блакітны сакавік, адлігу і аранжавы лес...

Асабліва прываблівае пейзажыста летні надвячорак, напітаны цеплынёю і лёгкім сумам. Ягоныя карціны пад агульнай назвай "Летні надвячорак" знаходзяцца ў прыватных калекцыях ЗША і Нямеччыны.

Пясняр роднага краю, чалавек жыццярадаснага светаўспрымання, Уладзімір Садзін дорыць людзям радасць спазнання хараства вечнай і непаўторнай прыроды Случчыны.

**Леанід СОБАЛЕЎ**

## ЁН МНОГА ЗРАБІЎ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

30 верасня адкрылася выстава, прысвечаная 100-годдзю Міколы Шчакаціхіна, беларускага мастацтвазнаўцы, гісторыка, тэарэтыка мастацтва і педагога. Ён вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, а ў 1922 годзе прыехаў у Мінск, дзе працаваў у БДУ, Інбелкульце і Акадэміі навук БССР. Мікалай Мікалаевіч даследаваў выяўленчае мастацтва і архітэктуру Беларусі ад старажытных часоў да ХХ стагоддзя: культавае дойлідства і манументальны жывапіс XI — XIX стст., іканапіс, абарончыя збудаванні, старажытныя беларускія гравюры, кніжнае мастацтва Ф.Скарыны, творчасць сучасных яму мастакоў. Ён упершыню ў беларускім мастацтвазнаўстве выпрацаваў навуковую канцэпцыю гісторыі нацыянальнага мастацтва. У часы сталінскіх рэпрэсій быў арыштаваны і ў 1940 годзе загінуў.

**Б.К.**





*У Мінску адбылася выстава выяўленчага мастацтва Гродзеншчыны — "Мастакі Прынёмання", на якой экспанаваліся творы жывапісу, графікі, скульптуры і мастацкага шкла завода "Нёман". Якія высновы можна зрабіць? Па-першае, "правінцыі" ў мастацкім жыцці Беларусі больш не існуе, бо большасць твораў выканана на высокім прафесійным узроўні. Па-другое, у мастацтва прыйшло шмат маладых мастакоў — таленавітых, дапытлівых. Гэта надзея нашага мастацтва. Па-трэцяе, нягледзячы на цяжкае становішча беларускай культуры цалкам, выяўленчае мастацтва ў абласцях рэспублікі, у тым ліку і на Гродзеншчыне, жыве і развіваецца.*

***Наш кар.***





*На здымках:*

*Ю.Якавенка. Без назвы. Афорт.*

*Ул.Качан. "Аўтапартрэт з інфантай". Палатно, алей.*

*М.Лук'янаў. "Сакавік". Палатно, алей.*

*Г.Сідарава. "Лета". Каляровае шкло.*



У мастацкай галерэі "Медзя" адкрылася выстава мастацкіх твораў карэйскай народнай творчасці. Яе арганізавалі гандлёвае прадстаўніцтва Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускае рэспубліканскае таварыства сяброў КНДР імя Кім Ір Сена і мастацкая галерэя "Медзя".

У разнастайных творах, што прадстаўлены ў экспазіцыі, беларускія аматары мастацтва Усходу могуць убачыць жывапісныя карціны, выкананыя незвычайнай тэхнікай: вышыўкай шоўкам, складзеныя з кавалачкаў перламутру або разной косці, з каляровага пяску або тоўчанага каменю. Усе творы знаёмяць беларускіх гледачоў з малавядомай нам тысячагадовай культурай, гісторыяй, прыродай Карэі, з дасягненнямі карэйскага народа.

*На здымку: твор з выставы.*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

## ПАМЯЦІ МІКОЛЫ СЕЛЕШЧУКА

Беларуская культура панесла цяжкую непапраўную страту. 25 верасня 1996 г. трагічна загінуў вядомы мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікалай Міхайлавіч Селяшчук.

М.М.Селяшчук нарадзіўся 4 жніўня 1947 г. у вёсцы Вялікарыта Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння школы вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А.Глебава (1965 — 68 гг.), затым працягваў вучобу на аддзяленні графікі ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (1970 — 76 гг.).

У мастацкіх выставах М.М.Селяшчук удзельнічаў з 1966 г., аднолькава цікава і плённа працуючы ў станковай і кніжнай графіцы, у экслібрысе і жывапісе. Багаццем фантазіі, вытанчанасцю і дасканаласцю малюнка, што надавала пераканаўчую вобразнасць у выяўленні вобразаў літаратурных твораў, вылучаюцца аздобленыя ім дзесяткі кніг: "Як агонь, як вада" А.Лойкі (1982), "Пара любові і жалю" Я.Янішчыц (1983), "Бацькаў дар" (1984), "Сымон-музыка" Якуба Коласа (1991) і інш. Кніжная графіка мастака, дзе ён пакінуў свой непаўторны след майстра, была адзначана самымі высокімі дыпломамі на рэспубліканскіх і міжнародных выставах.

Асабліва адметна і ярка раскрыўся талент М.М.Селешчука ў жывапісе. Яго палотнам, часта падобным на дзівосныя казачныя сны, уласціва складанасць сюжэтнага вырашэння ў спалучэнні з алегорыяй, нечаканай метафарай ці сімвалам. Такія творы, як "Наведванне сядзібы Агінскага ў Залессі" (1978), "Хроніка аднаго вечара" (1980), "Канец сезона туманаў" (1985), "Занесеная да яго" (1990), "Ноч. Аэрапорт Анталья" (1992) і многія іншыя, прасякнуты глыбокім мастацкім асэнсаваннем нашага няпростага часу, імкненнем да спасцiжэння новых тэм і новых жывапісных сродкаў. Свежае слова мастака было пачута і адзначана шырокай грамадскасцю, сведчаннем таму Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь, якою была ўшанавана творчасць М.М.Селешчука ў 1993 г. А ў апошнія гады менавіта пра гэта сведчылі і замежныя прэстыжныя выставы, у якіх ён браў удзел, годна прадстаўляючы ў свеце наша мастацтва.

М.М.Селяшчук з'яўляўся адным з заснавальнікаў грамадскай Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва (1995), створанай дзеля падтрымкі творчай моладзі, дзеля далейшага росквіту нацыянальнай культуры. На гэтай ніве ён шчыраваў, не пакладаючы рук, натхнёна сцвярджаў і верыў у яе будучыню.

Нас пакінуў шчыры сябар, нястомны працаўнік, Мастак з вялікай літары, імя якога шчымліваю зоркаю будзе заўсёды зззяць на небасхіле Беларусі.

**А.У.Сасноўскі, У.П.Рылатка, Г.В.Буралкін, В.У.Быкаў, А.А.Дудараў, М.М.Яроменка, В.В.Зуёнак, Я.М.Кавалеўскі, А.В.Красінскі, І.М.Лучанок, Д.А.Сурскі, Г.Х.Вашчанка, В.А.Грамыка, М.В.Данцыг, У.І.Стальмашонак, Л.Д.Шчамялёў, Ю.А.Карачун, Р.Р.Бысюк, Л.Б.Алімаў, В.В.Альшэўскі, В.М.Вішнеўскі, У.П.Савіч, У.А.Тоўсцік, Ф.І.Янушкевіч.**




РЭПЛІКА

## ЮБІЛЕЙНЫ СЕЗОН З "ЖАРТАЎНІКАМІ"

Алег ПРАЦЬКО

У Палацы культуры Мінскага трактарнага завода 50-ы тэатральны сезон пачаў народны драматычны тэатр "На Доўгім бродзе". Гледачы ўбачылі спектакль па малавядомым творы Аляксандра Астроўскага "Жартаўнікі". Пастаноўку спектакля ажыццявіў галоўны рэжысёр аматарскага калектыву Мікалай Шугаў. Дарэчы, гэта яго дваццаць пятая пастаноўка за 20 гадоў працы ў тэатры.

Ад былых часоў у тэатра засталося лаўрэацкае званне носьбіта прэміі ЛКСМБ і вядомасць сярод гледачоў. За час свайго існавання тэатр паставіў 80 спектакляў. А камедыя Яўгена Міровіча "Графіня Эльвіра" была паказана гледачам больш за 500 разоў. І заўсёды з поспехам. Напэўна, такому доўгаму жыццю спектакля могуць пазайздросціць і прафесійныя тэатры.

ПАСЛЯ БАЛЮ






У Брэсце скончыўся міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа-96". Свае майстэрства брэстаўчанам і гасцям горада паказвалі артысты Нямеччыны, Польшчы, Украіны, Расіі і Беларусі.

Лепшым драматычным спектаклем названы спектакль "Ідылія" паводле п'есы В.Дуніна-Марцінкевіча ў пастаноўцы Беларускага нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы. Яму ўручаны Гран-пры фестывалю.

*На здымках: тэатралізаванае відовішча перад адкрыццём фестывалю; артысты-купалаўцы: Віталь Рэдзька — пераможца ў намінацыі на лепшую мужчынскую ролю ў драматычным спектаклі і Віктар Манаеў.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**



*Даніэль Шмід*

## ТЫДЗЕНЬ ШВЕЙЦАРСКАГА КІНО

упершыню праходзіць у Беларусі. Па задумцы арганізатараў, сярод якіх Фонд культуры Швейцарыі, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і кінавідэаступы "Таццяна", гэты паказ —значная падзея ў культурным жыцці абедзвюх краін.

У праграме прадстаўлены стужкі ўсіх відаў кінематографа: дакументальныя, анімацыйныя і ігравыя. Апошнія таксама прадстаўлены рознымі жанрамі — ад камедыі да псіхалагічнай драмы.

Швейцарскі кінематограф нашаму айчыннаму гледачу знаёмы менш за амерыканскі. Самае славутае імя для кінаманаў — імя вядомага еўрапейскага рэжысёра Даніэла Шміда. У паказе гледачы ўбачаць дзве работы рэжысёра — дакументальную стужку "Пацалунак Тоскі" (героі фільма — былыя зоркі опернай сцэны, выканаўцы партый "Тоскі") і складаны па мастацкай форме ігравы фільм "Енач".

Тыдзень швейцарскага кіно дае магчымасць нашым гледачам пазнаёміцца таксама з творчасцю такіх майстроў швейцарскага кіно, як Алан Танэр, Анка Шмід, Клод Гарэт, Фрэд Мурэр, Маркус Імгооф, Ксаўе Келер і іншымі.

Цікава, што ў самой Швейцарыі няма кінастудыі, прадзюсераў, адсутнічае дзяржаўнае фінансаванне і пракат. Адзіная падтрымка з боку дзяржавы — дабрачынныя ўзносы ў фонд фільмапрадпрыемства. Тым не менш, штогод на экраны Швейцарыі выходзяць амаль тузін поўнаметражных стужак.

Такім чынам, нам даецца цікавая магчымасць убачыць і ацаніць эстэтычны мастацкі ўзровень кінематографа, які ствараецца ў даволі складаных умовах. У рамках тыдня адбудуцца таксама творчыя сустрэчы ў Доме дружбы з замежнымі краінамі, у Саюзе кінематографістаў Беларусі, кінастудыі "Беларусьфільм".

**Г.Ш.**

ЛЯ ФАНТАНА

Ала БАБКОВА

# ПРОСТЫЯ ІСЦІНЫ ЯНА КОЛЬСКАГА

Знаёмства са стужкамі польскага рэжысёра Яна Якуба Кольскага ў нашых гледачоў пачалося незвычайна. Спачатку мы ўбачылі фільмы "Цудоўная мясціна" і "Янча Воднік", створаныя ў 1994 годзе, потым "Паграбэк" (1992) і "Пахаванне бульбы" (1990).

"Інверсія" не перашкодзіла ўваходу ў вобразную сістэму гэтага своеасаблівага мастака. На творчым "старце" заяўлена большасць яго мастакоўскіх прыхільнасцяў, якія — у розных варыяцыях — блукаюць у Кольскага з фільма ў фільм.

У кожнай карціне рэжысёра абавязкова ёсць сялянская Хата, якая знаходзіцца сярод Сусвету. Вакол Хаты — прыродная адвечнасць, якую стварыў Усявышні. Час дзеяння — сёння і заўсёды.

Персанажы стужак Кольскага належаць роду чалавечаму, але з імі здараюцца дзівосныя гісторыі, і самі яны, як кажуць, "не з гэтага свету". Адзін прасядзеў пяць гадоў на лаўцы ля хаты, заінеў, заімшэў, птушкі прыстасаваліся на яго капелюшы выводзіць птушанят. Другі заклапочаны выбарам, якое дрэва мацней пружыніць — бяроза або граб. Зрабіў спробу. Не з пятлёю на шыі, а з шлейкай ад штаноў. Чацвёрты... Дзе вы ўбачыце мужыка, які савакупляецца з зямлёю, як з жанчынай?

Сюжэты, якія разгортвае Кольскі на экране, гэта гісторыі пра спакушэнне, пра алантанасць да вар'яцтва, пра грэх і расплату за яго. Разам з тым гэта паэтычныя апавяданні пра каханне, пакутлівае і шчаслівае.

Мастацкая сістэма Кольскага ў ладах з гармоніяй, пры тым што ён спалучае высокае і нізкае, рэальнае ў жыцці і чараўніцтва, філасофію і гумар.

Ён — містык, пантэіст, рэлігійны вернік, паэт і гуманіст. Уся "сумесь" гэта перакрыжоўваецца, перапластоўваецца і дае такі моцны эмацыянальны выбух, што падштурхоўвае вашу псіхафізіку калі не на дзеянне, дык на паглыбленне ў сябе, на жаданне задумацца над некаторымі пытаннямі быцця. Напрыклад: чаму ў адносінах да іншых чалавек бывае больш чалавечны, чым да блізкіх? Або: якім павінна быць пакаранне і ці павінна яно быць, калі чалавек зрабіў нешта нялюдскае, з чаго і пачайся ланцужок няшчасцяў у сям'і?

Дарэчы, героі Кольскага — і сяляне-працаўнікі, і тыя, хто "корміць" духоўнай ежай (святары, напрыклад), — знаходзяцца ў пастаянным роздуме. Думае Паграбэк: ці правільна тое, што яны надумалі з жонкай Храмулькай — запрасіць суседа, каб нарэшце нарадзілася ў іх дзіця? Думае Янча: чаму гэта нарадзіўся сынок з хвосцікам чорта — ці не расплата тое за спакушэнне пражыць кавалак жыцця ва ўцеках? А сталы ксёндз Анджэй ужо перайшоў ад думак да дзеяння: замест просьбы аб споведзі адсцябаў бізуном гвалтаўніка-бацьку!

Блізкія рэжысёру і самыя простыя, а разам з тым спрадвечныя заняткі і сувязі чалавека: праца на полі, сямейныя зборы за ежай пасля працоўнага дня, еднасць з прыродай і жывёлай. Кольскі ведае псіхалогію селяніна, усе ягоныя захапленні, ён выносіць на агульны суд яго недахопы. Цікава, што на пытанне: "Чаму дзеянне ў вашых фільмах заўсёды адбываецца на прыродзе і вы не здымаеце гарад і гараджан?", Кольскі адказаў: "Па-першае, па сваім светапоглядзе я сельскі чалавек. Мае фільмы павінны апавядаць ціха, а таму мне патрэбны дэкарацыі, дзе можна пачуць гэты нямоцны голас. Другая прычына эстэтычнага характару: я люблю ўздымаць камеру вельмі высока, з перспектывы Госпада Бога, або вельмі нізка, практычна ад зямлі, а гэта можна зрабіць толькі ў вёсцы. Калі ў горадзе паставіць камеру надта высока, то ўбачыш толькі дахі, трубы, і гэта нецікава, а калі нізка, дык перад табой будуць шыны, колы аўтамабіляў, чалавечыя ногі, і гэта таксама не вельмі цікава. А ў вёсцы бачыш усё".

Свет, які акаляе селяніна Кольскага, вельмі прыгожы. Рэжысёр і яго пастаянны аператар Пётр Ленар малююць яго без пейзанства і пастаральнасці.

Кольскі любіць здымаць сваіх акцёраў: Гражыну Бельска-Кольску, Францішака Печку, Адама Каменя, Марыуша Санітэрніка. Апошні здольны на такія пераўтварэнні, што пазнаеш яго часам толькі ў сярэдзіне стужкі (як у адной з апошніх — "Той, хто грае з талерак", дзе Санітэрніку даручана роля выродка з двума насамі і ратамі і трыма вачамі).

Ян Якуб Кольскі — своеасаблівы кінематаграфічны "шматстаночнік". Ён аўтар сцэнараў сваіх стужак, здымаў дакументальныя і асветніцкія фільмы як рэжысёр-аператар. З 1990 г. Кольскі працуе ў жанры тэлевізійнага кіно: зняў 7 тэлевізійных стужак. У апошняй, пад назвай "Шабля ад каменданта", рэжысёр



*Ян Якуб Кольскі*

адпраўляе свайго героя ў рай. Што датычыць пекла, паводле Кольскага, яго неабавязкова шукаць пад зямлёю. Чалавек і на зямлі стварае сабе "пекла". Але і ачышчэнне залежыць толькі ад яго самога. Такая вось простая ісціна.

кіно

Вольга НЯЧАЙ

У тэлевізійным кіно Беларусі ёсць майстар, які на працягу многіх гадоў ідзе сваім асаблівым шляхам. Яго фільмы — гістарычная памяць народа, адноўленая на экране. Рэжысёр Віктар Шавялевіч стварыў унікальны дакументальна-мастацкі цыкл карцін пра гісторыю Беларусі, а шырэй — аб славянскай гісторыі, гістарычных каранях народаў, іх славутых дзеячах, ды імкнуцца, намагаючы ўсе сілы, вырашыць іх. Таму так цікава глядзець фільмы Віктара Шавялевіча, дзе вобразы гісторыі быццам прасякнуты нашымі сённяшнімі думкамі і праблемамі.

Каб стварыць такі унікальны дакументальна-мастацкі цыкл, патрабуецца глыбокае веданне гісторыі. Аўтары тут павінны спалучаць і дасведчанасць гісторыка, і мастацкі вопыт экраннага творцы. У фільмах выкарыстаны шматлікія даў, але аўтары не хаваюць сваёй сімпатыі да Вітаўта — вялікага князя Вітаўта, у якім пераважала мудрасць дзяржаўнага дзеяча.

Акцёрскі ансамбль у В.Шавялевіча паказвае магчымасці беларускай акцёрскай школы. Мікалай Кірычэнка, які раней удзельнічаў у тэатральным спектаклі "Іграем Шэкспіра", тут праявіў сапраўды шэкспіраўскую моц жорсткага і прагнага да ўлады характару. "Уладу мець і ёю карыс-

Паэтыка фільмаў В.Шавялевіча ў многім залежыць ад іх агульнай задумы — гістарычны тэатр у рэальных "дэкарацыях". Гэта значыць, у карцінах умоўна дэкаравана рэальная прастора, сапраўдная "авансцэна" гістарычных падзей. Мастак Ганна Балаш і аператар Уладзімір Васінеўскі імкнуліся надаць падкрэсленую экспрэсіўнасць, эмацыянальнасць гістарычным архітэктурным "рарытэтам" і сённяшнім пейзажам. На экране ўзні-

***На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі***

# ПРАВАДНІКІ Ў ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ

## (Дакументальна-мастацкі цыкл Віктара Шавялевіча)

вядомых і малавядомых падзеях, складаных паваротах гісторыі. Гісторыя, культура, мараль — вось зніташаныя тэмы і праблемы фільмаў Шавялевіча. Героі яго карцін — нашы сучаснікі: дырыжор Тацціяна Каламійцава і балетмайстар Валянцін Елізар'еў, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, уладыка Філарэт, акадэмік Дзмітрый Ліхачоў. Духоўнымі сучаснікамі ў фільмах Шавялевіча з'яўляюцца і гістарычныя дзеячы эпох — Рагнеда, Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Вітаўт і іншыя. У гісторыі і ў сучаснасці любімыя героі Шавялевіча — тыя, каго ён называе "людзі-свечкі". Гэта значыць, людзі, якія выпраменьваюць духоўнае святло, насуперак жорсткасці, а часам і трагічнасці гістарычных абставін выконваюць сваё высокае чалавечае прызначэнне, імкнуцца жыць у гармоніі са сваім сумленнем і законамі космасу. Яны быццам звяртаюцца да нас з экрана. Адсюль і назва аднаго з фільмаў В.Шавялевіча — "Да вас, сучаснікі мае". Экраннае духоўнае пасланне адбываецца праз глыбіню стагоддзяў — як, напрыклад, у фільме "Па шляхах "Слова пра паход Ігаравы".

Зараз на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь вылучаны цыкл дакументальна-мастацкіх фільмаў Віктара Шавялевіча, створаны ў апошнія гады. Гэта карціны: "Прыйдзі і віждзь" і дылогія "Пастка для зубра" (фільм першы — "Ягайла" і фільм другі — "Вітаўт").

Глядач бачыць у іх мастацкае асэнсаванне гістарычных падзей, што адбываліся на нашай Радзіме ў XIV — XV стагоддзях. У карцінах выкарыстаны прыём умоўнага мастацкага пераносу сучасніка ў глыбіню стагоддзяў. Акцёры ў сучасных вопратках быццам выходзяць на гістарычную авансцэну, на нашых вачах мяняюць касцюмы і становяцца персанажамі далёкіх эпох. Гэта дакументальна-мастацкае відовішча, мастацкая мадэль гістарычнага часу. Умоўнасць тут спалучаецца з дакладным веданнем аўтарамі сапраўдных гістарычных падзей. Гледачам прапануецца разам з героямі вырашаць маральныя праблемы агульначалавечага ўзроўню — пытанні сумлення, выбару ў пагранічных сітуацыях рашэнняў, ад якіх залежаць не толькі іх уласныя лёсы, пэўных гістарычных асоб, але і лёсы народаў і іх будучыня. Такі ўзровень размовы патрабуе ад гледача ўдумлівасці, настроенасці на філасофскі ўзровень размовы. В.Шавялевіч лічыць, што сённяшні, асабліва малады глядач жыве не толькі штохвіліннымі клопатамі, але і жаданнем ведаць гісторыю свайго народа, сваіх продкаў. Таму гэтыя фільмы-пасланні злітоўваюць гісторыю і сучаснасць, паказваюць еднасць славянскіх народаў, знітаванасць іх гістарычных карэнняў.



*Рабочы момант здымак фільма "Прыйдзі і віждзь". В.Шавялевіч (злева) і Ю.Паплеўка.*

І яшчэ адна асаблівасць фільмаў Шавялевіча — у іх разам з гістарычнымі падзеямі пэўнай эпохі даюцца асацыятыўныя паралелі з біблейскімі прытчамі. Гэта зроблена арганічна, бо галоўная думка гэтых прытчаў — духоўны зварот да чалавечага сумлення, заклік: "Не забі!", выступленне супраць братазабойчых войнаў. У кантэксце фільмаў гэтыя думкі-пасланні да нас з мінулага гучаць надзвычай сумна. І сёння гісторыя дае нам складаныя задачы-загадкі, і сёння народакументы і архіўныя матэрыялы — і радзівілаўскія летапісы, і спадчына бібліятэкі АН у Санкт-Пецярбургу, і яшчэ многае іншае. Вядома, патрабаваліся і дасведчаныя "праваднікі" ў свет гісторыі. Адным з іх стаў Сяргей Тарасаў, гісторык і аўтар вядомых на БТ тэлецыклаў "Беларускі дом" і "Кола часу". Як сцэнарыст фільма "Пастка для зубра", ён вобразнай, сакавітай мовай стварыў мастацкі квартэт эпохі, абмаляваў вобразы гістарычных персанажаў.

Галоўныя з іх — Вітаўт і Ягайла, князі эпохі Вялікага княства Літоўскага, браты-ворагі, але і часам браты — сябры (яны разам удзельнічалі ў Грундвальдскай бітве і перамаглі). Паміж імі — княжацкія ўсобіцы, барацьба за ўладу, братазабойчыя войны, хітрасць і каварства, прага каралеўскай кароны. На гістарычнай арэне тых часоў у падзеях удзельнічаюць і Маскоўская дзяржава, і Польскае каралеўства, і канфедэрацыя Тэўтонскага і Лівонскага орданаў, што робіць свае крыжацкія паходы, і Залатая Арда з яе нападамі і прагай даніны. Складанасць і супярэчлівасць гістарычнага часу ў фільмах дылогіі "Пастка для зубра" канцэнтруецца вакол лёсу двух галоўных герояў — Ягайлы і Вітаўта. Абодва яны не ідэальныя, часамі асабістыя імкненні пераважаюць над дзяржаўнымі патрэбамі і думкамі пра лёсы нарогацца" — галоўная для яго мэта. Сумленне — гук пусты, словы, што зляцелі з вуснаў і зніклі. Выразныя экранныя партрэты Ягайлы-Кірычэнкі даюць нам магчымасць быццам зазірнуць праз гэтыя цёмныя пагрозлівыя вочы ў душу чалавека, узятага ў палон страсцямі. Прага кароны вядзе яго да рашэння ажаніцца з польскай каралевай Ядзвігай. Гэты, здавалася б, асабісты ўчынак прыводзіць у гістарычнай перспектыве не толькі да з'яўлення пакалення польскіх каралёў — Ягелонаў, але і да шэрага дзяржаўных уній, у выніку якіх паступова знікае з гістарычнай арэны Вялікае княства Літоўскае.

Вялікі князь Вітаўт у выкананні маладога акцёра Яўгена Жураўкіна партрэтна падобны на рамантычнага, светлага рыцара-юнака. Ён выклікае сімпатыю гледачоў і сваім абліччам — ясны погляд, доўгія кучаравыя пышныя валасы, стройная пастава ў прыгожых адценнях. Вядома, вобраз гэты ў нечым ідэалізаваны. Але гэта хутчэй увасабленне сучаснай народнай памяці пра гістарычнага дзеяча, пра тое, што ён прынёс сваму народу.

Акцёрскі ансамбль дапоўнены выразнымі вобразамі майстра інтрыг магістра (акцёр Юрый Паплеўка), блазна Гейнэ (акцёр Генадзь Фамін), патаемнага ката Прокшы (акцёр Міхаіл Пятроў). Усе яны вядуць агульную тэму "партыі зла".

каюць гмахі, вежы, помнікі старажытнасці, а таксама прырода Полаччыны, Ушаччыны, Навагрудчыны, Браслаўшчыны, Крэва, Трокі. Ружанскі замак, у якім некалі быў славуты тэатр Сапегаў, становіцца найбольш выразным гістарычным рарытэтам-вобразам. Як у шэкспіраўскім тэатры "Глобус", тут усё насычана страсцямі герояў.

Паэтыка фільмаў Шавялевіча асаблівая. Гэта паэтыка — метафарычная мадэль гісторыі. Асабліва хочацца адзначыць аператара Ул. Васінеўскага, які апеў у пластычных вобразах прыроду роднай Беларусі. Пейзажныя сюіты ў фільме ствараюць агульны вобраз адвечнай прыгажосці, "райскага сада", які сваім вечным хараством кантрастуе з чалавечай прагай крыві, жорсткасцю і насіллем. Гэта вельмі важны для канцэпцыі фільма пластычны вобраз эмацыянальна падтрымана надзвычай сугучнай яму музыкай кампазітара Ларысы Сімаковіч, якая выкарыстоўвае фальклорныя матывы, паўтарскую апрацоўваючы іх.

Унікальны па сваёй гістарычнай задуме і мастацкай паэтыцы цыкл фільмаў Віктара Шавялевіча і яго паплечнікаў дае нам багатую інфармацыю не толькі пра нашых продкаў, але і пра нас саміх і нашых сучаснікаў. Гэтыя фільмы — нашы праваднікі ў часе і прасторы.

КАМЕРТОН

## "У НАС АДНА МЭТА..."

Сёння Саюз кампазітараў хвалююць тыя ж праблемы, што і ўсе творчыя саюзы, і першая з іх — матэрыяльная. У нашым Саюзе шмат па-сапраўднаму таленавітых людзей, іх напружаная цяжкая работа патрабуе фінансавай падтрымкі. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, у будучыню мы глядзім з аптымізмам, спадзяёмся на лепшыя часы для беларускай музыкі.

Газеце "Культура" ў дзень яе малога юбілею хачу пажадаць, каб на яе старонках часцей з'яўляліся матэрыялы, звязаныя з музычнай культурай. На сённяшні дзень у нас, на жаль, мала музычнай крытыкі. Каб у гэтых матэрыялах быў глыбокі і сур'ёзны аналіз музычных твораў і, разам з тым, каб матэрыялы гэтыя былі напісаны папулярна, маглі зацікавіць і непадрыхтаванага спецыяльна чытача. Мэта нашага саюза і газеты "Культура" — адна і тая ж: выхаванне духоўнасці. Ёсць у мяне запаветная мара: хачу, каб вярнуліся старыя добрыя традыцыі, калі, ідучы ў натоўпе пасля канцэрта, можна было пачуць размаўжанні пра тое, як сёння гучаў габой, як ігралі флейта і скрыпка. І ў гэтым, спадзяюся, дапаможа нам газета "Культура".

**Уладзімір ДАРОХІН,**
**намеснік старшыні Саюза кампазітараў Беларусі.**

## "МЫ САБРАЛІСЯ, КАБ ПАДАРЫЦЬ СВЕТУ ХРАМ..."

У суботу 29 верасня на праспекце Машэрава адбыўся дабрачынны канцэрт "зорак" беларускай і расійскай эстрады. Усе ганарары былі перададзены для пабудовы ў Мінску храма Усіх Святых (вул. Каліноўскага) і храма Усіх Тужлівых Радасці (вул Прытыцкага).

Выступленне на імправізаванай сцэне перад шматтысячным натоўпам пачаў Дзяржаўны духавы аркестр. Потым да публікі звярнуліся вядучыя і арганізатары праграмы, сярод якіх былі Аляксандр Ціханович і Ядзвіга Паплаўская.

Яны віталі ўсіх прысутных і падзякавалі тым, хто ўзяў удзел у канцэрце — паэтам, кампазітарам, спевакам з Беларусі, Расіі, Украіны, акцёрам. У праграме ўдзельнічалі: Леанід Дранько-Майсюк, ансамбль "Самацветы", Аляксандр Абдулаў, Аляксей Глызін, Святлана Ханок, Міхаіл Баярскі, Віктар Вуячыч, гурт "Чысты голас", а таксама Аляксандр Саладуха, Валерый Дайнека, Алена Дзіва, Іна Іфанасьева, група "Дызель-Экшн" і маладыя артысты беларускай сцэны.

Хаця асноўную частку гледачоў складалі моладзь і падлеткі, якіх прывабіла магчымасць "патусавацца" і паслухаць музыку, прыходзілі і людзі больш сталага ўзросту, прыводзілі дзяцей. Душа і сумленне клікалі людзей стаць сведкамі, на жаль, рэдкай падзеі. У той час калі бескарыслівасць зрабілася заганай, а духоўныя запатрабаванні задавальняюцца з дапамогай камп'ютэрных гульняў, — ёсць людзі, якія ў стане адгукнуцца на акцыю добрай волі. Гэта ўсцешвае. Дзякуй ім.

**Таццяна АСКЕРКА**

**P.S.** На жаль, не давялося сустрэцца з настаяцелямі айцом Фёдарам і айцом Ігарам, але завочна перадаем ад іх шчырыя словы ўдзячнасці і блаславення ўсім артыстам і гледачам.



# СОЛА З АРКЕСТРАМ ДЛЯ САМОТНАЙ ДУШЫ

*Набліжаецца значная для нашага культурнага жыцця падзея — прысуджэнне Дзяржаўных прэмій Беларусі за 1995 год. Важкасць гэтай прэстыжнай прэміі цяжка пераацаніць, а па цяперашнім складаным для культуры часе яна сімвалізуе не толькі павагу калегаў па мастацтве, але і даволі рэдкую праяву дзяржаўнага клопату пра творчых людзей. Сёлета адным з прэтэндэнтаў у галіне музычнага мастацтва стаўся кампазітар Уладзімір Дамарацкі, якога з рэдкай аднадушнасцю вылучылі сябры Саюза кампазітараў Беларусі. Імя Дамарацкага — сур'ёзнага музыканта-інтэлектуала — на слыху ў беларускіх аматараў музыкі. Яно асацыюецца з творамі самых розных жанраў — харавых і інструментальных, песенных і сімфанічных. Але найбольш кампазітар захапляецца адным з найцікавейшых і віртуозных жанраў музыкі — інструментальным канцэртам.*

*Мы гутарым з музыкантам у адным з класаў Беларускай акадэміі музыкі, якую ў свой час ён скончыў двойчы.*

**— Уладзімір Аляксандравіч, Вы вучыліся ў кансерваторыі — так тады называлася цяперашняя Акадэмія музыкі — па дзвюх спецыяльнасцях: кампазіцыі і фартэпіяна. Для кампазітара прафесійнае валоданне тым ці іншым музычным інструментам — вялікая дапамога ў складанні музыкі. Прынамсі, так мяркуюць...**

— І не толькі для гэтага. Я перайграў у гады вучобы масу музычнай літаратуры, прычым самай разнастайнай. Гэты досвед дапамагае мне, у прыватнасці, не трапляць на кручок гэтак званага сучаснага "авангарда": шмат якія авангардысцкія прыёмы, якія камусьці падаюцца вельмі наватарскімі, ужо даўно былі адкрытыя і адпрацаваныя ў музычнай практыцы.

**— Вам, прафесійнаму піяністу, здавалася б, і карты ў рукі: можна пісаць і выконваць уласную фартэпіянную музыку. Але, наколькі я ведаю, у Вас такой музыкі няшмат — напрыклад, вядомая саната № 2 з падназвай "Мазаіка". А чаму не буйныя фартэпіянныя канцэрты?**

— Скажу, магчыма, парадаксальную рэч: я занадта добра ведаю гэты інструмент, каб пісаць для яго, а тым больш — выконваць свае творы. Музыкі для фартэпіяна ўжо напісана больш чым дастаткова. І ўрэшце, існуе шмат добрых піяністаў-выканаўцаў. Тэндэнцыя да аўтарскага выканання ў наш час узмацняецца. Радзіён Шчадрын напісаў 4 фартэпіянныя канцэрты, і тры з іх грае толькі сам асабіста. Я ж свае інструментальныя канцэрты напісаў, можна сказаць, па просьбе канкрэтных выканаўцаў — кларнетыста Генадзя Забары, трубача Віталя Волкава, удзельнікаў "Брас-квінтэта" і іншых музыкантаў.

**— Пераважна ў гэтым жанры Вы і працавалі апошнія 15 гадоў. Згадаю два Канцэрты для трубы з аркестрам, Канцэрт для сімфанічнага аркестра і аркестра народных інструментаў. Па якасці музыкі і па стаўленні выканаўцаў да яе адчуваецца, што вы ведаеце і любіце гэты жанр, адзін з асноўных у акадэмічнай музыцы канца XX стагоддзя.**

— Напэўна, гэтая форма дазваляе выказаць нешта асабістае, індывідуальнае. Параўнайце з сімфанічнай музыкай — там існуюць больш трывалыя стэрэатыпы: глабальныя, абагульненыя выказванні, абавязковае чаргаванне аркестровых груп, сярод якіх, несумненна, галоўнае месца займаюць струнныя інструменты. Канцэрт жа — больш вольная, інтымная форма выказвання. Тут можна пісаць вялікія сольныя маналогі лірычнага плана.

**— А як гэта суданосіцца з экспрэсіўнымі магчымасцямі трубы ці валторны? Гэта даволі рэдкія па тэмбры і не такія папулярныя ў масавага слухача інструменты, як раяль або скрыпка.**

— Мая цікаўнасць да медных духавых інструментаў невыпадковая. Па-першае, для іх існуе мала цікавай сучаснай літаратуры. Апрача таго, хацелася б надаць музыцы для духавых больш сэнсавую і эмацыйную глыбіню. Існуе ж шмат цудоўных па тэхніцы і складаных па канцэпцыі фартэпіянных і струнных канцэртаў — з сучасных згадаю, напрыклад, Скрыпічны канцэрт Соф'і Губайдулінай. А чым жа горшыя медныя духавыя?

У беларускай музыцы, напрыклад, я не ведаю нотных выданняў або запісаў такога кшталту твораў, якія выконваліся б са сцэны або гучалі па радыё і тэлебачанні.

А па-другое, медныя інструменты надзвычай цікавыя па тэмбры і тэхнічных магчымасцях. Прыслухайцеся да валторны — яе чароўнае гучанне ў мяне асабіста асацыюецца з чалавечым голасам. Сярод іншых інструментаў яе можна параўнаць з віяланчэллю. Гэты тэмбр захапляе мяне тым, што ён абсалютна не крыклівы, калі можна так мовіць. Нават акцэнты накшталт нейкага воклічу валторна выпявае вельмі мякка.

А вось гук самотнай трубы перадае, хутчэй, стан спустошанай душы. У маёй Другой сімфоніі, што прысвечана памяці вядомага беларускага кампазітара і музыказнаўцы Аляксандра Друкта, пасля жалобнай трэцяй часткі гучыць працяглае сола трубы. Яно нітуецца ў мяне з адчуваннем самоты, пустой прасторы навокал. Падчас гэтага сола маўчаць больш цёплыя па тэмбры струнныя: толькі маналог трубы, і за ім — карціна халоднай начы пад недасяжнымі зоркамі.

**— Вакол тэмбру трубы будуюцца, на мой погляд, Вашы лепшыя творы. Першы канцэрт для трубы з аркестрам быў першым не толькі ў Вашай творчасці, але і ва ўсёй беларускай музыцы: тут Вы былі ў нас першаадкрывальнікам жанру. Другі канцэрт для трубы з аркестрам сёлета вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі. Можна сказаць, што развіццё канцэртнага жанру ў нашай музыцы вельмі шчыльна знітаванае з Вашым імем. Выкажу меркаванне не толькі сваё, але і многіх музыкантаў, што да афіцыйнай фармулёўкі намінацыі Вашага твора на прэмію варта было б дадаць: "і за развіццё беларускага інструментальнага канцэрта".**

**Што датычыцца канкрэтна Другога канцэрта для трубы з аркестрам, то ад яго ў многіх слухачоў засталося ўражанне сімфанічнага палатна. Гэта нібыта чалавечы мікракосм, у якім вобразныя метамарфозы адбываюцца на падставе адной музычнай тэмы: драматычны маналог змяняецца стыхіяй гульні, народны напеў — жалобнай пасакаліяй. Вельмі эфектна гучыць камічная сцэнка-дыялог двух "персанажаў", двух інструментаў — трубы і кларнета. Кларнет быццам спакушае, правакуе свайго суперніка памерацца віртуознасцю: а вось так можам сыграць? — і віртуознае стаката ў адказ. А так? — і рассыпаецца бліскучы пасаж. А вось так? — і труба лёгка, свабодна паўтарае неверагодна складаныя абароты. Гэта сапраўды віртуозны інструмент, які можа сыграць усё. Натуральна, гэтае "ўсё" залежыць ад узроўню выканаўцы. Вядома, што сучасныя кампазітары імкнуцца пісаць для канкрэтных музыкантаў з улікам іхніх магчымасцяў. Альфрэд Шнітке, напрыклад, сам прызнаецца, што піша музыку ў разліку на выкананне яе Гідэонам Крэмерам, Юрыем Башметам, Ірынай Шнітке...**

— І вельмі слушна робіць. Я таксама ведаю наперад, хто будзе іграць мае канцэрты, а ў нас у Беларусі ёсць шмат віртуозных разумных музыкантаў. З трубачоў згадаю Андрэя Кавалінскага, Віталя Волкава, Ігара Цяцоху.

**— Вы з такім захапленнем кажаце пра інструменты, пра музыкантаў-інструменталістаў, але нават у Вашых сімфанічных творах адчуваецца прырода кампазітара-меладыста. Што ж, Вы "наступілі на горла ўласнай песні"?**

— Чаму ж, мне падабаецца добрая паэзія. Напрыклад, дарэвалюцыйныя вершы Якуба Коласа. У мяне ёсць кантата, створаная пад уплывам ягонай лірычнай паэзіі. Ёсць і кантата на вершы Максіма Танка. Рамансаў я прынцыпова не пішу: пісаць так, як гэта рабіў Чайкоўскі, не трэба, ды і не напішаш. Свае вакальныя рэчы я схільны называць песнямі, хаця гэта, хутчэй, мяшаны жанр: песенна-рамансавы. І Георгій Свірыдаў свае рамансы называе песнямі, так што жанр гэта шырокі. На вершы М.Цвятаевай я напісаў "Ноч", на верш П.Вяземскага — "Ты светлая зорка". А для дзіцячага калектыву напісаў тры хары на вершы Сашы Чорнага.

**— Не магу не спытаць Вас, Уладзімір Аляксандравіч, вось пра што. Музыканты ведаюць, што Вы выдатны знаўца джаза і масавай музычнай культуры ўвогуле. Ці азначае гэта, што Вы прыхільнік гэтак званага "трэцяга напрамку", у якім яднаюцца акадэмічная і эстрадная музыка?**

— Перавагу я аддаю чыстым жанрам. Акадэмічная музыка і эстрада — гэта дзве асобныя ракі, хаця ўпадаюць яны ў агульнае мора музычнай культуры. Быў час, калі кампазітары эпатавалі публіку праз уключэнне ў "сур'ёзныя" творы эстрадных інструментаў. Напрыклад, Сяргей Сланімскі ўводзіў у сімфанічную партытуру электрагітару ці іншыя інструменты з "іншай" музыкі. У мяне ў канцэрце для аркестра ёсць фрагмент, дзе выканаўца на талерцы імітуе джазавы стыль свінг. У Шнітке ў Першым Concerto grosso гучыць танга — гучыць вельмі стыльна, са спецыфічнымі адцяжкамі, з паўзамі. Адна з выканаўцаў гэтага канцэрта, Таццяна Грындэнка — знаўца гэткай музыкі: яна запісала кружэлку з рэгтаймамі. Вельмі важна, як і дзеля чаго робяцца такія рэчы. Можна перасунуць мэблю ў пакоі так, што ўсе скажуць: ну, гэта іншы пакой.

А што датычыцца чыста эстрадных жанраў, то нядаўна ў канцэртным выкананні прагучаў мой мюзікл "31-е чэрвеня" паводле Дж.Прыстлі, музыка ў якім да пэўнай ступені нагадвае джаз.

**P.S.** У беларускіх слухачоў ёсць магчымасць пазнаёміцца з інструментальнай музыкай Уладзіміра Дамарацкага, што называецца, "жыўцом". Нагадаю нашым чытачам, што на аўтарскай вечарыне кампазітара, якая адбудзецца 26 лістапада ў Вялікай зале філармоніі, прагучаць ягоная Другая сімфонія і тры канцэрты — для сімфанічнага аркестра, для валторны і для трубы. Будзем чакаць ад сустрэчы з гэтай музыкай яркіх, цікавых уражанняў.

**Размову вяла**
**Антаніна КАРПІЛАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## Сябры!

*Калі Вы хочаце ведаць пра падзеі ў культурным жыцці Беларусі — падпішыцеся на "Культуру". Інфармацыя пра выставы, фестывалі, канцэрты, тэатральныя і кінарэцэнзіі, гутаркі з цікавымі і дасведчанымі людзьмі, гісторыя і літаратура — гэта ўсё Вы знойдзеце на нашых старонках. Да таго ж штомесяц выходзіць літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО".*

## Кошт падпіскі:

**на адзін месяц — 7 тысяч рублёў;**
**на адзін квартал — 21 тысяча рублёў;**
**на паўгоддзе — 42 тысячы рублёў.**

*Падпісны індэкс газеты "Культура" — 63875.*

## Выбіраючы нашу газету, вы аддаяце свой голас:

*— за нацыянальнае адраджэнне Беларусі;*
*— за зберажэнне і развіццё культурных традыцый беларускага народа;*
*— за больш важкі клопат дзяржавы ў вырашэнні матэрыяльна-эканамічных праблем культуры.*

# КУЛЬТУРА – 97



Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63875** (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар

на газету **63875** (індэкс выдання)

| Кошт | падпіскі | ____руб.____кап | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____руб.____кап | | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

БЕНЕФІС

# Я ЛЮБЛЮ

НЕЯК (так даўно...) запрасіў мяне Анатоль Грачанікаў на літаратурныя сустрэчы да сябе на радзіму, у Гомель. За тыдзень я даведаўся пра яго больш, чым за ўсе мінулыя гады.

Сустракалі яго землякі як на свята. Ён быў адным з іх. Адна з такіх сустрэч адбывалася ў гарадскім парку. Як заўсёды, на "ўра" прымалі Анатоля — і вершы, і песні ягоныя чалавечыя, і самога паэта, мякка-іранічнага. Потым я распавёў пра "кавалачак" журналісцкай эпапеі, пра пошук палоннага лётчыка, які ўгнаў нямецкі самалёт з Бабруйска ў кастрычніку 1941 года. Незвычайная была справа, фантастычная, з той толькі адметнасцю, што яна сапраўды была.

А потым выйшла на эстраду незнаёмая мне маленькая жанчына. Аб'явілі яе заслужанай артысткай, і яна пачала чытаць апавяданне... з маёй нядаўна выдадзенай кнігі. Гэта было для мяне нечаканым і, шчыра кажучы, прыемным. А чытала артыстка, зусім і не чытаючы: па-хатняму проста распавядала, нібыта і без усялякага тэатра, а так, быццам усе гэтыя людзі на лаўках пад адкрытым небам едуць з ёй у адным купэ цягніка і ўзгадалася ёй гэта, і вось яна гаворыць...

Гэта была найвышэйшая праява акцёрскага майстэрства, абсалютная натуральнасць, якая заваёўвае слухача без падрыхтоўкі.

Пачаўся дождж. (Я пішу гэта не дзеля ўмацавання ўздзеяння: ён сапраўды пачаўся), і ўсе, хто быў на сцэне, адышлі пад эстрадную "ракавіну". Пад даждом засталіся артыстка і гледачы. Яна чытала, над лаўкамі расквітнелі некалькі парасонаў. Ніхто не пайшоў.

— Гэта наша Карнеева, — нягучна сказаў Анатоль. — Ты яе не ведаеш?

"Дачытаўшы" апавяданне пад дажджом, артыстка атрымала, як кажуць, дружныя апладысменты і некалькі мокрых прыгожых букетаў і далучылася да нас. Мне падалося, што яна хітравата і цяпер ужо тэатральна-наіўна паглядзела на мяне. Узрушаны, я падзякаваў ёй за невядомыя дасюль перажыванні — і тут Анатоль пазнаёміў нас.

Гэта доўжыцца ўжо семнаццаць гадоў. Ужо даўно трывала заваявала яна, нічога не робячы для гэтага наўмысна, месца ў маёй душы побач з Настаўнікамі майго жыцця, якіх у кожнага з нас не так ужо і шмат, каб не памятаць пра іх і не сказаць, калі выдаецца магчымасць, "дзякуй".

Мы прызвычаіліся да таго, што настаўнік — гэта: школа, ВНУ, стол, кафедра, дошка... "Сядай, два!" Вось гэта — настаўнік. А потым жывеш і разумееш, што настаўнік — "гэта калі" чалавек нічога не робіць, а вам хочацца быць падобным да яго (нават хадою). Ці, вось, да прыкладу: сцэна тэатра і дватры акцёры, і вы ім верыце, нават іншы раз "узнікае штосьці ўсярэдзіне". Але — з'яўляецца Ніна Аляксееўна Карнеева, — і вы паплылі ў "пачуцці, думкі і ў іншыя добрыя справы". І вы разумееце, што да яе — быў басейн без вады, а цяпер — можна плаваць.

* * *

ЦЭЛАСНАСЦЬ натуры гэтай жанчыны, якая захавала такія маладыя вочы і чыстую душу (у тэатральным асяроддзі "незапэцканым" застацца цяжка — гэта не маё меркаванне, гэта сцвярджаюць самі артысты), — амаль подзвіг. Калі б пісаць пра Карнееву кнігу, дык эпіграфам можна было б узяць наступнае: "Пяцьдзесят гадоў без інтрыг". "Праўду ў вочы", — вось яе прынцып. (Іншы раз — здаралася і так: "Праўду ў лоб!") Яна лічыць тэатр чыстым месцам і надзвычай "старамодная" ў адносінах да такіх паняццяў, як гонар, сумленне, сяброўства. Яна маральна трывалая. Магчыма, менавіта гэта і адчувае глядач. А вось, як яна яму гэта "перадае" — гэта ўжо талент. Таму, мабыць, яна і стала Актрысай.

Сакрэт яе поспеху, яе тэатральнай моцы, мабыць, у тым, што яна пачынае жыць жыццём сваёй гераіні да сцэны. А ўжо на сцэне, калі настае час, ёй "няма што рабіць": пытанне тэхнікі. Але гэтага — тэхнікі — вучні Аляксандра Таірава атрымалі дастаткова. Іншая справа, натуральнасць пераходу ў іншае жыццё, у жыццё свайго героя — чаго і колькі гэта каштуе — справа канспіратыўная, і кошт ёй ведае толькі яна.

Ах, як прыгожа гаворыць Карнеева, калі гутарка тычыцца аднаго з самых чыстых талентаў вялікай сцэны — Кторава: "Фрак у СССР умеў насіць толькі ён!" І калі б гэта было казана толькі пра фрак... — пра вышыню і арыстакратызм гэтага, дасюль не ацэненага акцёра і чалавека, гаворыць яна. І не ведае, што ў мяне ў той жа момант узнікае паралель з ёю. Толькі вось, што з дамскага гардэроба — не фрак жа! — падыдзе ў дадзеным выпадку: амазонка? капялюш з вуаллю? сукенка са шлейфам? А магчыма, проста спадніца ды блузка, у якіх яна апранутая зараз?

Як усё ж дакладна: каб апісаць буру, ты павінен быць спакойным, а каб сыграць сварлівую бабу (і несварлівую таксама), трэба быць бабай "чыстай". Колькі пераіграла ўсялякіх ролей! "Адкуль берацё?" — "З сябе". — "Колькі ж іх "там"? — "Шмат". У тым і веліч актрысы, што асэнсоўваючы і спасцігаючы яе сусвет, мы пазнаем і сябе: колькі ж маіх "Я" на гэтым свеце? Хто я? Як жа мне не сказаць ёй, любай Карнеевай, яшчэ адзін "дзякуй" і за такі, падараваны мне, гледачу, метад спазнання свету.

* * *

ЧАЛАВЕКУ, які не бачыў Ніну Аляксееўну на сцэне, але які пажадаў даведацца, "што яна такое" як актрыса, нашаму чалавеку, які не дасведчаны ў галіне тэатра, які заняты здабычай хлеба надзённага і не мае часу ні на што іншае, — яму б я параіў "зірнуць", — толькі хвілінак 15-20 — на карнееўскую старую Мірчуткіну з чэхаўскага вадэвіля. Ніна Аляксееўна іграе яе падчас свайго юбілею-бенефіса. У гэтай ролі, нібыта ў кроплі вады, увесь карнееўскі акіян.

... Вось увайшла на сцэну і — цішыня... Гэта "цішыня сэнсу, які развіваецца дакладна". Уся Карнеева тут, усё яе доўгае і страснае жыццё на сцэне, уся разнастайнасць яе артыстычнага арсенала. Нічога не пакінута па-за сцэнай. Увайшла... І тут жа, моўчкі, толькі позіркам абазначыла яднанне з залай, гамяльчанка стагала веку, актрыса паводле прафесіі — ужо чэхаўская старая — і адразу! — Баба-Яга, якаяператвараецца ў ягня, а з жабрачкі ўжо перарабілася ў шляхцянку і — у Кашчэя Неўміручага... І імгненныя наступы-адступленні — і сквапнасць, нікчэмнасць — патрабаванне дванццаці трох рублёў ("Ну, что вам это стоит!!!"), якое ператвараецца ў прыніжаную просьбу аб васемнаццаці рублях — і ўзлёт, яшчэ троху і рабаванне! — пругкая спроба "адхапіць" аж дванцаць чатыры рублі! Націск, выклік, моц, злаславасць — слабасць, бездапаможнасць, наіўнасць, тупая беднасць... І ўжо зусім "немагчымае", нібыта з кута, з кустоў, дзе, "на ўсялякі выпадак, стаіць раяль", — хітры, жывы, імгненны, растлумачваючы позірк у залу: "Ну? Як я для вас сыграла? Як я іх!"

На вачах гледачоў-сведак адбылася "хімічная рэакцыя" — і адзінкавы лёс стаў лёсам агульным. А дакладнасць Карнеевай, па-акцёрску абсалютнай і вольнай, адпавядала (як жа гэта цяжка, амаль немагчыма на экране і на сцэне ў адносінах да Чэхава) эмацыйнай чэхаўскай матэматыцы.

І калі б вы маглі гэта бачыць і чуць, як у самым "цэнтры" Чарнобыльскай зоны (на дзяржаўнай мове: зона асаблівай увагі...), як пасля фіналу чэхаўскага "міні-вадэвіля" смяюцца сотні людзей... Гэта дорага каштуе. Асабліва сёння.



* * *

ЯЕ не заўжды "клікалі" на галоўныя ролі. Яна ніколі не білася за іх. Іграла, што прапаноўвалі, што трэба было, але... (У яе гэтых "але" ў біяграфіі незлічона). Як яна іх іграла, эпізоды свае, свае малыя эпапеі! У гэтым і бачная яе акцёрская сутнасць: служэнне. "Няма маленькіх ролей, ёсць маленькія акцёры". Калі паставіць разам яе камсамолак, піянерак, "дзяўчат" розных — парад фізкультурны на Краснай Плошчы можна наладжваць. А маці, сваццi, старыя — калгас засяліць можна і не маркотна ў ім будзе. І ўсе яны — жывыя. "Таямніца" актрысы.

Даць месца ў душы сотні людзей — і самой застацца такой, якой я сустрэў яе ў дзень прэм'еры вадэвіля ў гомельскім тэатры. Яна паказала мне праграму, — "... Але кахання не адбраць у душы" — і сказала: "І ніколі не адабраць!" Так, пакуль у тэатра ёсць такія актрысы, а ў жыцця такія жанчыны, безумоўна, не адабраць.

* * *

ГУТАРЫЛІ пра апошнюю ролю легендарнай Фаіны Георгіеўны Ранеўскай у п'есе "Далей — цішыня..." Мне падалося, што я разумеў тое, **што** сыграла Ранеўская, **што** аддала яна сцэнічнаму мужу свайму — Расціславу Пляту ў гэтым спектаклі, — надзвычай маладую сілу духу, падстаўіўшы вернае плячо жонкі, забараніўшы сваім пакутам вырвацца вонкі... Увесь СССР плакаў ля экранаў тэлевізараў, бачачы гэтую незатэатральную мужнасць старой жанчыны, якая стала такой моцнай Маці-Жонкай усім высакародным, але ўжо слабым мужчынам... Велізарны ўрок "жывым" дзецям і бацькам дала актрыса.

— Калі б іграла гэтую ролю, дык галоўным для мяне было б не пакуты і ўменне трываць. ("Падняць руку" на Ранеўскую?!)

Карнеева тлумачыла мне сваё разуменне гэтай ролі, спакойна "разбірала і збірала" механізм велічы жанчыны ўвогуле і ў гэтым спектаклі, у прыватнасці.

— Жанчына здольная ўзняцца да вышынь духу толькі ў працэсе спачування: у гэтым яе прызначэнне. Моц прыходзіць. Моц другасная. Першаснае каханне. На гэтым ва ўсе часы стаяла на зямлі жанчына. І я б яе так сыграла ў спектаклі "Далей — цішыня..."

У мяне ўзнікла ўражанне, што вось зараз увойдзе нялёгкая ў побыце Ранеўская і скажа Карнеевай сваім астматычным басам: "Любачка, дайце я вас пацалую... Вы маеце рацыю... З бутэлькі можна выліць толькі тое, што ў яе наліта... Кожны іграе сваё... Я моцная і ўмею пакутаваць... Гэта і атрымалася... А вы іграйце сваё: спачувайце... любачка мая..."

Колькі сыграна — не падлічыш (спрабавалі — атрымалася больш за 300 ролей). Але колькі не сыграна... "Чаго яна хоча? — кажуць мне. — Усё ўзяла і ўсё сыграла, наспеў час і супакоіцца".

— А я хачу яшчэ! Я магу яшчэ. Ну, безумоўна, не Афелію і Ніну Зарэчную. Гэтых з маладым нахабствам трэба было іграць яшчэ ў самадзейнасці ў студэнцкія гады ў пладова-ягадным інстытуце, дзе пачынала. Але "Далей — цішыня...", "Старая дзеўка", "Дрэвы паміраюць стоячы", "Дні нашага жыцця...".

Так мне хочацца, гледзячы на яе, перапоўненую багаццем, якое яна імкнецца аддаць нам (хто б падлічыў вострыя недахоп у грамадстве гэтых лекаў), так хочацца, далучыўшы свой голас да голасу "мас", папрасіць лёс і "таварыша ўрад", спадара рэжысёра (рэжысёраў) і мастацкія саветы: "Дайце Ніне Аляксееўне, — і некаторым іншым акцёрам, якія гэтага вартыя, — дайце ім магчымасць сыграць сваё. Пакуль яшчэ такая магчымасць ёсць".

Адзін з герояў Брэхта, сучасны неандэрталец, кажа: "Маральнасць — потым, спачатку — харчы". А мы ўжо столькі разоў пераконваліся ў правільнасці гэтай формулы з дакладнасцю да наадварот, што можам сцвярджаць: не будзе маралі — не будзе і "харчоў". А калі толькі харчы, дык далей — цішыня не Ранеўскай, Плята і Карнеевай, а — магілкавая цішыня.

* * *

КОЛЬКІ ўжо пры тэатральнай студыі настаўнічае, чытае "Гісторыю тэатра". А чаго ёй навучаць? Як казаў Зошчанка: "А чаго яму пісаць? Яму пісаць няма чаго! Яму толькі пячаткі ставіць!" А яна як? Прыйшла, іншы раз села, а іншы раз — і не, і штосьці кажа, нешта распавядае. Вось і ўся вучоба. А ў хлопцаў ды дзяўчат вочы ажываюць і ўжо твар, а не фатаграфія.

Вось фрагменты:

— Франтавыя брыгады ездзілі не куды заўгодна, а куды загадвалі. Трэба было іграць, вось і ўсё. І не пыталіся... — яна адыйшла ад стала да вакна і назад, на імгненне "выпала" з гэтай гадзіны і раптам прамовіла:

— Я б зараз куды заўгодна паехала, толькі б адно пытанне задала: "Што іграць?"

Рэпліка "з залы":

— А цяпер першае пытанне: "Колькі заплоцяць?"

Усе смяюцца, і Карнеева таксама. Але нешта "ў сярэднім" гэты смех не надта вясёлы, штосьці параўноўваючае чуецца ў ім. І параўнанне — не на карысць аўдыторыі. Дзякаваць Богу, зрабілі самаацэнку. Магчыма, верагодныя спробы такога "самабачання" каля Карнеевай павялічваецца? Магчыма, стасункі з ёю, яе маральнае поле, паводле Плутарха, "абуджае імкненне дзейнічаць"? Несумненна і праверана часам (паўстагоддзя жывой творчасці сёння — гэта вечнасць) — побач з гэтай Актрысай добра пачуваюцца сабакі, дзеці і гледачы.

Адна з першых яе ролей — казачок з катаеўскага "Сына палка". Згодна з роляй ёй трэба было свістаць. Цяжка, але навучылася. Такі атрымаўся заліхвацкі свіст, на дзве залы хапіла б. Хлапчукі — гледачы сур'ёзныя, іх падмануць — лаўрэатам стаць, — спецыяльна хадзілі на спектакль, спецыяльна сядалі на першы рад — каб вызначыць: ці сама свішча? І вынеслі "прысуд": "Не сама!"

Карнеева па-маладому смяецца і... ліха так свішча!

— Пяцьдзесят гадоў ужо мінула з тых першых выхадаў, і ўсе гэтыя гады на сцэне ўсё раблю сама.

Акцёр гомельскага тэатра А.Бычкоў: "Ніна Аляксееўна надзвычай чулы партнёр. Побач з ёю спакойна. А ўжо паглядзець, як яна канцэнтруецца для выхаду на сцэну... Чалавек яна... Але ў тым і фокус: з ёй лёгка і вельмі цяжка. Яна чалавек нязручны: усё адмоўнае ў суседзях — ці па сталу, ці па жыцці, не кажучы ўжо пра рамяство — усё адразу на кантрасце. Так... Карнееву любіць цяжка".

Вернемся ў аўдыторыю студыі.

— Ці змянілася што-небудзь у тэатры з часоў Вашай маладосці?

— Тэатр жывы і таму ён мяняецца штодня. Гэта яго закон. Але існуюць змены, што ад тэатра не залежаць. Час, ягоныя погляды і падзенні, рух грамадства

БЕНЕФІС

# КАРНЕЕВУ

"ва ўсе бакі". Зноў жа, эканоміка. Як сёння акцёру іграць, калі трэба думаць, як жыць? Да гледача трэба выходзіць з чыстай душою. Як яе захаваць? Нам, людзям, якія ніколі не мелі ашчадных кніжак, лягчэй, бо ў нас няма пытання: тэатр альбо не тэатр? А калі няма выбару, тады нараджаюцца вар'яты і фанатыкі, без якіх мастацтва не жыве. Наогул, вы зразумелі, што як бы ні мяняўся тэатр, нам лягчэй, чым вам.

Зноў усе смяюцца, але смех ужо цяпер "чысты".

— Быў Кукальнік. Глебу ён падрыхтаваў. Шчэпкін, Мачалоў — адраджэнне. Потым зноў "яміна". Тыя ж падзенні-ўзлёты. Які рэпертуар у рэвалюцыі? А такі, што Ярмолава пайшла, а Яблачкіна — самая смелая жанчына ў свеце! — напісала ліст ва ўрад: гэта не рэпертуар.

— А пасля вайны — адзіныя "Кубанскія казакі": і ў кіно, і ў тэатры, і ў літаратуры. "Фронт" Карнейчука прарывам лічыўся. А што ж адбываецца на вашых вачах?

Тыя ж падзенні і, здаецца, дзякаваць Богу, новы ўздым. Былі "чарнуха" і секс, без прасвету. Проста шчасце нейкае — выйсці аголеным на сцэну. Добра, што хоць да Захаду не дабеглі: ложак быў несапраўдным, а там — на самой справе. Але там яны дасканалай кантрацэпцыяй актрыс ад перманентнай цяжарнасці ратуюць, а ў нас што было б...

Смех цалкам чысты.

— Але, здаецца, уся гэтая чарната скончваецца. Бо народ — не дурны. "Павесяліліся" і хопіць. Па зале адчуваю — пайшлі на сур'ёзныя рэчы, на класіку. Неўзабаве зноў Пушкіна "з рынку" панясуць.

І ў нас у рэпертуары ёсць рух. Вось, вадэвіль паставілі, вось Лермантава... Гэта ўсё знакі зменлівасці тэатра.

Памятаеце: "Чаму людзі не лётаюць?" Існуе дзве, заўсёды дзве катэгорыі людзей: тыя, якія не хочуць лётаць і тыя, якія не навучыліся. А крылы ёсць ва ўсіх. Але камусьці яны перашкаджаюць поўзаць, а ў іншых складзены ў чаканні палёту. Унукам я тлумачу гэта прасцей: ёсць прыстойныя людзі і непрыстойныя. Першыя і толькі яны — заўсёды, паўсюль, ва ўсім — рухаюць жыццё наперад. Ад іх, гэта значыць, ад вас, усё і залежыць.

— Вы неяк усіх нас спісам залічылі ў прыстойныя...

— Так яно і ёсць. Вы яшчэ маладыя і не паспелі сапсавацца. На вас уся надзея. А давер — ён акрыляе. Вам будзе сорамна, калі вы падманеце мяне і станеце непрыстойнымі. І ўжо паверце мне і не трэба правяраць, цана вялікая — непрыстойнаму вельмі цяжка жывецца.

Яна раптам звяртаецца да мяне:

— Як ваш бацька адказаў вашай маці, калі тая скардзілася на беднасць, бацька не браў хабару і падачак?

— Ён адказаў так: "Затое мы з табой спакойныя і спім у сваім ложку".

— Што можа быць у жыцці лепш, чым гэта: спакойна спаць з каханым у сваім ложку, і каб вам не перашкаджала ні міліцыя, ні рэкецiры?

У каторы ўжо раз смяялася маладая аўдыторыя. Мне было добра ў гэтым пакоі. Яго саграваў і асвятляў "свяцільнік розуму", дабрыні і жаноцкасці, які гаварыў, смяяўся, сумаваў, і нават спрабаваў таньчыць.

Яна незвычайна лёгкая на пад'ём. І ні ў чым — гэта ж не тэатр, а проста гутарка ў студыі, — ні ў чым не пераступіла мяжу. Недарма Таіраў убачыў гэта ў ёй: мяжа, якую яна ніколі і ні ў чым не пераступіць.

* * *

АДНОЙ з абавязковых умоў паспяховага развіцця культуры і з'яўляецца, на маю думку, мастацкая атмасфера, якая жыве ў тэатрах, музеях, бібліятэках, канцэртных залах, у вечных постацях сівых, поўных годнасці наглядчыц. Пазнаваемасць знакамітых артыстаў, пісьменнікаў, музыкантаў, шанаванне іх — гэта не проста пазнаваемасць знешнасці, але і адчуванне атмасферы мастацкасці, якую яны ствараюць вакол сябе; асаблівага паветра, якім "дыхае" душа. Карнееву можна прылічыць менавіта да такіх творчых асобаў. Яна, нібыта планета, стварае вакол сябе гэтую найкаштоўнейшую атмасферу. Выходзячы з тэатра, яна нібы забірае з сабою ягоную часцінку, і дзе б яна ні знаходзілася — на вуліцы, у тралейбусе, у доме, — вы адчуваеце прысутнасць мастацтва. Яна сама і ёсць адухоўлены тэатр. Яна — ягонае "рэчыва". Зусім "нездарма" чулымі, інтэлігентнымі і далікатнымі выраслі яе дачка і ўнукі.

Гамяльчане вітаюцца з Карнеевай, нібы з маці горада. У сустрэчных святлеюць твары. Магчыма, не ўсе разумеюць, чаму з імі адбываецца ГЭТА, але адчуваюць гэта ўсе.

5 верасня па тэлебачанні прайшла паўгадзінная перадача "Творцы", прысвечаная Ніне Аляксееўне. Глядзеў, слухаў і ціха радаваўся.

Хочацца, таму і скажу: берагчы нам трэба нашых Карнеевых: яны — лекі ад бездухоўнасці. Улада абавязана клапаціцца пра іх. Вымавіць — вымавіў, але не ўпэўнены, што пачуюць.

А жывуць сёння артысты, пісьменнікі, мастакі, музыканты... — горш няма куды. "Усім кепска", — скажаце вы. Гэта праўда. Таму я не звяртаюся ў суд на матэрыяльнае жабрацтва народных артыстаў, а прапаноўваю паразважаць пра прыярытэты. А то нашым унукам і праўнукам і "падыхаць" не будзе чым.

* * *

НЕСЫГРАНЫЯ ролі... Шматгадовыя трагедыі душы.

"Дзіўная місіс Сэвідж"...

— Гэта ж мая роля! Гэта — для мяне!

"Дрэвы паміраюць стоячы" — прызначылі на галоўную ролю і — узялі іншую актрысу. За пяцьдзесят чатыры гады ў тэатры — колькі было перажыта...

Падумалася: калі б напісаць п'есу пра тое, як актрысе не дазвалялі іграць, як "з прычыны старасці" (гэта пра яе!) хацелі адабраць у яе сцэну... — які б мог атрымацца спектакль.

— Я б у ім іграла не сябе — сказала яна. — Я была шчаслівая — я шмат іграла. Бо ўсё не сыграў яшчэ ніхто.

* * *

ЯК добра, але і дзіўна ў нашыя дні пачуць гутарку афіцыйнай асобы, якая гаворыць актрысе ў прысутнасці гледачоў-сведкаў:

— Вы адухоўліваеце наш горад. (Карнеева ціхенька і збянтэжана засмяялася: "За больш чым трыццаць гадоў можна не толькі адуховіць...").

Адыходзяць старыя тэатралы, якіх яна, як актрыса, выхавала. "Для сябе шчыравала". Яна ж прафесіянал і таму зручная для рэжысёра: яна на сцэне ўсё можа. Як канёк-гарбунок: што задумаеш — будзе выканана. А пры яе трапяткім стаўленні да тэатра... — тут і закапаны скарб, пра які можна распавядаць нават афіцыйнай асобе. Карнеева стала легендай Гомеля. А легенды — справа цалкам зямная. Наведайце Гомель, ідзіце ў тэатр і сустракайцеся з Нінай Аляксееўнай.

* * *

"Я спазнала шчасце быць вучаніцай пры жывых настаўніках — рэжысёрах і акцёрах. І мне пашчасціла, што я доўга была вучаніцай і на сцэне пры іх жыцці: я іграла з імі. Мне нельга было іграць кепска альбо не вельмі добра. Гэта была школа...

Я ўсё жыццё вучылася і вучуся, імкнулася не спяваць з чужога голасу".

Яна гаворыць гэта ў чатыры раніцы ў сябе ў гомельскай кватэры — вакно адчынена ў цёплую красавіцкую ноч. Дзесятая гадавіна Чарнобыля. У Карнеевай — светлы твар. Яна і сёння цудоўная вучаніца вялікага Настаўніка — Жыцця.

Яна адзін на адзін з залай — і ніхто не дапаможа. Але ніхто і не перашкодзіць. Не зможа. Стварае Актрыса.

Актрыса, якую я люблю.

Нехта з вялікіх рэжысёраў сказаў: "Трэба мяняцца!" І згадаўшы гэта, я сказаў сабе: "Ратуй нас, Божа, ад зменлівасці асноваў. У маім жыцці не так і шмат было сапраўдных людзей і таму я хачу скончыць гэты газетны бенефіс словамі: "Ніна Аляксееўна, іграйце, жывіце доўга, будзьце здаровыя і — не мяняйцеся!"

**Ваш Навум ЦЫПІС**



1 кастрычніка ў дзень 75-годдзя вядомай актрысы ў Рускім драматычным тэатры імя Горкага адбылося віншаванне і ўшаноўванне народнай артысткі СССР Аляксандры Іванаўны Клімавай.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**



27 верасня ў тэатры імя Янкі Купалы гледачы віталі вядомую беларускую актрысу Зінаіду Браварскую ў яе бенефісным спектаклі "Смех лангусты". Гэта любімы спектакль Зінаіды Іванаўны. У ім Браварская іграла знакамітую Сару Бернар.
Так яна адзначыла свой юбілей. Пасля спектакля прыхільнікі яе таленту віншавалі любімую актрысу.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

